Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
"Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт
імя Францыска Скарыны"

Навукова-даследчы інстытут гісторыі і культуры ўсходнеславянскіх народаў
пры ГДУ імя Ф. Скарыны

# Спадчына Скарыны:
## да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

Зборнік навуковых артыкулаў

У дзвюх частках

Частка 1



Гомель
ГДУ імя Ф. Скарыны
2017

УДК 655.11(476.2):929*Ф.Скарына

Зборнік выдадзены пры фінансавай падтрымцы Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь

**Спадчына Скарыны**: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання : зб. навуковых артыкулаў : у 2 ч. Ч. 1 / рэдкал. : А. М. Ермакова (гал. рэд.) [і інш] ; М-ва адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель : ГДУ імя Ф. Скарыны. – 171 с.
ISBN 978-985-577-352-9 (Ч. 1)
ISBN 978-985-577-354-3

Зборнік навуковых артыкулаў “Спадчына Скарыны: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання” прысвечаны найважнейшай даце беларускай гісторыі і культуры. У ім прадстаўлены работы вядучых навукоўцаў Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы.

У першай частцы зборніка асэнсоўваецца веліч гістарычнай і культурнай спадчыны Францыска Скарыны, разглядаюцца актуальныя пытанні літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства, культуры.

Адрасаваны вучоным, выкладчыкам роднай мовы, гісторыі і культуры, студэнтам.

Зборнік выдаецца ў адпаведнасці з арыгіналам, падрыхтаваным рэдакцыйнай калегіяй, пры ўдзеле выдавецтва.



**Рэцэнзенты:**

доктар філалагічных навук А. А. Станкевіч,
кандыдат філалагічных навук І. А. Бароўская

**ISBN 978-985-577-352-9 (Ч. 1)**
**ISBN 978-985-577-354-3**

# ЗМЕСТ

## Постаць і справы Скарыны



## Літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства

# ПОСТАЦЬ І СПРАВЫ СКАРЫНЫ

*Р. М. Андрэявец*

## МІФЫ ПРА МЕЦЭНАТАЎ СКАРЫНЫ

Эпоха Адраджэння ў гісторыі заходняй Еўропы знакамітая тым, што бурнаму развіццю навукі, літаратуры, мастацтва і вышэйшай адукацыі тут садзейнічаў інстытут мецэнацтва.

Мецэнацтва – гэта ад Гай Цыльнія Мецэната, вядомага рымскага дзеяча, што жыў у першым стагоддзі да нашай эры. Ён апякаў такіх славутых паэтаў, як Вяргілій, Гарацый і іншыя. Па яго прозвішчу і названа гэтая з’ява дабрачыннасці.

Мецэнацтва – гэта заступніцтва, апека, пратэкцыянізм таго, у каго ёсць грошы, дзеля тых, у каго ёсць талент, але няма тых самых грошаў, каб гэты талент закрасаваў ва ўсю. Спрыянне багатых людзей мастацтву, кнігадрукаванню, літаратуры, навуцы – гэта іх веліч духа, найпрыгажэйшае праяўленне сутнасці чалавека ў зямным быцці.

У Вялікім Княстве Літоўскім, як сцвярджаюць многія навукоўцы, мецэнацтва было звязана з дзейнасцю Скарыны. Нібыта для падтрымання выдання Бібліі багатыя купцы Онкаў [1], Бабіч, Адвернік фінансавалі яго выдавецкую справу.

Што тычыцца грашовага ўкладу Багдана Онкава ў выданне Бібліі, мы дэталёва разгледзелі прыгаданую з’яву. Гэта было ніякае не мецэнацтва, а толькі ўсяго крэдытаванне выпуску кніг пад залог будучага тавару.

На мецэнацкай дзейнасці Бабіча і Адверніка спынімся крыху ніжэй.

* * *

А цяпер давайце паглядзім, як у век Скарыны і пазней дзейнічаў і развіваўся інстытут мецэнацтва на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Зачынальнікам і падтрымальнікам яго было магнацкае шляхецтва.

Вучоны муж і сакратар вялікакняскай канцылярыі Эразм Вітэліус апекаваў слыннага паэта Беларусі Міколу Гусоўскага, які на лацініцы напісаў паэму «Песня пра зубра», яму дапамог каралеўскі і вялікакняскі двор. Пра гэта сведчыць прысвячэнне кнігі каралеве Боне Сфорца і яе сакратару Людовіку Альфію. У прысвячэнні, адрасаваным каралеве, Гусоўскі выказаў пажаданне, каб Бона Сфорца стала апякункай мастакоў і паэтаў. Мецэнацкая дзейнасць, гаварыў паэт каралеве, прынясе карысць дзяржаве, бо «дзяржава апіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела».

Станаўленне новых форм мецэнацтва звязана з Радзівіламі. У сярэдзіне XVII стагоддзя яны ўстанавілі сувязі з многімі вядомымі выдавецтвамі. Пры іх непасрэдным удзеле выдадзена больш сотні кніг. Яны выйшлі ў Беларусі і за яе межамі. Больш палавіны гэтых кніг маюць аўтарскія і выдавецкія прысвячэнні Мікалаю Радзівілу Чорнаму і Мікалаю Радзівілу Сіротцы.

Апрача Радзівілаў, у арганізацыі беларускага і ўкраінскага кнігадрукавання бралі ўдзел князі Астрожскія, Хадкевічы, Алелькавічы, Сапегі, Тышкевічы. Выдавецкія цэнтры Заблудава, Вільня, Астрог былі вядомыя ва ўсёй Еўропе.

У знакамітай галерэі Радзівілаў знаходзілася больш за тысячу твораў. Сацыяльны прэстыж быў вызначальным фактарам у саперніцтве гэтага дома з іншымі магнатамі. Нездарма Радзівілы ў справе мецэнацтва супернічалі нават з каралём.

Важную ролю ў мецэнацтве адыгрывалі магнаты Пацы. Канцлер ВКЛ Крыштоф Пац фундаваў касцёл і кляштар езуітаў у Гродне, гетман ВКЛ Міхаіл Пац – касцёл святых Пятра і Паўла ў Вільні.

На сродкі Льва Сапегі ў Вільні быў заснаваны манастыр з касцёлам. Пры двары Марцыяна Агінскага – інструментальная капэла.

Ужо ў пазнейшыя часы вызначыўся сваёй філантрапічнай і мецэнацкай дзейнасцю вялікі гетман ВКЛ Міхаіл Казіміравіч Агінскі. Ён пабудаваў тэатр оперы, дзе гучалі скрыпкі Амаці, Гварнеры і Страдывары.

Уршуля Францішка Радзівіл ажывіла дзейнасць Нясвіжскай друкарні, стварыла першы ў ВКЛ тэатр.

Прадстаўнік даўняга беларускага магнацкага роду Храптовіча – Іаахім Літавор у сваім маёнтку Шчорсы пабудаваў уніяцкую царкву і палац, у якім захоўвалася бібліятэка каштоўных кніг і рукапісаў. Ён жа трымаў на свае сродкі пачатковыя школы для сялянскіх дзяцей у Шчорсах і Халопенічах.

Гродзенскі рэфарматар і мецэнат Антоній Тызенгауз стварае стацыянарны тэатр, балетнае вучылішча, аркестр, медыцынскую акадэмію, розныя доследныя школы. Для гэтага ў сваё памесце ён запрашае з Германіі, Галандыі, Аўстрыі знакамітых майстроў.

«Мода» на мецэнацтва пранікае і ў больш бяднейшыя слаі шляхты. Адзін з характэрных прыкладаў. Уладальнік маёнтка Дабраўляны Адам Гюнтэр дапамагае матэрыяльна мастаку К. Бахмантовічу і іншым творчым асобам, якія аказаліся ў яго памесці. І шматлікія галерэі дамашніх партрэтаў, іконы для цэркваў – усё гэта прыклады мецэнацтва небагатай шляхты. У іх шляхецкіх дварах знаходзілі прытулак многія мастакі і паэты.

* * *

Але ва ўсе гэтыя стагоддзі, пачынаючы ад Скарынавага, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага штосьці не відаць купцоў-мецэнатаў. Выключэнне складаюць хіба толькі Багдан Онкаў, Якуб Бабіч і Юрый Адвернік.

А можа, іхняе мецэнацтва – гэта пазнейшыя «здагадкі» даследчыкаў-гісторыкаў?

Пра тое, якім мецэнатам быў Багдан Онкаў, мы ўжо ведаем. Упамінанне ж, што «Малая падарожная кніжка» і «Апостал», выдадзеныя ў віленскай друкарні, якая размяшчалася ў доме бурмістра Якуба Бабіча, яшчэ не доказ таго, што апошні быў мецэнатам. Можа, тое самае памяшканне пад друкарню Якуб Бабіч здаваў у арэнду. Аплату браў ці грашыма, ці кніжкамі.

Прозвішча Адверніка да гэтага роду навукоўцы, відаць, прышчапілі дзеля кампаніі: як жа так, муж Маргарыты, якая потым стане жонкай Скарыны, – ды не даваў грошы на друкаванне Бібліі? Такога проста не можа быць.

А тое, што Маргарыта не ўхваляла выдавецкую дзейнасць Скарыны, відаць, з гэтага прыкладу: усе свае грошы яна ўклала ў гандлёвую справу брата Францыска – Івана. Не думаю, што, будучы замужам за Адвернікам, яна дазволіла б таму так неашчадна распарадзіцца грашыма і аддаць іх на непрыбытковае кнігадрукаванне.

Да таго ж у пачатку XVI стагоддзя купецкая справа ў Вялікім Княстве Літоўскім была небяспечным заняткам. На дарогах і рэках купцоў падсцерагалі разбойнікі. Іншым разам купец губляў усе грошы, укладзеныя ў справу. Лішніх грошай у тагачасных купцоў ніколі не было. І весці размову пра іх дабрачыннасць у часы Скарыны – справа бесперспектыўная. Мецэнацтва, як такога, у гэтым асяроддзі тады не назіралася.

Адкуль жа тады ўзнік гэты міф пра купецкае мецэнацтва на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў XVI стагоддзі? Як ён з'явіўся і што яго жывіла?

Давайце кінем погляд са Скарынавай эпохі на трыста гадоў наперад. І спынімся ў былой Расійскай імперыі.

XIX стагоддзе – залаты век рускай дабрачыннасці. Росквіт мецэнацтва ў Расіі прыходзіцца якраз на другую палову XIX стагоддзя. Цяпер на п'едэстале мецэнатаў – купцы. Сярод іх славутыя прозвішчы В. А. Кокарава, К. Ц. Салдаценкава, С. В. Марозава, братоў Рабушынскіх, Гучковых, Прохаравых, П. М. Траццякова, С. І. Мамантава і іншых.

Такога фенамена дабрачыннасці Расія яшчэ не ведала. Рускія купцы адкрывалі тэатры, карцінныя галерэі, лячэбніцы, школы і вучылішчы, фінансавалі дзейнасць літаратараў і мастакоў, збіралі калекцыі ікон, выдавалі лепшыя творы айчыннай і сусветнай навукі, літаратуры і культуры, стваралі новыя газеты.

Каб даваць, трэба мець. Накапленню багаццяў у Расіі спрыялі эканамічныя абставіны. У другой палове XIX ст. тут былі праведзены рэформы і адменена прыгоннае права. Разбуджаная Расія стала краінай зусім новых людзей. Яны прыйшлі, здаецца, з невядомасці, каб пакарыць жыццё. Многія з іх, пачаўшы з купецтва і накапіўшы першапачатковы капітал, адкрывалі фабрыкі і заводы, станавіліся заможнымі фабрыкантамі. Частку сваіх велізарных прыбыткаў яны пачалі ўкладваць у дабрачыннасць. Новым у іх мецэнацкай дзейнасці стала тое, што яны адкрылі дзверы сваіх дамоў і зрабілі ўласныя калекцыі агульнадаступнымі.

Што рухала імі? Якія пачуцці стаялі за гэтай унікальнай дзейнасцю, за гэтымі велізарнымі ахвяраваннямі?

Думаецца, лепш за ўсё выказаў гэта вядомы фабрыкант Васіль Іванавіч Прохараў, калі павучаў дзяцей: «Жывіце не для багацця, а для Бога».

В. І. Прохараў, В. А. Кокараў, К. Ц. Салдаценкаў, С. В. Марозаў, браты Рабушынскія і Гучковы і яшчэ многія знакамітыя купецкія дынастыі – усе яны былі стараверамі. А пастулаты стараверства заключаюцца ў тым, што ўсё нажытае ад грамадства і павінна вярнуцца гэтаму ж грамадству. І яно вярталася. У выглядзе тэатраў, лячэбніц, школ, опер, карцін.

Вядома ж, сярод купцоў-мецэнатаў знаходзіліся і праваслаўныя традыцыйнага веравызнання. Матывамі іх дабрачыннасці было, відаць, і простае саперніцтва, якое ўласціва ўсім людзям. Акрамя таго, дзяржава не пакідала па-за ўвагай праявы мецэнацтва. За яго купцы атрымлівалі чыны і ордэны.

*Феномен мецэнацтва ў Расіі ў XIX – пачатку XX стагоддзя без крытычнага аналізу вучонымі-скарыназнаўцамі быў перанесены на глебу Вялікага Княства Літоўскага пачатку XVI стагоддзя. Таму і з'явіліся тут міфічныя мецэнаты Багдан Онкаў, Якуб Бабіч, Юрый Адвернік. Хаця гістарычныя ўмовы ў XVI стагоддзі ў Літве ніяк не садзейнічалі ўзнікненню дабрачыннасці ў асяроддзі людзей трэцяга саслоўя.*

## ЦІ СЛУЖЫЎ СКАРЫНА Ў ДАЦКАГА КАРАЛЯ?

Адно, бадай, з самых спрэчных пытанняў ў скарыназнаўстве – гэта служба Францыска Скарыны ў якасці сакратара дацкага караля.

Каб не быць галаслоўнымі, дадзім вытрымкі з пратакола падуанскай курыі аб прызнанні годнасці Францыска Скарыны ў галіне медыцыны і наданне яму звання доктара медыцыны. Вось гэты тэкст: «1512 (год), індыкта XV. У аўторак 9 лістапада месяца. Асобы экзамен у галіне медыцыны знакамітага мужа пана магістра Францыска, сына нябожчыка пана Лукі Скарыны з Полацка, русіна, сакратара караля Дацыі…».

Пратакол падуанскай курыі ад 3 лістапада 1512 года адшуканы А. Садоўскім у 1960 годзе. Ён цяпер захоўваецца ў архіве горада Падуі.

Прафесар Карлава ўніверсітэта з Прагі А. Фларoўскі адзначаў у 1968 годзе існаванне варыянта дакумента з напісаннем «Дасіае», які, паводле яго слоў, выявіў у 1937 годзе італьянскі прафесар Этора Ла Гата.

Фларoўскі пісаў: «… у 1960 і 1962 гг. вучоным сталі даступныя новыя, вельмі кароткія запісы аб Скарыне, у якіх ён называецца «secretarius regis Datiae» або «Dasiae». Пры гэтым чэшскі вучоны спасылаўся на публікацыі ў часопісе «Зніч» за 1960 і 1962 гг. *(гл. «450 год Беларускага кнігадрукавання». – С. 428–429)*.

Беларускія вучоныя знайшлі замежны часопіс «Зніч». Уважліва прачыталі напісанае. Прыйшлі да высновы, што слова «Datiae» па факсімільных здымках нідзе праз «с» не прачытваецца, а толькі праз «t», як «Datiae».

З таго часу і пачынаецца супрацьстаянне навукоўцаў па гэтаму спрэчнаму пытанню. «Дацыя» або «Дакія»? Што лічыць правільным?

Міфічную «Дацыю» – можа, гэта памылка таго, хто пісаў пратакол падуанскай курыі – нідзе не знаходзілі. Тады адны даследчыкі пачалі атаясамліваць «Дацыю» з Даніяй, другія – з Румыніяй і Малдовай.

У апошні час пачала пераважваць «дацкая» версія.

Нядаўна быў знойдзены дакумент Ватыкана, пазначаны 1512 годам, дзе гаварылася, што да папы Юлія «прыбыло пасольства дацкага караля. Ад імя гэтага пасольства выступіў каралеўскі сакратар, які паведаміў, што да V Латэранскага сабору, які адкрыўся вясной 1512 года, хацеў бы далучыцца маскоўскі цар Васіль ІІІ».

Да «дацкай» версіі прыцягнулі пісьмо таксама шатландскага караля, у якім гаварылася, што кароль Даніі вёў перамовы з Васілём ІІІ аб аб'яднанні двух галін хрысціянства, схіляў маскоўскага цара да прыняцця ўніі.

Вядома ж, сакратаром караля Даніі навукоўцы «прызналі» Францыска Скарыну, хаця імя таго і не названа. А як жа! Толькі ён павінен займаць гэту пасаду! Недарэмна, быццам бы яшчэ ў 1509 годзе вялікі князь Жыгімонт І накіраваў яго ў складзе пасольскай дэлегацыі ў Капенгаген для падпісання дамовы аб сяброўстве.

Толькі вось незразумела, як гэта Скарына з пасольства Вялікага Княства Літоўскага нечакана «пераляцеў» у сакратары дацкага караля. Для яго што – нічога святога няма? Адну радзіму мяняць на другую!

Так не паступаюць прыстойныя людзі.

А затым гэтак жа нечакана праз тры месяцы, кінуўшы дыпламатычную місію, аказаўся ў Падуі, дзе бліскуча вытрымаў экзамен на званне доктара медыцыны. І зноў некуды нечакана знік?

Пагэтаму не верыцца ў Скарынава «сакратарства дацкага караля». Тут усё прыцягнута за вушы і наварочана столькі, што без свечкі ў белы дзень нічога не ўбачыш.

"А як жа тады *secretarius regis*?" – скажуць апаненты. Гэтае словазлучэнне перакладаецца як *сакратар караля*.

Аднак не толькі. Як зазначыў таленавіты скарыназнаўца з Гомеля Мікалай Палкоўнічанка, слова *regis* перакладаецца яшчэ і *правіцель*. А *правіцелямі*»маглі быць не толькі каралі, але і цары, султаны, візіры, князі, гаспадары, графы, ваяводы, бароны…

* * *

Зробім невялікае дапушчэнне. На хвіліначку пагодзімся з тым, што Скарына быў сакратаром караля Даніі. І вёў перамовы аб далучэнні да Лютэранскага сабору маскоўскага цара Васіля ІІІ.

Мы ведаем, што Францыск Скарына родам з Вялікага Княства Літоўскага. Ён любіць свой слаўны Полацк і пазней, стаўшы кнігадрукаром, выдасць на старабеларускай мове Біблію. Любоў да мовы – гэта любоў да Радзімы. І гандляваць ёю прыстойны чалавек не можа.

У той час, калі Францыск Скарына быццам бы знаходзіўся ў Даніі, яго родная краіна мела варожыя стасункі з Маскоўскай дзяржавай. Так, у 1492 годзе пачалася першая вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім. Тады да Масквы адышлі Вяземскае княства і землі ў басейне верхняй Акі.

У 1503 годзе ў выніку няўдалай для Княства вайны да Маскоўскай дзяржавы адышлі Чарнігаў, Старадуб, Гомель, Ноўгарад-Северскі, Рыльск, Любеч, Пуціўль, Бранск, Невель і іншыя гарады.

У 1508 годзе – мяцеж Глінскага, падтрыманы Маскоўскай дзяржавай.

У 1512 годзе зноў баявыя дзеянні. Маскоўскае войска авалодала Смаленскам і пачало наступленне ў бок Оршы…

Таму Скарына не мог весці перамовы, каб спрыяць ворагу сваёй Радзімы. Ён, хутчэй за ўсё, адмовіўся б ад такой дыпламатычнай місіі.

* * *

А цяпер звернемся яшчэ да аднаго дакумента з Падуі. Уважліва ўчытаемся ў яго: «Найдастойнейшыя паны дактары! Прычына склікання Вашых дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў…»

І яшчэ: «Паны дактары, Вы выслухалі гэтага беднага і вучонага юнака…»

Бедны, беднага…

Уражанне такое, што ў знакаміты Падуанскі ўніверсітэт Францыск Скарына прыбыў у старадаўніх беларускіх лапцях. Правільней кажучы, у літоўскіх, бо яго Радзіма была Вялікае Княства Літоўскае.

Ну хіба ж можа так паводзіць сябе «сакратар караля Даніі»? Ён хіба не ведае пра гонар той краіны, якую прадстаўляе, або пра свой асабісты гонар?

На той час Данія была адной з багацейшых краін Еўропы. Там за службу плацілі вельмі добра. А калі ты быў яшчэ «сакратаром караля», ды яшчэ ўзначальваў пасольства ў перамовах з каталіцкім папай, то, відаць, у такога чалавека грошай – куры не клююць. Можна накапіць на бязбеднае існаванне на цэлае жыццё не толькі сабе, але і сваім дзеткам.

А тут перад намі ў Падуі стаіць амаль жабрак. І ўсяго тры месяцы прайшло з той пары, калі ён узначальваў прадстаўнічае пасольства да папы. Цяпер жа ён быў настолькі бедны, што «найдастойнейшыя дактары» Падуі вымушаны былі прымаць у яго бясплатна экзамен. А яны вельмі цанілі свой час і свае грошы.

Ну не верыцца ў тое, што Францыск Скарына прыбыў у Падуанскі ўніверсітэт з Капенгагена, дзе быў сакратаром караля Даніі Іаана І (1455–1513 гг.). Да таго ж яшчэ і адначасова караля Нарвегіі і герцага Шлёзвіг-Гальштэйна. Як не верыцца і ў тое, што ён вучыўся на медыка ў Капенгагенскім універсітэце. Па той простай прычыне, што ў тамашнім універсітэце тады быў толькі адзін багаслоўскі факультэт. А багасловы медыкаў, як вядома, ніколі не вучылі.

* * *

Чаму ж «найдастойнейшыя» прынялі ў беднага Францыска Скарыны экзамен бясплатна? Чым жа ён так іх уразіў, што яны пайшлі супраць сваёй меркантыльнасці?

Кодавае слова тут «Дакія». Імперскі сіндром доўга трымаецца ў генах. А выкладчыкі з Падуі былі далёкімі патомкамі старажытных рымлян, што калісьці ўладкоўвалі жыццё і дарогі дакаў. І ім непрыемна было бачыць, як адтуль амаль жабракамі прыходзяць да іх людзі.

І патрыятызм адыграў, відаць, тут сваю ролю. Калі вы, у далёкай Дакіі, дагаспадарыліся на тамашніх землях да таго, што здольныя людзі прыбываюць да нас беднымі, то наш абавязак, абавязак рымлян, зрабіць усё так, каб здольныя людзі з Дакіі, дзе мы калісьці былі гаспадарамі, станавіліся яшчэ і багатымі. І няхай гэта багацце прынясе мантыя доктара медыцыны.

Наспела, відаць, пара шукаць сляды Францыска Скарыны ў далёкай Дакіі. Што здарылася там? Чаму ён прыбыў адтуль бедным? Паспрабуем знайсці на гэта адказ.

УДК 811.161.3: 81'373.2

*В. У. Азарка, А. С. Васілеўская*

# НАМІНАЦЫІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў ПАЭТЫЧНЫМ ТЭКСЦЕ: КУЛЬТУРНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ – ПРЭЦЭДЭНТНАСЦЬ

У артыкуле на аснове аналізу намінацый Францыска Скарыны, ужытых у паэтычных творах, вылучаецца энцыклапедычная і сімвалічная інфармацыя, закладзеная ў імені беларускага асветніка, робіцца вывад пра прэцэдэнтны статус імені Францыска Скарыны ў беларускай культуры. Аналіз інфармацыі, закладзенай у прэцэдэнтным імені Францыска Скарыны, дазваляе гаварыць пра найбольш значныя для беларусаў культурныя прыярытэты, сярод якіх трэба адзначыць імкненне да ведаў, арыентацыю на нацыяльныя традыцыі, працу на карысць свайго народа, непарыўную сувязь з Радзімай.

Праблема ўзаемаадносін мовы і культуры здаўна знаходзіцца ў цэнтры пільнай увагі філосафаў, сацыёлагаў, псіхолагаў, лінгвістаў. У апошнія дзесяцігоддзі значная колькасць лінгвістычных даследаванняў прысвечана вывучэнню ролі моўных адзінак, і ў прыватнасці, ласных імёнаў, у назапашванні і перадачы культурнай інфармацыі.

Многія онімы набываюць статус прэцэдэнтных імён, паколькі "воплощают социально-исторический опыт носителей языка, являются своеобразным архетипом, с помощью которого возможно реконструировать не только условия и особенности жизнедеятельности народов (топонимика), но и сам «дух народа», целый ряд его составляющих: ценности, взгляды, установки и т. п." [1, с. 55 ]. Прэцэдэнтнае імя – гэта заўсёды "вяршыня піраміды", сімвал, які валодае традыцыйна прызнанымі ў даным грамадстве значэннямі, выяўляе сацыяльныя міфы і стэрэатыпы. На думку даследчыкаў, менавіта такія вяршыні якраз і дазваляюць ахапіць культурны вопыт, назапашаны чалавецтвам [2].

Да імён нацыянальнага ўзроўню прэцэдэнтнасці па праву адносіцца імя Францыска Скарыны.

Уяўленне пра гэту гістарычную асобу мы атрымліваем пераважна з навуковых, навукова-папулярных і мастацкіх тэкстаў. На іх аснове і фарміруецца той комплекс ведаў, які дазваляе зразумець прэцэдэнтную інфармацыю, закладзеную ў імені Францыска Скарыны. Прасочым, якога тыпу інфармацыя пра нашага славутага земляка акцэнтуецца, захоўваецца і перадаецца праз паэтычныя творы, змешчаныя ў зборніку "Падарожная кніжка Скарыны" [3].

А. І. Жураўскі – адзін з аўтараў энцыклапедыі "Францыск Скарына і яго час" – адзначае, што самай папулярнай формай імені, якую пазначаў сам асветнік і якая пераважае ў актавых запісах, з'яўляецца форма *Францыск* [4, с. 343]. Аднак паэты ў якасці ўласнай асабовай намінацыі побач з імем *Францыск* выкарыстоўваюць імёны *Георгій* і *Франціішак*:

*Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,*
*Аб горадзе Полацку слава ішла, —*
*Друкар там выдатны Георгій Скарына,*
*Што зоры, рассыпаў па роднай краіне*
*Крыштальныя словы навукі-святла…* (П. Броўка. Беларусь).

*О, Францішак… Францішак Скарына,*
*Што над гранкай друкарскаю гнуўся!..*
*Ведай, праца твая пакарыла*
*Новы свет для сівой Беларусі!* (А. Дудар. Скарына).

Выкарыстанне імені *Георгій* у якасці намінацыі Скарыны, як адзначае А. І. Жураўскі, абумоўлена памылкай, дапушчанай пры перакладзе грамат з лацінскай мовы. Доўгі час гэта памылка служыла аргументам у спрэчцы наконт веравызнання асветніка. Версія аб тым, што Скарына быў праваслаўным, а імя памяняў, каб паступіць у каталіцкі Кракаўскі ўніверсітэт, знайшла і паэтычнае ўвасабленне:

*Ты мне, мой горад, даруй,*
*што ціхае імя Францішак*
*Я змяніў на нянаскае, гучнае імя Георгій* (Г. Бураўкін. Скарына).

Паэты аддаюць перавагу форме *Францішак,* хоць, як сцвярджае А. І. Жураўскі, "для ўжывання такой формы няма дастатковых падстаў, паколькі ад яе адмовіўся сам Скарына ў пазнейшы перыяд сваёй выдавецкай дзейнасці" [4, с. 344]. Выкарыстанне гіпакарыстычнай формы абумоўлена імкненнем паэтаў наблізіць асобу Скарыны да чытачоў, што пацвярджаецца і іншымі намінацыямі.

*Заціхлі званы, адбылася імша,*
*йзноў спевы гучаць на лаціне.*
*Дыплом уручаюць: ён сын Лукаша,*
*палачанін, Францішак Скарына...* (Л. Геніюш. Скарына).

У паэтычных творах мы вылучылі каля 30 агульных назоўнікаў, ужытых у якасці намінацый асветніка. Аналіз гэтых найменняў дазваляе зразумець, як паэты ХХ стагоддзя ўспрымаюць асобу асветніка, якую культурную інфармацыю імкнуцца актуалізаваць і данесці да чытача.

Усе выяўленыя намінацыі мы аб'яднալі ў тры групы. Можна лічыць, што гэтыя групы акрэсліваюць пэўнае кола ведаў, звязаных з іменем Скарыны.

Самая вялікая група намінацый апісвае розныя аспекты дзейнасці Францыска Скарыны. У тэкстах, прысвечаных асветніку, традыцыйна ўжываюцца намінацыі *лекар, першадрукар, вучоны, пісьменнік, волат Адраджэння, тытан Адраджэння.* Прааналізаваныя паэтычныя тэксты не сталі выключэннем. Найбольшай частотнасцю ў іх характарызуюцца назоўнікі *друкар* і *першадрукар*:

*Прароцтва кнігу ў маладой абнове,*
*Першадрукар наш — сын купца Лукі.*
*І праз вякі яго на роднай мове*
*Усе чытаюць, дзеці і бацькі* (П. Прыходзька. Скарынаўскаму цэнтру).

*Друкар нястомны*
*ў спадчыну пакінуў*
*Нашчадкам кнігі –*
*толькі і ўсяго* (У. Скарынкін. Спадчына Скарыны)

Аўтары вершаў акцэнтуюць увагу на тым, якія вынікі мела друкарская справа, падкрэсліваюць, што кніга несла людзям адукацыю, вучыла быць людзьмі. Невыпадкова, у адным радзе з намінацыямі *друкар* (*першадрукар*) ужываюцца лексемы *асветнік* і *гуманіст*:

*Асветнік, вучоны*
*І першадрукар,*
*Наш гонар —*
*Францішак Скарына* (М. Пазнякоў. Скарына).

*Свет загаманіў, нарэшце,*
*што з'явіўся палачанін*
*першадрукар Скарына, гуманіст...* (М. Федзюковіч. Споведзь).

Намінацыя *асветнік* рэдкая ў паэтычным кантэксце, аднак пісьменнікі падкрэсліваюць асветніцкі аспект дзейнасці Скарыны праз метафарычнае ўжыванне

антонімаў *цемра* ‘культурная адсталасць; невуцтва’ і *святло* ‘сімвал прагрэсу, навукі, праўды, шчасця’:

*Вайну абвясціўшы цемры,*
*Невуцтву*
*ў краі родным, —*
*Да ведаў ішоў ты цераз*
*Замежных дзяржаў вароты* (К. Жук. Францішку Скарыне).

*Можа, словы былі як загад,*
*гэту мову пакутныя ўнукі*
*захавалі пад стрэхамі хат*
*для святла, для дабра, для навукі* (Л. Геніюш. Скарына).

Асветніцкае значэнне дзейнасці Ф. Скарыны падкрэслівае і выкарыстанне з пераносным значэннем слова *сейбіт* ‘той, хто распаўсюджвае сярод людзей веды і пад.’:

*Скарына. І я, браце, сейбіт.*
*Многія я абышоў гарады* (В. Вітка. Беларуская калыханка).

Варта адзначыць, што слова *сейбіт* В. Вітка ўкладвае ў вусны свайго героя: яно з’яўляецца своеасаблівай самахарактарыстыкай. Падобным прыёмам карыстаецца і М. Арочка ў вершы “Прамаўленне Скарыны”, напісаным ад імя самога друкара. На аснове пераноснага значэння слова *сеяць* ‘распаўсюджваць сярод людзей (асвету, ідэі, чуткі і пад.)’ разгортваецца метафарычная карціна дзейнасці Францыска Скарыны, намаляваная лірычным героем:

*Я сеяў слова, адліваў у шрыфце,*
*Па полі белым сыпаў, як з сяўні.*
*Патрэбна ж людзям столькі дабрыні,*
*Святла, прачыстай праўды з глыбіні!*
*І мудрасці… Без іх –*
*хто мы, скажыце?* (М. Арочка. Прамаўленне Скарыны).

Святло навукі мог распаўсюджваць толькі адукаваны чалавек, таму ў вершах нярэдка сустракаюцца намінацыі, якія падкрэсліваюць вучоны статус Францыска Скарыны, апісваюць яго шлях у навуку: *студэнт – бакалаўр – вучоны*:

*Студэнт Скарына паўз вячэрні плёс*
*Шыбуе адзінока па ўзбярэжжы* (А. Зарыцкі. Саперніцы)
*Гляджу*
*праз гады нябыту*
*Туды, дзе ты ўзважваў пралікі,*
*Карпеў, бакалаўр знакаміты* (К. Жук. Францішку Скарыне)

*Хоць лекавых раслін аддаўна*
*Быў вядомым знаўцам,*
*Расліну ж распазнаць не мог*
*Вучоны самавіты* (С. Шушкевіч. Скарына ў Празе).

Францыск Скарына, як вядома, абараніў вучонае званне доктара лекарскіх навук. Гэта інфармацыя часта вылучаецца ў вершах праз выкарыстанне намінацый *доктар* і *лекар*. Прычым лексема *доктар* рэалізуе ў вершах два значэнні – ‘урач, лекар’ і ‘самая высокая вучоная ступень’:

*Ужо доктар навукі пад сілу яму.*
*З Падуі слаўнай, з чужыны,*
*вязе Беларусі, народу свайму*
*жыццё сваё, званні і імя* (Л. Геніюш. Скарына).

*Спяшае доктар Русь лячыць —*
*Ад нематы, ад глухаты,*
*Ад пракавечнай цемнаты* (К. Цвірка. Францыск, Скарынін сын).

Ужыванне мнагазначнай лексемы *доктар* дазваляе паэтам падкрэсліць гуманістычны характар дзейнасці Францыска Скарыны і праз кантэкстуальнае збліжэнне гэтай лексемы са словамі *асветнік, гуманіст*, і праз яе супрацьпастаўленне з лексемай *лекар*.

*У белы свет рассунуў сцены*
*З тае спрадвечнае глушы,*
*Быць меўся лекарам для цела,*
*А стаўся доктарам душы* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

Францыск Скарына быў першым у розных сферах дзейнасці, таму ў якасці намінацый ужываецца не толькі слова *першадрукар*, але і аказіяналізмы *першадоктар, першапаэт, першаздабытчык святла*:

*І з долу, поўнага па коптур*
*Пітвом нялюдскіх мук і кар*
*На свет прабіўся*
*першадоктар,*
*Першапаэт, першадрукар.*

*А ў лесе, ў доме, у свеце – цёмна!*
*З тых часаў думка павяла*
*Яго на подзвіг векапомны,*
*Першаздабытчыка святла* (М. Лужанін. Як нараджаўся новы свет).

Другая група найменняў, вылучаных у вершаваных творах, падкрэслівае цесную сувязь Скарыны з Радзімай. У вершах мы сустракаем намінацыі *палачанін, зямляк, суайчыннік, сын Радзімы*:

*Дарогаю Петраркі палачанін*
*У Прагу з прагай рупнасці прыйшоў,*
*Каб потым іх імёны спалучалі,*
*Нібы на храмах постаці крыжоў* (Р. Барадулін. Скарынавы сляды).

*Запомні ўсім сэрцам*
*Як велічны дар*
*Радзімы*
*Славутага сына* (М. Пазнякоў. Скарына).

Жыццё Скарыны – гэта вечнае падарожжа, пошук ведаў і мудрасці за межамі сваёй радзімы, што ўвасоблена ў пераносным значэнні слова *пілігрым* ‘вандроўнік, падарожны’:

*Блукаў па свеце пілігрым —*
*Развеяў столькі лет і зім!*
*Цяпер ад тых чужых дымоў*
*Спяшыць Скарынін сын дамоў* (К. Цвірка. Францыск, Скарынін сын).

Аднак усе гэтыя вандраванні былі для таго, каб прынесці карысць сваёй Радзіме. Для таго, каб паказаць еднасць Францыска Скарыны з роднай зямлёй, ацаніць значэнне дзейнасці знакамітага палачаніна для радзімы, Змітрок Бядуля выкарыстоўвае метафарычныя словазлучэнні *кветка родных межаў, вясёлка з-пад туману*:

*Пад месяцам, пад сонцам Полацкіх капліц,*
*Пад спеўнымі званамі залачоных вежаў,*
*Пад паляўнічым рогам ў явах таямніц*
*З'явіўся наш Скарына кветкай родных межаў,*
*Вясёлкай з-пад туману* (З. Бядуля. Паходні).

Трэцяя група намінацый – тэрміны сваяцтва *продак* і *прапрадзед* – дазваляе падкрэсліць сувязь, якая праз стагоддзі звязвае постаць Францыска Скарыны з нашымі сучаснікамі:

*Тут беларус – прапрадзед мой*
*Калісьці ўпершыню друкарыў* (В. Іпатава. Вільнюсу).

*Мой суайчыннік, продак мой Скарына!*
*Прымі за тое ад мяне паклон,*
*што езуітам хіжым не скарыўся, што кінуў*
*ў твар святым айцам праклён...* (М. Федзюковіч. Споведзь).

Значэнне асабістай звязанасці з ідэямі Скарыны, з яго справамі падкрэслена ўжываннем займенніка *мой*, якое спалучаецца з лексемамі *прапрадзед*, *продак*.

Цесная сувязь поглядаў Францыска Скарыны з сучаснасцю, значэнне яго дзейнасці для сённяшняй Беларусі сталі вобразнай асновай верша Д. Бічэль-Загнетавай:

*Будучыня Беларусі –*
*старажытныя кнігі Скарыны.*

*Натхненне і талент нашчадкаў*
*у вобразах вершаў Скарыны…*

*І не малее запас*
*у змалоту Скарынавых думак.*

*І як бы тут ні прыйшлося*
*удольваць упорысты лёс, –*

*выйграў нам час Скарына.*

Мы бачым, што ў вершах, прысвечаных Францыску Скарыну, замацоўваецца як энцыклапедычная інфармацыя пра яго (*Георгій-Францішак, студэнт-бакалаўр-вучоны, батанік, лекар, палачанін, сын Лукі, першадрукар*), так і сімвалічная (*асветнік, гуманіст, першаздабытчык святла, славуты сын Радзімы* і інш.). Рэалізацыя сімвалічнай інфармацыі ў паэтычным кантэксце (што мы назіраем у вершы Л. Паўлікавай) і дазваляе гаварыць пра імя Францыска Скарыны як прэцэдэнтнае:

*“Абы научившися мудрости…”* –
*Рок наш!*
*О, дзе ж вы,*
*Скарыны сямідзясятых?!* –
*Хто спіўся,*
*хто знік за мяжой ці адрокся* (Л. Паўлікава. Сумненне і вера).

На наш погляд, пад *Скарынамі сямідзясятых* паэтэса разумее людзей разумных, адукаваных, адданых сваёй радзіме.

Такім чынам, аналіз інфармацыі, закладзенай у прэцэдэнтным імені Францыска Скарыны, дазваляе гаварыць пра найбольш значныя для беларусаў культурныя прыярытэты, сярод якіх трэба адзначыць імкненне да ведаў, арыентацыю на нацыяльныя традыцыі, працу на карысць свайго народа, непарыўную сувязь з Радзімай.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Пан, С. М. Личное имя как культурный символ: стереотипы и мифы [Электронный ресурс] / М. С. Пан // Текст и дискурс : традиционный и когнитивно-функциональный аспекты исследования : сб. науч. тр. / Ряз. гос. пед.ун-т им. С. А. Есенина ; под ред. Л. А. Манерко. – Рязань, 2002. – 236 с. – Режим доступа: http://www.studfiles.ru/preview/4538410/page:55/. – Дата доступа: 15.08.2017.

2. Костомаров, В. Г. Как тексты становятся прецедентными / В. Г. Костомаров, Н. Д. Бурвикова // Русский язык за рубежом. – 1994. – № 1. – С. 73–76.
3. Падарожная кніжка Скарыны : зб., прысвеч. 500-годдзю беларус. першадрукара : для сярэдн. і ст. шк. узросту / уклад. С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 326 с.
4. Жураўскі, А. І. Імя і прозвішча Ф. Скарыны / А. І. Жураўскі // Францыск Скарына і яго час : энцыкл. даведнік / Беларус. Сав. Энцыклапедыя ; рэдкал.: І. П. Шамякін [і інш.]. – Мінск : БелСЭ, 1988. – С. 343–344.

УДК 882.6.09(075.8)

***А. І. Аўсяннікава***

# ІВАН ФЁДАРАЎ – ПРАДАЎЖАЛЬНІК ТРАДЫЦЫЙ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ ВА УКРАІНЕ

У артыкуле разглядаецца дзейнасць Івана Фёдарава ва Украіне. Імя першадрукара Івана Фёдарава добра вядома і ва Украіне, і за яе межамі. Раней яго лічылі не больш чым рамеснікам, але даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў адкрылі новыя бакі дзейнасці Івана Фёдарава. Цяпер мы бачым у ім асветніка, пісьменніка, педагога, мастака, грамадскага дзеяча. Іван Фёдараў, які бачыў сваё пакліканне ў працягу справы славянскага асветніка – Францыска Скарыны – духоўнае збожжа па свеце сеяць і ўсім па чыне раздаваць, не мог не падтрымаць культурна-асветніцкі рух на беларуска-украінскіх землях, развіваць кірылічнае друкаванне, змагацца супраць гвалтоўнага акаталічвання і паланізацыі.

З’яўленне кнігадрукавання – значная вяха ў развіцці культуры ўкраінскага народа, сур’ёзны фактар у фарміраванні нацыянальнай свядомасці. Друкаваная кніга, акрамя свайго функцыянальнага прызначэння, дала пачатак і новаму этапу ў гісторыі культуры – мастацтву кнігадрукавання. Кнігадрукаванне стала адначасова і праявай гуманістычных тэндэнцый ва ўкраінскай гісторыі, і зброяй прадстаўнікоў айчыннага гуманізму ў барацьбе за незалежнасць.

Першая ўкраінская друкарня з’явілася ў канцы 15 ст. у Кракаве, тагачаснай сталіцы польскага каралеўства. Заснаваў яе Швайпольт Фіёль. Менавіта яго лічаць украінскім першадрукаром. У 1491 г. ён надрукаваў 4 богаслужбовыя кнігі на царкоўнаславянскай мове, пасляслоўі ж на ўкраінскай. Але з’яўленне ў Кракаве тых кніг для праваслаўнай царквы абурыла польскіх чыноўнікаў. Ш. Фіёль падвергся праследу, яму забаронена было друкаваць кнігі.

У пачатку 16 ст. з’явіліся кнігі, надрукаваныя беларусам Францыскам Скарынам. У 1517 г. ён надрукаваў «Псалтыр», а ў 1519 г. – «Біблію Рускую» ў Празе. Для сваіх выданняў ён выкарыстаў даволі поўны кірылічны шрыфт, выбраў зручны фармат, так званыя малыя кніжачкі, практычныя ў выкарыстанні. Кожнае выданне суправаджаў каментарамі, робячы асаблівы ўпор на асветніцкіх элементах. Так, у прадмове да «Псалтыра» ён адзначае: *«Она пожиточний суть всякому человеку, мудрому й безумному, богатому и убогому, младому й старому, наиболее тым они же хотять имети добрыя обычаи й познати мудрость и науку”* [2, с. 160]. Францыск Скарына стварыў першыя ў славянскай кніжнай культуры ўзоры кнігадрукарскага мастацкага афармлення, стаў зараджальнікам ілюстраванай Бібліі, упершыню застасаваў тытульны ліст і аркушавую нумарацыю замест сшыткавай. Ф. Скарына ілюстраваў асобныя біблейскія сюжэты, намаляваў аўтапартрэт, упрыгожыў тэкст выявамі пладоў, звяроў, рыб, кветак. Дзякуючы такім наватарскім метадам, ён наблізіў Біблію да звычайных людзей. У тым часе паміж украінцамі і беларусамі ішло цеснае культурнае супрацоўніцтва, і віленскае ды пражскае кнігадрукаванне, што развівалася ўсё больш, служыла як Беларусі, так і Украіне.

Новы этап у гісторыі кнігавыдання ва Украіне звязваюць з імем маскоўскага першадрукара Івана Федаровіча (Фёдарава). Пацярпеўшы пераслед у Масковіі, ён у пачатку 70-х гадоў 16 ст. прыбыў у Львоў.

У 1574 г. у Львове Іван Фёдараў выдаў «Апостал» – адну з найважнейшых богаслужбовых кніг, якая ўтрымлівае апісанне дзей апосталаў і іх пасланні. Праца над «Апосталам» працягвалася амаль год – ад 25 лютага 1573 г. па 15 лютага 1574 г.

Выданне шмат у чым паўтарала маскоўскі «Апостал», які быў надрукаваны Іванам Фёдаравым разам з Пятром Мсціслаўцам. Шрыфт быў адліты з тых жа матрыц, тыя ж былі ў асноўным і ўпрыгажэнні. Праўда, сустракаўся шрыфт новага ўзору – нахільны; ім друкаваліся заўвагі па краях старонак. Наноў была замоўлена гравюра з выявай легендарнага аўтара «Апостала». На апошнім лісце быў змешчаны на ўсю старонку кніжны знак, які меў вялікі сімвалічны сэнс. Сярод перапляценняў крыху фантастычнага раслiннага арнаменту былі змешчаныя два гербы. Першы – горада Львова: леў на фоне гарадской брамы з трыма вежамі. Другі, сімвалічнае значэнне якога расшыфравана, быў гербам самога Фёдарава. На ім напісана ЇОАН і намаляваны знак у выглядзе выгнутай паласы (што нагадвае літару S, напісаную ў адваротны бок), якую вянчае страла.

Вельмі каштоўнае ў львоўскім «Апостале» і пасляслоўе Івана Фёдарава – выдатны твор украінскай публіцыстыкі XVI стагоддзя: «*Эта-то аповесць тлумачыць, адкуль пачалася і як створана была друкарня гэтая*» [2, с. 160]. Фёдараўскае пасляслоўе – твор вялікага гістарычнага значэння і глыбокага, тонкага паэтычнага лірызму.

У пачатку пасляслоўя першадрукар паведамляе, што *«створана была друкарня гэтая ў горадзе Маскве ў 7070 першы год (1563)»* [2, с. 161]. Гэта занадта важная заява. Тут гаворка ідзе, вядома, не пра тое, што застаўкі ці іншы друкаваны матэрыял былі прывезены Іванам Фёдаравым з Масквы. Тут абвяшчаецца адзінства і пераемнасць самой установы, яе ідэалагічнай скіраванасці.

Далей І. Фёдараў распавядае гісторыю свайго пераезду ў Княства Літоўскае. Кажа ён пра сваё знаходжанне ў Рыгора Хадкевіча.

Горда гучыць – як адказ Фёдарава гетману Хадкевічу, які хацеў пакінуць вандроўнага друкара ў сябе для пісьмовых работ – заканчэнне гэтага фрагмента: *«Не пасуе мне, ні ворывам, ні ззяннем насення скарачаць час свайго жыцця, таму што замест плуга валодаю я мастацтвам прыналежнасці рамеснага, а замест хлеба павінен рассейваць духоўнае насеньне па свеце і ўсім па чыне раздаваць духоўную гэтую ежу»* [3, с. 150].

Гэтыя радкі бліскуча пацвярджаюць, што І. Фёдараў выдатна разумеў значэнне кнігадрукавання як прылады адукацыі і выхавання. Не грэбаванне сялянскай працай, а ўсведамленне важнага значэння адукацыі для народа *(«ўсім па чыне раздаваць»)* гучыць у прыведзеных радках.

Іван Федаровіч пераняў вопыт стварэння публіцыстычных элементаў у сваіх выданнях – аўтарскіх пасляслоўяў менавіта ў Ф. Скарыны, які ўвёў пасляслоўі ў беларускую літаратуру ўпершыню ў шырокі ўжытак. Ён абапіраўся на традыцыі славянскай рукапіснай кнігі (кароткія заключныя запісы аўтараў ці перапісчыкаў) і кнігавыдавецкай практыкі Заходняй Еўропы. Але асноўныя каментары да перакладзеных і выдадзеных кніг Ф. Скарына змясціў у прадмовах, у адрозненне ад Івана Фёдарава, таму пасляслоўі беларускага першадрукара лаканічныя па форме і маюць характар кароткіх прыпісак, якія мелі важныя ідэалагічныя функцыі. Усяго ён напісаў 62 пасляслоўі, якія паводле сваёй структуры можна падзяліць на поўныя, скарочаныя і зусім кароткія. Напрыклад, пададзена толькі ўказанне месца выдання кнігі «*...у славном старом месте Празском*» [5, с. 443].

Другім выбітным львоўскім выданнем Івана Федаровіча быў «Буквар» – першы ва Украіне друкаваны дапаможнік для навучання пісьменнасці, складзены, як сказана

ў пасляслоўі, *«ради скорого младенческого наученія»* [1, с. 109]. І па змесце, і па тэхніцы выканання, і па шрыфце ён лічыўся ўзорам для далейшых выданняў буквароў да 19 ст. «Буквар» – невялікая кніга, упрыгожаная маленькімі застаўкамі, канцоўкамі і некалькімі спрошчанымі малюнкамі гербаў г. Львова і Івана Федаровіча. Захаваліся толькі два асобнікі.

Буквар складаецца з дзвюх частак. У першай змешчаны ўласна азбука, матэрыял для вывучэння літар і складоў, словы на адпаведныя літары, прыведзены ўзоры скланення, асобныя выразы. У другой частцы надрукаваны тэксты найбольш ужывальных малітваў, якія трэба было чытаць і запамінаць.

Заканчвалася кніга павучаннямі, асобна для дзяцей і асобна для бацькоў. Некаторыя з гэтых павучанняў, нароўні з чыста выхаваўчым зместам, утрымлівалі і перасцярогу ворагам. Вось адно з іх, найбольш характэрнае: *«Не дотикайся межей чужих й на поле сироты не вступуй, понеже мститель их силен єсть»* [1, с. 110].

І тут мы можам правесці паралель паміж Іванам Фёдаравым і Францішакам Скарынам, які таксама садзейнічаў папулярызацыі пісьменства. Пра гэта сведчаць такія яго радкі: *«Кожнаму чалавеку трэба чытаць, бо чытанне – люстэрка нашага жыцця, лекі для душы»* [4, с. 330]. Ён так вызначыў мэту сваёй дзейнасці – паслужыць простым людзям, дапамагчы спазнаць ім мудрасць, *«абы научившися мудрости, добре жити на свеце»* [4, с. 450]. Асаблівую ролю ў навучанні Ф. Скарына адводзіў прынцыпу нагляднасці (першым выкарыстаў гравюру як сродак навучання) і актыўнасці (сцвярджаў эксперымент часткай навукі). Больш за тое ён выступіў заснавальнікам слоўніка замежных слоў, тлумачальнага слоўніка.

У пачатку 1575 г. Іван Фёдараў выехаў з Львова і паступіў на службу да князя Канстанціна Астрожскага, пакінуўшы Львоўскую друкарню свайму сыну. У Астрогу пры фінансавай падтрымцы князя Астрожскага яму ўдалося заснаваць новую друкарню і выдаць некалькі кніг богаслужбовага ўтрымання. Самым адметным выданнем таго перыяду стала «Астрожская Біблія». Тое, што поўны тэкст Бібліі на стараславянскай мове быў надрукаваны менавіта ў Астрогу ў пачатку васьмідзясятых гадоў XVI ст., было далёка не выпадковым. Да таго часу тут скламіся багатыя традыцыі працы з біблейскімі тэкстамі. Ёсць падставы меркаваць, што Францыск Скарына, які ў 1517–1519 гг. у Празе выдаў значную частку старазапаветных кніг у перакладзе на «рускую мову», уласна, мове, блізкай да тагачаснай украінскай і беларускай, на пачатку 1520-хх гг. жыў непадалёк ад Астрога ў Крамянцы. Справа ў тым, што ён у той час знаходзіўся на службе ў віленскага каталіцкага біскупа Яна, які валодаў гэтым горадам і пераважна знаходзіўся тут. Існуе нават меркаванне, што Ф. Скарына планаваў працягнуць сваю выдавецкую дзейнасць у Крамянцы.

Што тычыцца «Астрожскай Бібліі», то яе аб'ём складае 628 лістоў, або 1256 старонак. Біблія ўпрыгожана рознымі гравюрамі. Аднак гэтыя графічныя ўпрыгажэнні занадта сціплыя. Для друку тэксту быў адліты асаблівы шрыфт – вельмі дробны ў тыя часы (у 24,8 мм), аднак выразны і філігранны, што сведчыць пра высокае майстэрства друкара. Што тычыцца пачатковых (загалоўных) літар «Астрожскай Бібліі», то яны крыху нагадвалі вялікія літары Скарынаўскіх выданняў.

Увогуле вядомыя два выданні Бібліі – 1580 і 1581 гг. Яны амаль аднолькавыя: загалоўны ліст адзін, з указаннем 1581 г., тыя ж прадмовы. Асноўнае адрозненне – пасляслоўі друкара І. Федаровіча ў абодвух выданнях розныя, часам заўважаецца розніца ў шрыфце, складах і ўпрыгожваннях.

«Астрожская Біблія» ўжывае ў якасці асновы «Генадзьеўскую Біблію» і пераклад Францыска Скарыны. Зверка тэксту адбывалася па некаторых грэцкіх манускрыптах і Вульгате (ганаровы тытул, які ўжываецца да лацінскага перакладзе Святога Пісання, якое ўзыходзіць да прац благаслаўлёнага Гераніма). Некаторыя раздзелы і кнігі (Эсфір, Песні Песняў, Прамудрасці), якія адсутнічалі ў Генадзьеўскім зводзе, былі дадзены ў перакладзе з лацінскага тэксту.

Важна падкрэсліць і навуковае значэнне гэтай кнігі: Біблія ўтрымоўвала звесткі па астраноміі і матэматыцы, хіміі і геаграфіі, біялогіі і медыцыне. Таксама кожная кніга Бібліі Скарыны – гэта сімвал пэўнай навукі ці мастацтва: граматыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі, этыкі, логікі, музыкі, рыторыкі. У прыватнасці, калі жадаеш вывучаць логіку, «*она же учить з доводом розознати правду от кривды, чти книгу святого Иова или послания светого апостола Павла*» [4, с. 223]. Значэнне «Астрожскай Бібліі» было вялікім для праваслаўнай адукацыі, якое было вымушана супрацьстаяць моцнаму каталіцкаму ціску ва Украіне і Беларусі.

Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Іван Фёдараў і Францыск Скарына былі markdown рознабакова адукаванымі людзьмі. Іх асобы ўвабралі ў сябе шматграннасць, характэрную для найбольш слаўных прадстаўнікоў еўрапейскага Рэнесансу. Ф. Скарына праявіў сябе ў розных галінах навукі і мастацтва – як філосаф, медык, паэт, перакладчык, мастак. Яму ж прыпісваюць удзел у падрыхтоўцы першага зводу законаў ВКЛ – Статута 1529 г. А вось І. Фёдараў не толькі займаўся выдавецкай справай, але і адліваў гарматы, вынайшаў шматствольную марціру з ўзаемазаменнымі часткамі. Першы рускі кнігадрукар меў цесныя сувязі з адукаванымі людзьмі Еўропы. У Дрэздэнскім архіве знойдзена яго перапіска з саксонскім курфюрстам Аўгустам.

Іван Фёдараў стаў годным прадаўжальнікам традыцый Ф. Скарыны. Украінскі і расійскі народы аддаюць належнае свайму першадрукару, а ўсе кнігавыдаўцы і кнігазнаўцы ў 1959 г. пачалі і рэгулярна праводзяць штогадовыя навуковыя сесіі, прысвечаныя актуальным праблемам гісторыі кнігі і кніжнай справы – «Фёдараўскія чытанні». Выйшла вялікая колькасць навуковых прац, прысвечаных жыццю і дзейнасці «*друкаря книг пред тем невиданных*» [1, с. 115].

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Ісаєвич, Я. Д. Українське книговидання: витоки, розвиток, проблеми / Я. Д. Ісаєвич. – Львів, 2002. – С. 104–117.
2. Павлова, О. Ю. Історія української культури / О. Ю. Павлова. – Київ: Центр учбової літератури, 2013. – 340 с.
3. Немировский, Е. Л. Иван Федоров: Ок.1510–1583 / Е. Л. Немировский. – М.: Наука, 1985. – 317 с.
4. Немировский, Е. Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просвітителя / Е. Л. Немировский. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 597 с.
5. Францыск Скарына і яго час / Энцыклапедычны даведнік. – Мінск: «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1988. – 607 с.

УДК 821.161.3-3.09”21” -3.09 : 94 (476) “15/16”

***В. Ю. Бароўка***

## ЛІТАРАТУРНАЯ СКАРЫНІЯНА ПАЧАТКУ XXI СТАГОДДЗЯ: ЭСТЭТЫЧНА-АКСІЯЛАГІЧНЫ РАКУРС

У артыкуле аналізуецца эстэтычна-аксіялагічны ракурс сучаснай айчыннай літаратурнай Скарыніяны. На падставе разгляду твораў паэзіі і драматургіі сцвярджаецца, што яны ўгрунтаваны на мастацкай інтэрпрэтацыі агульнавядомых фактаў з жыцця Ф. Скарыны, але з прыцягненнем або другаснай мастацкай умоўнасці, або асацыятыўных паралелей з нашым часам. Адзначаецца, што ў паэзіі цэнтральнае месца адводзіцца асэнсаванню месца Ф. Скарыны ў гістарычным працэсе, што драматургі найперш акцэнтуюць пераклічку і тыпалагічнае падабенства розных гістарычных перыядаў і лёсу выдатнай асобы, што пры адлюстраванні жыцця беларускага першадрукара сучасныя беларускія пісьменнікі найперш падкрэсліваюць складанасць лёсу чалавека, які апярэдзіў свой час.

Эстэтычны фундамент айчыннай літаратурнай Скарыніяны закладваўся Максімам Багдановічам, Змітраком Бядулем, Максімам Гарэцкім, Вацлавам Ластоўскім на пачатку XX стагоддзя, калі беларуская літаратура адчула моцны нацыянальна-адраджэнскі імпульс і шукала трывалую аснову для свайго далейшага развіцця. Цікавасць пісьменнікаў да асобы айчыннага асветніка і першадрукара заўсёды ўзрастала ў так званыя пераходныя перыяды грамадскага існавання. Існуе гэта цікавасць і ў сучасных аўтараў, што працуюць у розных літаратурных жанрах.

Беларуская паэзія пачатку XXI стагоддзя значна радзей, у параўнанні з паэзіяй другой паловы гадоў і 1990-мі гадамі, звяртаецца да вобраза Францыска Скарыны, аднак поле мастацкай інтэрпрэтацыі ў ёй дастаткова шырокае. Бясспрэчна, у першую чаргу пра Скарыну пішуць яго землякі, у гэтай сувязі можна прыгадаць лірычныя вершы А. Аркуша і Н. Гальпяровіча, у якіх Францыск Скарына прадстае сімвалам Полацкай зямлі і неаб'емнай часткай іх уласнай біяграфіі. Так, у вершы Н. Гальпяровіча "Выток" (2008) дзяцінства ў Полацку для лірычнага героя асацыюецца з памяццю пра слаўнага земляка: "Тут чорную скарыну, // Малы, са смакам еў, // І тут пагляд Скарынаў // У сэрца заляцеў" [1, с. 8]. Францыск Скарына ўспрымаецццца паэтам як празорца, як пачынальнік беларускай літаратуры, як абаронца і захавальнік народнай мовы. У вершы "Купала ў Полацку" (2012) Н. Гальпяровіч прыгадаў знаходжанне Янкі Купалы ў Полацку ў складзе дарожна-будаўнічага батальёна падчас Першай сусветнай вайны і зазначыў: "Тут Скарыны жывуць прадмовы, // Бо, напэўна, прадбачыў ён, // Як Купала народа мову // Пранясе аж да нашых дзён" [2, с. 171]. Як і літаратурныя папярэднікі, сучасныя аўтары нярэдка акцэнтуюць вобраз Скарыны-кніжніка і Скарыны-вандроўніка ў пошуках мудрасці. Сучасная паэтычная Скарыніяна звычайна асэнсоўвае настрой, выкліканы нейкім момантам з жыцця аўтара або з жыцця Ф. Скарыны, што ўразіў паэта. Уласна кажучы, лірыка як самы суб'ектыўны род мастацтва і трымаецца на перадачы настрояў, уражанняў, але ў лірычным творы важнае значэнне набывае кандэнсацыя, сэнсавая ёмістасць паэтычнай думкі, а яе якраз не заўсёды хапае сучасным паэтам. Прыемным выключэннем з шэрагу лірычных твораў можна назваць верш Э. Акуліна "Францішак Скарына" (2012), дзе думка і лірычны вобраз семантычна значныя, дзе на самым пачатку згадваецца трывожная атмасфера, выкліканая сонечным зацьменнем канца XIV стагоддзя: "Полацк поўны саборным звонам, // Душы поўніць нябесным страхам, // Ад Сафіі плывуць іконы, // люд на неба глядзіць у жаху" [3, с. 106]. Паэт метафарычна абыгрывае сітуацыю сонечнага зацьмення і пазіцыянуе Скарыну вялікім асветнікам: "Ты з'явіўся ў пару зацьмення, // каб народ асвяціць сабою" [3, с. 106]. Беларуская паэтычная Скарыніяна, на жаль, не вылучаецца разнастайнасцю жанраў, абмяжоўваецца формай лірычнага верша.

Беларуская проза пачатку XXI стагоддзя пакуль яшчэ не дала ўзораў мастацкага даследавання асобы Скарыны, часткова гэта лакуна запоўнена рускім пісьменнікам М. Расолавым у рамане "Францыск Скарына" (2007). Там на шырокім гістарычным фоне канца XIV – першай трэці XV стагоддзя ўзноўлены жыццёвы шлях беларускага першадрукара ад нараджэння да лета 1530 года, калі ў Вільні згарэла друкарня. Францыск Скарына ў творы – адукаваны, высокамаральны чалавек, засцерагальнік хрысціянства ад рэфарматарства і расколу, прыхільнік выключна праваслаўнай веры, дыдакт у стасунках з людзьмі, перакананы праціўнік каталіцызму. М. Расолаў настойліва падкрэсліваў на працягу аповеду, што Ф. Скарына – сын цярплівага, працавітага, талерантнага народа. На жаль, мадэрнізацыя пісьменнікам гістарычных і бытавых рэалій (у творы Лука Скарына купляе ў падарунак, нібы цацкі, кнігі, што ўпадабаў малодшы сын на Полацкім кірмашы, а між тым такі падарунак быў фінансава непад'ёмны для звычайнага тагачаснага купца; малады Скарына раіць знаёмаму падлетку вучыцца ў царкоўна-прыходскай школе, а такія школы з'явіліся толькі ў XIX стагоддзі; прыезд дадому на вакацыі з Вільні Ф. Скарыны ў Полацк нагадвае

*Мастер: Веселится молодежь. Что им войны, разорения, девальвация и политические распри? У них сегодня ночью праздник.*

*Доктор: Они потешные. Они юные и беззаботные. И у них сегодня ночью праздник.*

*Мастер: А кому-то эти праздники не нравятся.*

*Доктор: Ну и пусть. Их законы не действуют на молодежь. Их кровь хочет карнавала, и в своих играх они не замечают этот обезумевший мир с его запретами и ханжеской моралью.*

*Мастер: Вы до сих пор дерзки, мой доктор.*

*Доктор: Что моя дерзость по сравнению с дерзостью этих молодых ребят? Они ведь умнее нас…*

*Мастер: Разве?*

*Доктор: Они знают, как надо им жить, пусть даже это обман. Как бы мы их ни воспитывали, ни учили, ни давали назидания, они будут делать так, как они хотят. Они вольны совершать ошибки и жить в карнавале. Пускай даже одну ночь. Жить так, как они сами этого хотят.*

*Мастер: И это всё книги. Началось с ваших. Потом будут другие. Мыслителей становится больше, и теперь любой юноша считает себя мудрецом.*

*Доктор: И правильно делают. Поэтому я в них верю. И я им завидую, потому что я уже так не могу дурачиться, не могу так веселиться, не могу так жестоко ошибаться…*

У сцэне святкавання дня мёртвых бяруць удзел таксама душы памерлых персанажаў, што безумоўна адсылае нас да другой часткі *Дзядоў* Адама Міцкевіча. Доктар свабодна размаўляе з памерлымі, задае пытанне душы Юрыя Адверніка, з чыёй удавой ён ажаніўся, якое даўно яго мучае:

*Доктор: Вы, Якуб Бабич, Богдан Онков, Константин Острожский, мой брат и Маргарита помогали мне печатать книги. Деньгами, любовью, поддержкой, заботой. Без вас ничего бы не получилось. Но почему, как чума, изданные книги забрали ваши жизни? За шесть лет шесть жизней. Я потерял самых дорогих людей и без вас больше ничего не могу. Ни-че-го.*

Тая ж тэма ўсплывае і ў размове з душой Маргарыты:

*Доктор:. (…) А вдруг я бы издал еще одну книгу, и тогда она бы забрала жизнь нашего сына, нашего Симеона? Вот что страшно! Но Он милостивый, Он не взял жертву…(…)*

Пазней Майстар-спакуснік яшчэ раз вяртаецца да гэтага пытання, прапаноўваючы Доктару за жыццё ягонага сына выданне новых кніг:

*Мастер: Еще одна книга за жизнь сына! Доктор! Две книги, а? Три книги! Три новые книги! Пять! Хорошо, пять книг! Десять! Доктор, десять книг! За жизнь сына. Быстрее решайте! Двадцать! Двадцать книг! Пятьдесят! Сто! Сто книг! Сто!*

Гэтаму дыялогу папярэднічае аповед пра паездку Доктара ў Маскву і спаленне ягоных кніг. На пытанне Майстра, як ён гэта перанёс, Доктар кажа: «Як Давід». Далей у тэкст п'есы ўведзены пераказ біблейскай гісторыі пра смерць першага сына Давіда і Вірсавіі з элементамі сцэнічнага ўвасаблення.

Доктар, ажыццявіўшы сваю мару пра друкаванне кніг, перажыўшы смерць сяброў і блізкіх, а таксама гібель сваіх выданняў у агні, прыходзіць да прыняцця іншай місіі: гадаваць сына, перадаваць яму свой досвед і веды, дапамагаць людзям. Твор заканчваецца размовай Доктара з сынам:

*Юноша: Папа, ты жалеешь, что всё так вышло?*

*Доктор: Всё вышло так, как должно быть.*

*Юноша: Неужели возиться на грядках – это высокое призвание?*

*Доктор: А почему нет, Симеон? У каждого своя миссия. И не может быть разделений на высокую или низкую. Книги печатать, лечить людей или выращивать овощи – они тоже нужны людям.*

*Юноша: Но от овощей ничего не остается. А книги остаются, хоть люди уходят…*

*Доктор: Мы слышим, то, что должны услышать. И свою миссию тоже. Какой бы она ни была. Нас ведет по ней Бог, а мы вечные странники, которые хотят в итоге попасть в райский сад. И я оказался в саду. Пусть пока не в райском. Но дверь в райский сад я уже приоткрыл… Пойдем, Симеон, соберём ещё трав.*

Закранаючы вечныя тэмы пра любоў да радзімы і каханне да жанчыны, пра вернасць, сяброўства, узаемадапамогу і выручку, пра пакліканне, драматургу ўдаецца пазбегнуць непатрэбнага пафасу праз выкарыстанне камізму, які ўзнікае пры спалучэнні «высокага» і «нізкага», пры накладанні і змяшчэнні гістарычных часоў. У дыялогах маскоўскіх Дзьякаў пра кнігі беларускага першадрукара, мы раптам пазнаем сённяшнія рэаліі беларуска-расійскіх адносін:

*Первый дьяк: Ну и книги! Ну и книги!*

*Второй дьяк: Снова из белорусских земель нам европейский товар провозят.*

*Третий дьяк: И это не мясо, или шубы. Это хуже.*

*Второй дьяк:. И самое обидное: хоть бы нам мзду какую между страниц положил.*

*Первый дьяк: Тут уже не до мзды. Тут костром пахнет*.

Не здраджвае драматург і сваім ўлюбёным прыёмам, такім, як увядзенне ў дзеянне п'есы прыпавесцяў або легенд, а таксама выкарыстанне крылатых выразаў, прамых і скажоных цытат.

У сцэне варажбы па кнізе Майстар усклікае: "Что текст печатный вам готовит?" У гэтым воклічы цяжка не пазнаць словы Ленскага з "Яўгенія Анегіна" А. Пушкіна – "Что день грядущий мне готовит?.."

У размове Доктара з душой Юрыя ўзнікае таксама алюзія на *Камедыю* К. Марашэўскага, якая выклікае ў чытача / гледача мімавольную ўсмешку:

*Юрий: А у вас нет с собой случайно кваса?*

*Доктор: Что?*

*Юрий: Кваса. Так иногда хочется… А там его не бывает.*

Галоўны герой *Камедыі* селянін Дзёмка, як мы памятаем, прайграе заклад д'яблу і, калі чэрці цягнуць яго ў апраметную, паспявае пракрычаць апошняе жаданне: "Квасу мне! Квасу!"

Выявіць і распазнаць усе сэнсы, не толькі гістарычныя ці закладзеныя аўтарам, а таксама ўсе інтэртэкстуальныя сувязі ў творы М. Рудкоўскага не было нашай задачай і немагчыма ў прынцыпе, таму што "тэкст бясконца адкрыты на бясконцасць" [1, с. 425]. Кожны чытач / глядач актуалізуе свае сэнсы, у залежнасці ад агульных ведаў, інтэлектуальнага ўзроўню і ўключанасці ў культурны кантэкст.

"Доктар свабодных навук" напісаны Мікалаем Рудкоўскім, як і большасць ягоных твораў на замову. Ідэя напісання п'есы пра першадрукара і асветніка "з слаўнага Полацка" належыць літоўскаму рэжысёру Саўлюсу Варнасу, які працуе на сённяшні дзень у Магілёўскім драматычным тэатры, дзе і адбылася ў лістападзе 2016 г. прэм'ера спектакля "*Скарына*" па п'есе М. Рудкоўскага ў аўтарскай рэдакцыі рэжысёра. Першапачатковa пастаноўка планавалася, як асветніцкі праект, з арыентацыяй перш за ўсё на школьную аўдыторыю, але рэжысёр здолеў прадставіць "энцыклапедычны" матэрыял жыва і маляўніча, выкарыстоўваючы самыя розныя тэатральныя, мультымедыяльныя і нават цыркавыя прыёмы. Нягледзячы на тое, што прэм'ера адбылася не на сталічнай сцэне, праца атрымала вельмі шмат водгукаў у прэсе.

Крытыкі адзначалі ў першую чаргу сугучнасць спектакля з сучаснасцю, тэму пошуку чалавекам свайго прызначэння, супярэчлівасць і шматвымернасць лёсу творчай асобы. Таццяна Арлова, у прыватнасці, пісала: "Складанае вязьмо спектакля, зразумела, прымушае гледача задумацца. Мастацтва заўсёды шукае новыя сэнсы

і стварае тое, чаго да яго не было. Са сцэны ідзе пасланне аб жыцці. Публіцы трэба будзе ўлавіць унутраныя ўзаемаадносіны часу, спраецыраваць яго на сённяшні дзень" [2]. (пераклад наш – Н.Р.).

Варта адзначыць, што менавіта абраная драматургам стратэгія ў арганізацыі часу і прасторы ў п'есе "Доктар свабодных навук" садзейнічае актывізацыі чытачкага / глядацкага "саўдзелу" ў расшыфроўцы гістарычных кантэкстаў і іх сувязі з тым, што адбываецца сёння, а таксама спрыяе ўзнікненню і перажыванню асабістых асацыяцый і эмоцый, выкліканых у рэцыпіента тэкстам твора.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Барт, Р. Избранные работы. Семиотика. Поэтика. Пер. с фр. / Сост., общ. ред. и вступ. ст. Г. К. Косикова. – Москва: Прогресс, 1989.

2. Орлова, Т. И белокрылый ангел на велосипеде. – "Союзное вече", 08.02.2017.

3. Рудковский Н. Доктор свободных наук / Францыск Скарына і сучаснасць. Зборнік п'ес. – Складальнік А. А. Суша. – Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2017. – С. 154–200.

4. Францыск Скарына і сучаснасць. Зборнік п'ес. Складальнік А. А. Суша. – Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2017.

УДК 1 (476) (075.8)

***В. Ф. Сенина***

# ГУМАНИСТИЧЕСКИЕ ТРАДИЦИИ В ТВОРЧЕСТВЕ ФРАНЦИСКА СКОРИНЫ

Творческое наследие Франциска Скорины является актуальным в современную эпоху, так как в нем изложены и обоснованы универсальные гуманистические идеи, связанные с преодолением конфликтов и кризисов на общечеловеческом и общепланетарном уровнях. Мировоззрение Скорины является примером ценностного, духовно-практического обоснования действительности и отношения к окружающему миру. Гуманистические доминанты великого мыслителя и просветителя имеют фундаментально-универсальное значение для социально-политических отношений всех уровней, и они, несомненно, должны использоваться для достижения общемирового консенсуса.

Документальные источники и исторические факты свидетельствуют, что свою ученую карьеру Франциск Скорина начинал с исследования общественных проблем гуманитарных наук. В этой связи Эпоха Скорины ознаменовалась стремлением светских ученых-мыслителей реализовать право на комментирование Библии, которая, по их мнению, была предназначена не только для восхваления Бога, но и понимания окружающего мира и места человека в нем. «Библия руска», по утверждению Скорины, должна служить «богу во чти и людям посполитым к доброму научению». В этом смысле такой подход являлся новаторским гуманистическим в оценке роли и назначения Библии, которая должна была выполнять не только конфессиональную, но и просветительскую роль.

Сочетание традиционной набожности и новых гуманистически просветительских взглядов демонстрировало дуализм мировоззрения Скорины, но вместе с тем доказывало его приверженность идеям и духу эпохи Возрождения. Можно с уверенностью утверждать, что великий полочанин в своем творчестве постоянно развивал главный постулат античных философов о том, что человек есть мера всех вещей. Этот классический постулат сегодня, как никогда, актуален. Ведь современный глобальный (общепланетарный) кризис с его многосторонними проявлениями

(экологическими, экономическими, политическими, духовными и иными характеристиками), по признанию ученых, носит антропоцентрический характер. Его ядром является гуманитарная составляющая с человеческим «капиталом». Именно в преодолении кризиса гуманистических ценностей, кризиса духовности лежит разрешение глобальных проблем современности.

В условиях современного сложного и взаимозависимого мира следует выделить общепланетарные идеи, которые были обоснованы Франциском Скориной и являются актуальными до сегодняшнего времени для всего человечества.

Развитие международных политических, экономических, культурных и других отношений, тенденции интеграции мирового сообщества, необходимость преодоления многочисленных конфликтов подтверждают вывод Скорины о том, что люди должны научиться «вкупе жити». В предисловии к книге «Эсфирь» он выдвинул идеальный принцип толерантного человеческого общежития, состоявший в служении общему добру и благосостоянию: «Не толико бо сами народихося на свет, но более ко службе Божией и посполитого доброго» [1, с. 10].

Проблемы войны и мира, урегулирование спорных политических и других межгосударственных вопросов невоенным путем являются сегодня ведущими в международной политике. В этой связи Франциск Скорина отдавал предпочтение «мирному государю» [1, с. 17], сила и мощь которого должны использоваться только для защиты своего народа в случае военной угрозы [1, с. 52]. Мудрая миролюбивая политика правителей, по его убеждению, возможна только на основе знания, справедливости, доброжелательности и чуткости к своим подданным.

Основной причиной обострения разнообразных глобальных конфликтов и кризисов в современную эпоху выступает нарушение принципов равноправия и взаимовыгодного сотрудничества, несоблюдение международных правовых норм, нарушение законодательства. По мнению Ф. Скорины, правление страной (политическая государственная власть) должно осуществляться в строгом соответствии с законами, на основе правильного осуществления правосудия: «…Да судять людей судом справедливым, и да не уклонятся на жадную страну, и да не зрять на лица, и не принимають даров, понеже даров ослепляють очи мудрых людей и зменяють слова справедливых» [1, с. 115].

Проблема социальной справедливости волновала мыслителей во все времена. Франциск Скорина не только исследовал данную проблему, но и считал возможным достижение социальной гармонии в обществе и государстве только на основе соблюдения законности и правопорядка. По своей сути это была идея правового государства, которая является доминирующей в организации современных политических систем. Неслучайно исследователи творчества Ф. Скорины с полным основанием утверждают, что он является одним из составителей Статута ВКЛ 1529 года.

Франциск Скорина сумел переосмыслить религиозные ценности. Относясь к ним с глубоким почтением, он на первое место все-таки поставил «любовь», на второе – «веру». С любовью и уважением, по мнению мыслителя, следует относиться не только к представителям христианского вероисповедания, но и «ко всякому человеку» независимо от религиозной, социальной и национальной принадлежности. «…Каждый хрестианин, – писал Франциск Скорина, – наиболей любовь да соблюдаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест» [1, с. 132]. Такой взгляд на проблему межчеловеческих отношений вполне вписывается в современную формулу интеграции мирового сообщества для решения глобальных проблем независимо от расовых, этнических, социокультурных, конфессиональных и других различий между народами и странами.

Общечеловеческие проблемы гуманитарного характера связаны сегодня с преодолением нищеты, эксплуатации, с повышением уровня и качества жизни,

расширением социальных гарантий, соблюдением прав человека, обеспечением личной безопасности и т. д. Разрешение этих проблем связано не только с оптимизацией социальной политики современных государств, но и следованием нравственному императиву, обоснованному Франциском Скориной: «То чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных иметь» [1, с. 93]. Этот принцип, по выражению гуманиста, должен стать фундаментом не только межчеловеческих отношений, но и всей государственной политики, законотворчества, деятельности органов правосудия.

Формирование современных социальных демократических правовых государств, несомненно, предполагает реализацию Скорининского императива, выступающего универсальным законом развития общественных систем.

Однако интеллектуальные и моральные добродетели, согласно обоснованию просветителя, не являются только самоцелью человека. Они должны служить светской общественно-полезной деятельности, должны быть направлены для «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея» [1, с. 59]. Участие граждан в общественной жизни, безусловно, является довольно прогрессивной демократической идеей в учении Ф. Скорины. В современных условиях также невозможно решение внутригосударственных и общепланетарных проблем без политического участия граждан, которое сегодня переживает кризис даже в развитых странах.

Целостность и взаимозависимость глобальных проблем человечества предполагают наличие определенной системы научных знаний, с помощью которой возможно прогнозировать, моделировать и решить эти проблемы. На этой основе видится актуальной идея Ф. Скорины о безграничном праве человека на познание и творчество. Мыслитель рассматривал знания и образование в качестве необходимого атрибута высоко духовного и гуманного общества, поэтому призывал людей отдавать себя «для посполитого доброго и размножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки» [1, с. 24]. В этой связи Ф. Скорина восхвалял царя Соломона, который «не просил собе дней многых, ни богатства», а «мудрости и разума» [1, с. 16]; назвал царя Птолемея II, имевшего Александрийскую библиотеку из 40 тысяч книг, «милосником науки и мудрости, иже болеи избрал оставити в науце и книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царских сокровищах» [1, с. 22–23]. Такие ценностные качества названных правителей являются примером для подражания и в современном политическом поведении, способны наполнить политику гуманистическим содержанием, подчинить ее нравственным интересам и служению «посполитому доброму».

Идея приоритета общечеловеческих ценностей (любви, свободы, справедливости, нравственности, законопослушания, толерантности и др.), обоснованная Франциском Скориной более пятисот лет тому назад, является актуальным интегрирующим фактором для разных стран и народов в решении глобальных проблем современности. «Мир и покой», «справедливость», «хвала и честь», «вечная память и слава», «милость и друголюбство» и др. лежат в основе достижения общего блага под названием «посполитое доброе».

Вместе с тем, общественного согласия можно достичь, по утверждению ученого, путем соединения общечеловеческих и национально-культурных ценностей (родина, язык, культура, история и др.). «…Люди и где зродилися и укормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають» [1, с. 59]; «иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил» [1, с. 11]. Также общественный консенсус, с точки зрения Франциска Скорины, возможен на основе создания справедливых правовых законов и контроля государства за их исполнением, применяя при необходимости легитимное насилие. «...Вчинены суть права, или законы, – пишет он, – для людей злых, абы боячися казни, усмирили смелость свого и моци не имели иным ушкодити, и абы добрыи межи злыми

в покое жити могли» [1, с. 95]. Однако наличие сильного государства и законов для общественного порядка недостаточно. Гарантом мира и спокойстия должна стать нравственная составляющая, на основе которой будут совмещаться политика и мораль. Таким образом, Франциск Скорина солидарен с Платоном, который выделял правильные и неправильные формы государственного правления на основе использования моральных ценностей или отказа от них в политической деятельности.

Идея всеобщего мира и согласия («згоды») – одна из центральных и основополагающих в творчестве и мировоззрении Франциска Скорины. «Мир на земли и в человецех благоволение» мыслитель понимал как мир между всеми социальными группами в обществе, а также открыто выступал против права, которое закрепляло «земль чужих мечем достование, градов и мест утвержение, послов без переказы отпущение, миру до часу приреченого выполнение, войны неприятелем своим оповедание» [1, с. 96]. Скорина приводит пример царя Соломона, называя его «премудрым», так как «понеже был мир и покой по вся времена царства его» [1, с. 17].

Современная эпоха демонстрирует нарастающее обострение глобальных проблем в системе «человек–природа–общество», пути разрешения которых с точки зрения использования гуманистических ценностей во многом обосновал Франциск Скорина. Скорининские тексты, по утверждению исследователя С. А. Подокшина, «стимулируют наше философское мышление» [2, с. 264], и осмысление существующего миропорядка, прямо или косвенно дают ответы на важнейшие вопросы современности, показывают высокий уровень образования и гражданской культуры, богатство, универсальность и новаторство личности Франциска Скорины, поставившего белорусскую культуру вровень с европейской.

**Список использованной литературы и источников**

1. Скарына, Ф. Прадмовы і пасляслоўі / Ф. Скарына. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 240 с.

2. Падокшын, С. А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага / С. А. Падокшын. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 285 с.

УДК 821.161.3’06-2:929*Ф.Скарына

***Б. Сівэк***

# ВОБРАЗ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДРАМАТУРГІІ (НА ПРЫКЛАДЗЕ ВЫБРАНЫХ ТВОРАЎ)

Артыкул прысвечаны метадам творчага ўвасаблення постаці Францыска Скарыны ў выбраных тэкстах беларускіх драматургаў. Аўтар звяртае ўвагу на шэраг тэарэтычных праблем, звязаных са спосабамі і сродкамі стварэння драматычных персанажаў, а таксама ўказвае найважнейшыя стратэгіі, якімі карыстаюцца беларускія пісьменнікі. Прадметам канкрэтнага аналізу з’яўляюцца творы “Прарок для айчыны” Алеся Петрашкевіча, “Vita brevis, альбо Нагавіцы святога” Георгія Міраслава Адамчыка і Максіма Клімковіча, а таксама “*Мудрости зачало и конецъ...*” або “Спакушэнне Францыска Скарыны” Івана Штэйнера. Пералічаныя тэксты па-рознаму прадстаўляюць вобраз беларускага асветніка, але кожны з іх дае імпульс да разважанняў на тэму ролі і месца культуры ў жыцці чалавека, а таксама ўплыву выбітных асобаў на нацыянальную гіторыю і культуру.

Сучасная беларуская драматургія характарызуецца разнастайнасцю жанравых формаў, тэмаў, творчых метадаў і стратэгій. У гэтым мностве драматургічных

прапановаў важнае месца займаюць тэксты, створаныя на гістарычным матэрыяле, якія своеасаблівым чынам паказваюць мінулыя падзеі, найчасцей праз прызму біяграфіі асобаў, што адыгралі істотную ролю ў гісторыі народа і беларускай дзяржавы. Гаворка тут не толькі пра традыцыйныя варыянты гістарычнай драмы, якія сягаюць сваім радаводам у V ст. да н. э. [1, с. 111–112], але і пра тэксты, рэалізаваныя ў іншых жанрах, дзе рэканструкцыя гістарычных падзей адбываецца пры дапамозе выкарыстання такіх прыёмаў як міфалагізацыя, гераізацыя, манументалізацыя, ці пры дапамозе дэгераізацыі і дэміфалагізацыі гістарычных асобаў.

Сярод п’ес напісаных на падставе гістарычнага матэрыялу, створаных у жанры трагедыі, камедыі, меладрамы, хронікі ці фарса, сустракаюцца формы змешаныя, сінкрэтычныя, у якіх спалучаюцца рысы некалькіх жанравых варыянтаў. Зварот да гісторыі як асноўнай крыніцы натхнення найбольш моцна выявіўся ў творчасці Алеся Петрашкевіча, Міколы Арочкі, Івана Чыгрынава, Георгія Марчука, Аляксея Дударава, Сяргея Кавалёва, Максіма Клімковіча і Міраслава Адамчыка. Варта адзначыць, што беларускія драматургі часта падкрэсліваюць ролю выбітных асобаў (уладароў, палітыкаў, творцаў), якія ўвасабляюць у сабе дух часу. Асаблівай зацікаўленасцю сярод пісьменнікаў карыстаецца вобраз Францыска Скарыны (каля 1490 – каля 1551), які займае выключнае месца ў беларускай культуры.

Постаць Францыска Скарыны ўпершыню з’явілася ў творчасці беларускіх драматургаў ужо ў 20-ыя гады XX ст. Беларускую драматургічную Скарыніяну распачынае твор Міхаіла Грамыкі “Скарынін сын з Полацка” (1925). Вакол постаці першадрукара будуюцца творы Язэпа Дылы “Падуанскі студэнт” (1944–45), драматычная паэма-трылогія “Георгій Скарына” (1946, 1947, 1948) Міхася Клімковіча, драматычная паэма “Калумбы” (1961) Янкі Юхнаўца, а з навейшых твораў – “Напісанае застаецца” (1978), “Прарок для Айчыны” (1990) Алеся Петрашкевіча, п’еса-фарс “*Vita brevis*, альбо Нагавіцы святога Георгія” (1989) Максіма Клімковіча і Міраслава Адамчыка, драматычная паэма-фрэска “Судны дзень Скарыны” (1990) Міколы Арочкі, “*Мудрости зачало и конецъ*, або Спакушэнне Францыска Скарыны” (2012) Івана Штэйнера.

Істотнай праблемай, звязанай з інтэрпрэтацыяй твораў, пабудаваных на гістарычным матэрыяле, з’яўляецца стаўленне творцы да гістарычных крыніц, альбо, у шырокім разуменні, гістарычнай праўды. Пераважную большасць тэкстаў складаюць п’есы, якія спасылаюцца на гістарыяграфію і дакументальна пацверджаныя гістарычныя факты. Побач з імі існуюць аднак і такія творы, у якіх аўтары свядома адмаўляюцца ад такіх спасылак, іх адметнасцю ў такім разе перастаюць быць адсылкі да рэальных падзей, канкрэтызацыя фабулы ці часава-прасторавая лакалізацыя. Творы такога тыпу, як падкрэслівае Эдвард Касперскі, адмаўляюцца ад фактаграфічнай дакладнасці і даслоўнасці, а замест гэтага звяртаюцца да фікцыі, умоўнасці, містыфікацыі, казачнасці, фантастыкі, сімвалізму ці парабалы. Кожная з пералічаных тэндэнцый набірае своеасаблівы характар з пункту гледжання эстэтыкі і паэтыкі, але ўсе разам указваюць на наяўнасць у п’есе асаблівай гістарыясофскай арыентацыі [1, с. 113].

У творы Алеся Петрашкевіча “Прарок для айчыны” вобраз Скарыны створаны з выкарыстаннем досыць канвенцыянальнага метаду, калі драматург уводзіць у тэкст шматлікія сігналы гістарычнасці, на падставе якіх рэцыпіент мае магчымасць зрэканструяваць ключавую свядомасць непазбежнай тэкставасці гісторыі ў мастацкім свеце [2, с. 143]. Гэтыя сігналы заключаюцца не толькі ў спосабе прэзентацыі *dramatis personae*, але і ў створанай у тэксце мадэлі гістарычнага часу, і запраектаванай на ўзроўні рэмарак сцэнічнай рэчаіснасці – касцюмах, сцэнаграфіі, рэквізітах, паводзінах, якія не адпавядаюць актуальна прынятым у грамадстве мадэлям культуры і г. д. [3, с. 414].

Варта падкрэсліць, што Алесь Петрашкевіч выкарыстаў багаты гістарычны матэрыял, а таксама звярнуўся да металітаратурных прыёмаў, уводзячы ў свой твор

фрагменты іншых тэкстаў (напрыклад, фрагменты прадмоваў і пасляслоўяў да Бібліі Скарыны). Аднак асноўнай мэтай выкарыстаных драматургічных метадаў і стратэгій з’яўляецца не столькі вернасць гістарычным фактам, колькі імкненне падкрэсліць складанасць лёсу Скарыны. Значна болей за канкрэтныя гістарычныя падзеі Петрашкевіча цікавіць тое, як у выніку іх змяняецца свет, а таксама тое, як чалавек спрабуе знайсці сваё месца ў тым часе, у якім давялося яму жыць.

У п’есе “Прарок для айчыны” постаць Францыска Скарыны з’яўляецца цэнтральным элементам структуры твора. Гэты, без сумневу, найбольш вядомы прадстаўнік культуры ў Беларусі, сімвал беларускай гісторыі і гуманізму, у творы Алеся Петрашкевіча паўстае асобай, якой уласцівы самыя разнастайныя добрыя якасці, а таксама гераічнае стаўленне да жыцця. Істотна, што большую частку інфармацыі адносна персанажа мы даведваемся з доўгіх, часта маналагічных выказванняў самога Скарыны, які з гонарам і ўсведамленнем ўласнай місіі падрабязна расказвае пра сваё жыццё, адукацыю, падарожжы, уменні і друкарскую дзейнасць. “Калі мне было гадоў 14, занесла ў Кракаў да палякаў, а як споўнілася 17, падаўся я ў Капенгаген да датчан, пасля 22-х апынуўся сярод італьянцаў у Падуі, адтуль накіраваўся ў Прагу да чэхаў, у 27 вярнуўся дамоў, потым занесла мяне ў Вітэнберг да немцаў, у Кёнісберг да прусакоў, а зараз, як бачыце, у Познань зноў да палякаў. Між іншым, Маскву таксама не абмінуў... […] Палётаў бы яшчэ, ды крылы звязаны...” [4, с. 74–75] – расказвае пра сябе Скарына Вартаўніку ў першай сцэне п’есы.

У выніку ствараецца вобраз, які стаўся патрыятычнай легендай, апярэдзіў свой час, сваю эпоху, і дзякуючы гэтаму набыў незвычайную сілу эмацыянальнага ўздзеяння. У апошняй сцэне п’есы Скарына прамаўляе наступныя словы: „Спалены не толькі кнігі і друкарня, спалены і масты. Нарадзіўся я, відаць, зарана на сваёй шматпакутнай зямлі. Паспяшаўся стаць яе прарокам у сваёй Айчыне. І хоць еду прэч, на яе, любую і гаротную не крыўдую”.

Належыць падкрэсліць, што ў тэксце Алеся Петрашкевіча можна заўважыць апавядальнае прадстаўленне гісторыі, выкарыстанне розных спосабаў верагоднаснай нарацыі, якая забяспечвае эфект рэальнасці прэзентаваных здарэнняў і сітуацый. Падпарадкаваная разнастайным мэтам апавядальнасць стварае цэласны і вельмі праўдападобны вобраз рэчаіснасці, а пры дапамозе розных спосабаў драматызацыі робіцца часткай дзеяння ў творы.

Тэндэнцыя да гераізацыі і міфалагізацыі гістарычных постацей у сучаснай беларускай драматургіі не з’яўляецца, аднак, адзінай стратэгіяй, якую абіраюць творцы пры стварэнні сваіх персанажаў. Цалкам інакш прадстаўлена асоба Францыска ў п’есе “*Vita brevis*, альбо Нагавіцы святога Георгія” Міраслава Адамчыка і Максіма Клімковіча. Аўтары звярнуліся да спецыфічнай формы тэатру ў тэатры: у творы паказана рэпетыцыя, якая мае, як здаецца на першы погляд, адзнакі сцэнічнага жарту. Мы атрымліваем магчымасць не толькі назіраць за падрыхтоўкай спектакля, якая уведзена ў дзеянне п’есы-рамкі, але і чуць каментарыі да таго, што адбываецца на сцэне. Выкарыстаная ўжо на самым пачатку стратэгія дазваляе збудаваць шматузроўневую структуру зместу, а таксама выразна сігналізуе семантычную гульню, якая паслядоўна рэалізуецца цягам усяго твора. У фарсе “*Vita brevis*” М. Адамчыка і М. Клімковіча багата напружаных і драматычных момантаў, шмат неадназначнасці. Важным з’яўляецца тое, што са шматлікіх рэплік п’есы сучасны чытач / глядач атрымлівае вельмі каштоўную інфармацыю пра эпоху Рэнесансу, тагачасную культуру, пісьменства, звычаі і адносіны ў грамадстве. Гэтая інфармацыя, пададзеная ў форме гратэску і абсурду, можа часам шакіраваць, але перадусім інтрыгаваць, заахвочваць да знаёмства з культурным і грамадска-палітычным ладам часоў Скарыны.

Умела аб’яднаныя тапаграфічныя падрабязнасці, даты, імёны дазваляюць збудаваць прывабны вобраз Сярэднявечча, а таксама акрэсліць ролю і месца

Францыска Скарыны ў стварэнні духоўнай культуры таго часу. Фабула метап’есы ў працэсе пастаноўкі ўвесь час разбіваецца і канфрантуецца са сцэнічнымі ідэямі і фантазіямі Рэжысёра, што не дазваляе рэцыпіенту забыцца пра той факт, што ён фактычна мае дачыненне толькі з адным з узроўняў п’есы – узроўнем гістарычным.

Варта падкрэсліць, што ў аналізаванай п’есе гратэск адыгрывае асаблівую ролю, ён заўважальны на розных узроўнях тэксту – у спосабе стварэння постацяў, манеры будавання сцэн і драматычных сітуацый, і, нарэшце, на ўзроўні дыскурсіўным. Галоўны герой п’есы – Францыск Скарына, а таксама другапланавыя персанажы – Лютэр і яго жонка паказаныя з самых розных перспектываў. Інтымныя сцэны, блізкія да блюзнерства дыялогі, інтрыгі і неверагодныя гісторыі, якія маюць надаць праўдападабенства словам Скарыны, якога заспеў Лютэр на спакушэнні сваёй жонкі, узмацняюць уражанне штучнасці прадстаўленага свету, і адначасова сведчаць пра наўмыснасць мета-тэатральнага механізму, які зробіцца ключом да прачытання ідэі твору.

Паказаныя ў наступных сцэнах твора перэпетыі Францыска Скарыны, якія ўтвараюць т.зв. унутраную п’есу, раз пораз перапыняюцца дыялогамі Рэжысёра і Драматурга, што дапамагае асвятляць фабулу і выразна ўказвае на сувязь з п’есай-рамкай. Такім чынам, як можна дапускаць, блазенскія штукарствы, немудрагелістыя дыялогі і сітуацыі прысутнічаюць у п’есе не дзеля пустога смеху. Смех робіцца тут інструментам, які змушае да рэфлексіі над гісторыяй, культурай, мінулым, роляй асобы ў развіцці нацыі. Рэжысёр і Драматург разважаюць на тэму нацыянальных каштоўнасцяў і ідэалаў, задумваюцца пра наступствы свайго мастацкага вырашэння і пра тое, як іх тэатральная прапанова будзе ўспрынятая гледачамі:

Рэжысёр. Ты на мяне не цісні. Ты мне Скарыну зрабі такога, каб не сорамна было ні за

яго, ні за сябе

Драматург. А мне не сорамна ні за сябе, ні за Скарыну. А раблю эпоху Адраджэння

такой, якой яна была.

Рэжыссёр. Я не магу гэтага паставіць.

Драматург. А я не магу рабіць бронзавых, ампірных балваноў-ідалаў.

Рэжыссёр. Вось і дамовіліся. Ты шукай сабе другога рэжысёра, а я знайду другога драматурга.

Прыведзеная сцэна з’яўляецца ключавой у разуменні мастацкай ідэі п’есы Адамчыка і Клімковіча. У ёй аўтары закранулі некалькі вельмі істотных праблем: інсаванне межаў у мастацтве, свабода творцы і эстэтычныя чаканні рэцыпіента. Аўтакаментарыі персанажаў п’есы-рамкі маюць характар мастацкіх пастулатаў, якія ўпісваюцца ў постмадэрнісцкі дыскурс ідэнтычнасці. У іх падымаюцца канкрэтныя пытанні (выказаныя апасродкавана): дзе заканчваецца мастацтва і пачынаецца прафанацыя, ці можа мастацкая правакацыя ўплываць на фарміраванне сістэмы каштоўнасцяў, ці мэта апраўдвае сродкі, нягледзячы на тое, што выклікае шмат кантраверсій і неадназначных ацэнак, як далёка можа пайсці творца, каб не закрануць пачуццяў (рэлігійных, патрыятычных etc.) рэцыпіента?

У п’есе-рамцы неаднаразова з’яўляюцца поўныя непакою разважанні пра творчы працэс, працу над новай п’есай, героямі якой будуць “нацыянальныя святыні”. Ужо на самым пачатку твора з’яўляецца іранічнае стаўленне драматургаў не толькі да сябе (аўтараў п’есы), але і да выкарыстанай формы. Адмаўленне ад ранейшай літаратурнай мадэлі стварэння гістарычных персанажаў [7, с. 89–90] адначасова з ўвядзеннем новага сэнсавага парадку дапамаглі беларускім пісьменнікам даць новае азначэнне драматургічнаму мастацтву, а таксама паказаць альтэрнатыўнае (але не горшае) бачанне гістарычнай рэальнасці, не манументальнай і ўзнёслай, а звыклай, штодзённай і вельмі блізкай шараговаму гледачу. З гэтай перспектывы фабула ўнутранай п’есы

выконвае службовую ролю ў творы. Цяжка прадбачыць, у якім накірунку будзе працягвацца працэс інтэрпрэтацыі тэксту ў далейшым, але не падлягае сумневу той факт, што выкарыстаная ў п’есе “*Vita brevis*, альбо Нагавіцы святога Георгія” Міраслава Адамчыка і Максіма Клімковіча метатэатральная стратэгія сведчыць пра мастацкі патэнцыял гэтага твора і дазваляе самыя розныя шляхі прачытання, якія будуць залежаць ад мастацкай свядомасці рэцыпіента і яго ўяўлення пра тое, чым ёсць сучаснае літаратурнае мастацтва і якія яно ставіць мэты для дасягнення.

З арыгінальным перастварэннем гістарычнага матэрыялу маем дачыненне ў п’есе Івана Штэйнера “*Мудрости зачало и конецъ...* або Спакушэнне Францыска Скарыны”, апублікаванай у 2012 годзе і ў тым самым годзе пастаўленай на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра рэжысёрам Багданам Арлоўскім. Гэты твор несумненна з’яўляецца важным элементам беларускай драматургічнай Скарыніяны, якая налічвае на сёння ўжо некалькі дзесяткаў сцэнічных твораў [6, с. 3].

Наватарства п’есы Івана Штэйнера праяўляецца не толькі на ўзроўні стварэння персанажаў, але таксама ў своеасаблівай структуралізацыі часу і прасторы. Пятро Васючэнка адзначае: “Постаць Скарыны паказваецца аўтарам на фоне гісторыка-культурнага жыцця ВКЛ і ўсёй Еўропы пачатку XVI стагоддзя, у атачэнні такіх дзеячаў Адраджэння, як Марцін Лютар, Эразм Ратэрдамскі, Франсуа Рабле, Парацэльс ды іншых. Своеасаблівасць вырашэння творчай задачы заключаецца ў сумяшчэнні часавых пластоў – XVI–XXI стагоддзя, што выяўляецца ў выхадах на сучаснасць, мадэрнізацыі вобразаў і рэаліяў, выкарыстанні сучаснай лексікі, жарганізмаў і нават амерыканізмаў. Дзеянне няспынна змяняе сваю жанравую прыроду, паслядоўна ператвараецца ў дыскусію, перформанс і г.д.”.

Штэйнер адкідае традыцыйную мадэль драмы, з уласцівай ёй падзелам на акты і сцэны. Яго тэкст складаецца з васьмі частак, якія нагадваюць па форме карціны, разбудаваныя вакол аднаго канкрэтнага здарэння. Прастора, у якой адбваецца дзеянне, акрэслена драматургам у рэмарках, што папярэднічаюць асобным фрагментам тэксту: гэта кафедра ўсходнеславянскіх моў ва ўніверсітэце, сярэднявечная гандлёвая зала ў краме, альбо старажытная ўніверсітэцкая зала.

Першыя рэплікі п’есы адразу сігналізуюць, што гісторыясофская канцэпцыя Івана Штэйнера мае свае карані ў беларускай народнай культуры, паколькі ў творы паўстае пытанне пра сэнс гісторыі. Аўтарская гістарычная рэфлексія неадрыўна звязана з выяўленнем чалавека праз канкрэтныя ўчынкі, а свет культуры прадстаўлены ў выглядзе цыклічных народзін, але, на жаль, і ўпадкаў культурных каштоўнасцяў, выпрацаваных мінулымі пакаленнямі.

Варта падкрэсліць, што п’еса Івана Штэйнера “*Мудрости зачало и конецъ…*” прадстаўляе асобу Францыска Скарыны цалкам інакш, чым вядомыя нам літаратурныя тэксты. Выкарыстаная драматургам творчая стратэгія нагадвае раманны метад “пунктаў гледжання”, якая дае магчымасць прадставіць асобныя сітуацыі, здарэнні, дзеючых асобаў з розных перспектываў. Пра дзейнасць і заслугі Францыска Скарыны мы даведваемся з вуснаў чатырох герояў п’есы – славутага лекара Парацэльса, Марціна Лютэра, Эразма Ратэрдамскага і Вольнага мастака. Кожны з гэтых персанажаў прадстаўляе крыху іншае бачанне беларускага асветніка, але іх выказванні, сабраныя разам, ствараюць поўны, багаты і інтрыгоўны вобраз Скарыны, дазваляюць паразважаць пра тое, што з гэтага ўсяго засталося сёння.

Вобраз дапаўняецца выказваннямі самога Скарыны, які ўпэўнены ў сваёй жыццёвай місіі і неабходнасці рэалізацыі. У сёмай з’яве п’есы ён гаворыць: “Сапраўды, трэба выдаваць царкоўныя кнігі на маёй роднай мове. Хай кожны з людзей паспалітых будзе мець магчымасць успрыняць словы Боскія. І першай кнігай, якую я выдам, будзе славуты “Псалтыр”. Гэта незвычайная кніга, і ўсе па ёй будуць вучыцца чытаць. Псалтыр – гэта лекарство душевное, магічны сродак лячэння і ачышчэння чалавека,

папярэджанне розных няшчасцяў. Кнігу чытаюць над цяжкахворым, калі лічаць, што чалавек пакутуе ад нячыстай сілы. Чыталі яе і над нябожчыкам. Па ёй гадалі, варажылі. Вось якую ролю адыгрывала кніга ў свядомасці нашай. А потым я паспрабую перакласці на старабеларускую мову ўсе ці амаль усе кнігі Біблії” [8 с. 26].

Зварот да культурнай спадчыны дазволіў беларускаму драматургу паставіць вельмі трапны дыягназ сучаснасці нашай ідэнтычнасці, сістэме каштоўнасцей, прыярытэтаў. Асаблівым “злучнікам” паміж “старым і новым часам” з’яўляецца сакратарка Бялянка, якая добра ведае падзеі не толькі эпохі Сярэднявечча, але таксама наступных, уключна з найноўшым часам. Гэтая постаць перакрочвае межы часу і прасторы:

“Якім жа чынам мне з імі звязацца і прытым хутка, і нават тэрмінова? Як жа мне з імі сумоўнічаць, ні тэлефонаў, ні факсаў, а тым больш электроннай пошты тут няма, і як я змагу перадаць ім жаданне пана скантактавацца з імі? І што гэта за дзіўныя адрасы, што за дзіўныя гарады, назвы якіх я ніколі не чула? Ці добра ўсведамляе сабе яснавяльможны пан, у якім стагоддзі ён жыве? Мы хоць і вельмі прагрэсіўная эпоха, але ж не да такой ступені” – кажа Бялянка ў размове са Скарынам.

Тэкст Івана Штэйнера будуецца па прынцыпу карнавалізацыі, прачытанне механізмаў якой магчымасць зразумець мастацкую ідэю твора. Аўтар дэкларуе ўласнае іранічнае стаўленне і выкарыстоўвае інтэртэкстуальныя прыёмы ў якасці асновы паэтыкі, рэалізуючы тым самым ідэю палімпсеста. Драматург ахоплівае шмат розных часавых узроўняў, якія ўзаемапранікаюць і накладаюцца адзін на другі. І. Штэйнер выкарыстоўвае ў творы добра вядомае, напісанае альбо замацаванае ў культуры, як пэўная культурная, ці нават міфалагічная, мадэль. Пры гэтым мінулае пераплятаецца з сучаснасцю, біяграфічны досвед спалучаецца са стэрэатыпамі, мадэлі паводзінаў канфрантуюцца з замацаваным светапоглядам.

Усе гэтыя элементы ствараюць часткова аксюмаранічнае спалучэнне фікцыі, фактаў і традыцыі, аўтар згадвае гістарычныя падзеі, але не дзеля таго, каб іх прадставіць ці патлумачыць, але дзеля таго, каб разбурыць іх прыняты вобраз, замацаваны ў калектыўнай памяці і свядомасці. Такім чынам, перад намі вельмі цікавая спроба перагляду гістарычнай легенды, актуалізацыя зміфалагізаваных элементаў традыцыі, іх новая функцыяналізацыя і імкненне паказаць усё з іншага боку.

Цікава, што ў п’есе Штэйнера не хто іншы, а Блазан разумее сэнс асветніцкай дзейнасці Скарыны і роль культурнай традыцыі ў фарміраванні нацыянальнай тоеснасці. У восьмай з’яве п’есы ён гаворыць: “Няма прарока на сваім сметніку. Для беларусаў ніколі не будзе. Ідэя даць беларусам кнігу на роднай мове апярэдзіла час. І Скарына за ўсё, што зрабіў для Радзімы, атрымае непаразуменні, суды, нястачу, выгнанне, замоўчванне, абылганне. Што ж гаварыць пра славу, пашану, гонар, да чаго імкнуцца вялікія людзі. Чалавек – гэта гучыць горда! Пракляты богам край вар’ятаў і ёлупаў. Самі беларусы забудуць цябе. Ты ведаў латынь, грэцкую мову, габрэйскую, чэшскую, польскую, нямецкую, нашто табе была тая мова, якая вымрэ ў 21 ст., а на яе рэдкіх носьбітаў будуць глядзець як на іншапланецян”.

Падсумоўваючы, неабходна сцвердзіць, што незалежна ад сродкаў стварэння асобы Скарыны, мастацкай манеры і абранай стратэгіі, кожны з прадстаўленых драматургічных тэкстаў дапаўняе вобраз, замацаваны ў культуры. Постаць Скарыны робіцца прэтэкстам для разважанняў над істотнымі пытаннямі, не толькі тымі, што адносяцца да сферы літаратуры, але закранаюць таксама сферу беларускіх нацыянальных каштоўнасцяў, без якіх немагчыма будаванне будучыні.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Kasperski, E. Dramat historyczny – antynomie, gatunku, antynomie historii / E. Kasperski // *Dramat w historii. Historia w dramacie* / рэд. K. Latawiec/. – Kraków: Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu Pedagogicznego, 2009. – C. 111–112.

2. Ratajczakowa, D. W krysztale i w płomieniu. Studia i szkice o dramacie i teatrze / D. Ratajczakowa. – Wrocław: Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 2006. – 755 с.

3. Wołowski, W. Didaskalia i didaskaliczność. W dramacie i nie tylko / Wołowski W. – Lublin: Wydawnictwo KUL, 2016. – 414 с.

4. Петрашкевіч, А. Прарок для Айчыны / А. Петрашкевіч // Звон – не малітва. П’есы / уклад. У. Дабрыян, прад. П. Васючэнка. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2008. – С. 73–147.

5. Адамчык, М., Клімковіч, М. Vita brevis, або нагавіцы святога Георгія / М. Адамчык, М. Клімковіч // *Сучасная беларуская п’еса* / скл. П. В. Васючэнка. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1997. – С. 128–157.

6. Васючэнка, П. Код Францыска Скарыны / П. Васючэнка // “Мудрости зачало и конецъ...” або Спакушэнне Францыска Скарыны. П’еса. Літаратуразнаўцы аб творы / І. Штэйнер. – Гомель: Барк, 2012. – С. 3–4.

7. Siwek, B. Wolność ukrzyżowana. Rzecz o białoruskim dramacie i teatrze / B. Siwek. – Lublin: Wydawnictwo KUL, 2011. – 414 с.

8. Штэйнер, І. „Мудрости зачало и конецъ” або Спакушэнне Францыска Скарыны. П'еса. Літаратуразнаўцы аб творы / І. Штэйнер. – Гомель: Барк, 2012. – 74 с.

УДК 929*Ф.Скорина:140.8:2-81

***Е. А. Сергиеня***

## ЭПОХА И ДЕЛО СКОРИНЫ, МИРОВОЗЗРЕНИЕ И КОНФЕССИОНАЛЬНАЯ ПРИНАДЛЕЖНОСТЬ

Статья посвящена проблематике мировоззрения и вероисповедания Ф. Скорины. До настоящего времени нет ясного представления, какое духовное начало имел этот знаменитый человек. Анализ религиозно-политических процессов в обществе, в среде которого жил Скорина, титанический труд в издании библейских книг поможет в определении его вероисповедания. Понимание конфессиональной принадлежности Ф. Скорины, его мировоззрение важны для понимания подлинной духовности в современном белорусском обществе.

Основное, что представляется наукой как достижение в деятельности Франциска Скорины, то, что он был великим гуманистом, первопечатником, переведшим и издавшим Библию на старобелорусском языке. В течение трех последних столетий появилось достаточно много трудов о судьбе и деятельности Скорины. Среди десятков ученых, писавших об этом человеке, надо отметить таких, как Владимиров П., Флоровский А., Дворчанин И., Подокшин С., которые исследовали его биографию.

Интерес к жизни и деятельности Скорины проявился примерно через 200 лет после его смерти. О его жизнедеятельности написаны всевозможные работы, но в интерпретации фактов исследователей прослеживается влияние своего времени. Например, из поздних авторов М. Россолов в книге о Ф. Скорине говорит, что Скорина был «православно-католического исповедания (так было записано в его анкете) родом из Полоцка, русин 14 лет отроду» [11, с. 70]. Термин «православно-католический» по своей сути не корректен, такого вероисповедания при жизни Скорины не было. Позже появится Униатская церковь. Г. Андреевец утверждает, что отец Франциска, «Лука Скорина был католиком, но вначале отдал детей в школу при православной церкви» [2, с. 11]. И в тоже время А. Семенчук констатирует, что «о ранних этапах жизни Ф. Скорины на родине мы не имеем ни одного достоверного документа. Первые правдоподобные сведения о жизни Скорин были связаны с его приездом в Краков» [5, с. 239]. Как видим, в трудах присутствует достаточно свободная интерпретация.

Говоря о деятельности белорусского первопечатника, необходимо понять, почему человек имея философское и медицинское образование, 27 лет отроду, едет

далеко в Прагу, печатать Библию на родном языке. И, что примечательно, для своего народа Скорина издает не труды Платона или Цицерона, не материалы по медицинской практике или работы известных античных авторов, а Библию, пишет предисловия к ее книгам и делает комментарии для лучшего понимания сути. Да и значительная часть его жизни непосредственно связана с изданием библейских книг в Чехии, ВКЛ и Московии. В связи с этим интересно знать, представителем какой конфессии был Франциск Скорина. «Особый интерес у исследователей вызывает конфессиональная принадлежность Скорины. Его считали католиком, протестантом и православным. Однако четких высказываний по этому поводу у самого Скорины нет, поэтому наиболее вероятно, что Скорина не являлся приверженцем какой-либо одной ветви христианства, а лояльно относился к каждой из них» [6, с. 109]. Конфессия, согласно словарю русского языка, самостоятельное, независимое от других религиозное направление. Понимание вопроса мировоззрения и конфессиональной принадлежности, поможет лучше понять мотивы и цели в жизни Ф. Скорины, что важно теперь для формирования национального самосознания белорусского общества. С. А. Подокшин говорит: «Проблема мировоззрения Скорины и направленность его деятельности – это по сути дела часть глобальной проблемы становления и развития белорусского народа как сознательного субъекта истории» [10, с. 15].

Актуально разрешить предложенную проблематику поможет ***анализ эпохи***, в которую жил и трудился Ф. Скорина. Анализируя то время, необходимо обратить особое внимание на политические и религиозные процессы, через среду которых протекала жизнь Скорины. Такой анализ даст возможность переосмысливать исторические события, что будет полезно для современного белоруса. Надо при этом помнить, что народ Беларуси на сотни лет потерял независимость, а на время отсутствия государственности и припадают исследования скорининского наследия. Один этот факт говорит о возможности некорректной интерпретации событий. Поэтому в информации о Скорине неизбежно присутствует идеологическое влияние эпохи исследователя. По этой причине надо проводить более тщательный анализ эпохи Скорины, чтобы понять глубину духовного наследия, которое он оставил будущим поколениям.

Современные исследователи скорининского периода не обращают должного внимания на то обстоятельство, что в то время происходил процесс конфессионального формирования на белорусских землях, это подтверждают исторические даты. Известно, что первая епархия была основана в 992 году в Полоцке и представляла тогда единую христианскую церковь на наших землях. Через полстолетия состоялось полное разделение Церкви на Западную и Восточную, которые потом претендовали на земли ВКЛ как каноническую территорию. После подписания Кревской унии было основано Виленское бискупство в 1387 году. А в 1472 году православная церковь ВКЛ и Польши получила каноническое признание Константинопольского патриархата [7, с. 7]. Обратим внимание и на то, что подвижник Яна Гуса Иероним Пражский посетил территорию ВКЛ еще в 1413 г. по приглашению князя Витовта с целью проповеди Евангелия в Полоцке и других городах княжества. Также по просьбе чешского народа литвины вместе с чехами воевали за идеи Гуса, а, возвратившись домой, стали проповедовать Евангелие, как его проповедовал Ян Гус. Хотя на народ оказывало влияние христианское присутствие, согласно информации С. Акинчица, в конце XV века ВКЛ была «единственная не христианская страна в Европе». Литвины в основном поклонялись предметам и явлениям природы, рекам, деревьям, валунам, приносили жертвы [1, с. 41]. Исходя из вышесказанного, в эпоху Скорины сосуществовали католицизм, православие, евангельское движение, но страна еще была языческой.

В политическом аспекте католичество имело вес посредством формы управления церковью, которую называют папоцезаризм, когда римский папа через церковь влияет на правителей страны и их подданных. В православном мире форма

па якіх можна лёгка пазнаць гістарычную асобу. Францыск Скарына, напрыклад, з'яўляецца з «невядомай патомкам ямы» [4, с. 118] (бо яго месца пахавання невядомае), у шырокай мантыі, якая развяваецца па ветры. «Доктар лекарскіх і вызваленых навук» [4, с. 118] у смяротнай роспачы стаіць над распятай краінай, якая, як і стагоддзі таму, не знаходзіць спакою і паратунку.

Пераасэнсоўваючы вобраз Скарыны, М. Гарэцкі характарызуе яго як мудрага прарока, які згодна міфалагічным народным павер'ям устаў з магілы, каб выратаваць сваіх нашчадкаў. У час апакаліптычнай катастрофы, вайны і рэвалюцыі, калі стаіць пытанне аб існаванні беларускай нацыі, Францыск Скарына ацэньвае перадавыя сілы народа, дапамагае адшукаць фундаментальную аснову грамадства, закладзеную культурнымі здабыткамі Я. Купалы, Ф. Багушэвіча, Цёткі, М. Багдановіча, В. Дунін-Марцінкевіча і інш. Упершыню ў беларускай мастацкай прозе М. Гарэцкі стварае скарынаўскі міф прарока і правадыра, выкарыстоўваючы пры гэтым традыцыйную веру беларусаў у пазаматэрыяльны свет, уяўленне пра магутных і мудрых продкаў, якія дапамагаюць у жыцці, нясуць дабро «ва ўсе вякі і кожны час» [4, с. 119].

Прысутнічаюць у апавяданні «Фантазія» цытаты і рэмінісцэнцыі са скарынаўскіх твораў. Калі, характарызуючы іншых герояў, М. Гарэцкі прыводзіць радкі з вершаў Ф. Багушэвіча і Цёткі (экспліцытная інтэртэкстуальнасць), то словы Скарыны узгадваюцца пісьменнікам у дыялогу галоўнага героя і Я. Купалы: «не мукі цела страшны», «народ наш паспаліты» [4, с. 119] (імпліцытная інтэртэкстуальнсць).

Такім чынам, у апавяданні «Фантазія» пісьменнік фарміруе аснову скарынаўскага міфа, у структуру якога ўваходзіць не толькі рэальная біяграфія гістарычнай асобы, але і актуальны для свядомасці эпохі Адраджэння пачатку XX стагоддзя абагулены, ідэальны вобраз асветніка. У вышэйназваным творы вобраз галоўнага героя апавядання, захоўваючы змест, закладзены ў ім папярэдняй культурнай традыцыяй, пашырае сэнсавую прастору апавядання, з'яўляецца знакам эксплiцытнай і імпліцытнай інтэртэкстуальнасці. Вобраз Скарыны ў апавяданні мае складаную структуру, утрымлівае некалькі сэнсавых узроўняў: імя Скарыны, біяграфію першадрукара, ідэальны міфалагізаваны вобраз прарока, цытаты і рэмінісцэнцыі з твораў Скарыны.

Праведзены аналіз творчай спадчыны М. Гарэцкага дазваляе акрэсліць дзве тэндэнцыі ў адлюстраванні вобраза першадрукара. Па-першае, М. Гарэцкі публікуе шэраг навукова-папулярных даследаванняў жыцця і творчасці Скарыны ў артыкулах «Доктар Францыск Скарына» (1917), «Чатырыста годоў друку на Беларусі» і «Культурнае свята» (1925), у «Гісторыі беларускае літаратуры» (1924), у якіх сінтэзуе мастацкую і дакументальную прозу ў лепшых традыцыях сусветнай біяграфічнай літаратуры. Па-другое, пісьменнік пераасэнсоўвае лёс і дзейнасць вядомай гістарычнай асобы ў апавяданні «Фантазія» (1921). Галоўны герой апавядання (Францыск Скарына) увасабляе міфалагізаваны вобраз прарока, шматпакутнае і самаахвярнае жыццё якога адпавядае гістарычнаму, сацыяльнаму і культурнаму кантэксту пачатку XX стагоддзя.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**


1. Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. – Т. 1: Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды / М. Багдановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 752 с.

2. Слаўны сын Беларусі : Кніга пра Скарыну / Прадм. А. І. Мальдзіса ; уклад. і пасляслоўе. С. С. Панізніка ; маст. Р. У. Конрад. – Мінск : Юнацтва, 1994. – 254 с.

3. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / В. Ластоўскі ; прадм. А. Сушы. – Мінск : Мастацкая літаратура, 2012. – 814 с.

4. Гарэцкі, М. Творы : Дзве душы : аповесць. Апавяданні. Жартаўлівы Пісарэвіч : п'еса. Літаратурная крытыка і публіцыстыка. Лісты / М. Гарэцкі. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1990. – 629 с.

5. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі ; уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1992 – 479 с.

УДК 930.85(476)*В.Ластоўскі:94:655.11(476)*Ф.Скарына

***В. І. Яцухна***

# СКАРЫНАЗНАЎЧАЯ СПАДЧЫНА ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

У артыкуле разглядаюцца навуковыя і літаратурна-мастацкія здабыткі Вацлава Ластоўскага ў галіне асэнсавання дзейнасці беларускага і – наогул – усходнеславянскага першадрукара. Увага надаецца асаблівасцям змястоўнага напаўнення навуковых і навукова-папулярных матэрыялаў В. Ластоўскага аб Ф. Скарыне, змешчаных у перыёдыцы першай трэці XX стагоддзя, а таксама ў “Гісторыіі беларускай (крыўскай) кнігі”. Асобным раздзелам ідзе разгляд літаратурна-мастацкай скарыніяны В. Ластоўскага, у якой слынны вучоны, пісьменнік, крытык, публіцыст, журналіст, педагог таксама выступіў адным з першапраходцаў.

Аб Ф. Скарыне, яго дзейнасці і значэнні для беларусаў, а таксама для ўсіх усходніх славян і іх суседзяў В. Ластоўскі гаварыў неаднойчы, так бы мовіць, агулам, на старонках беларускай адраджэнскай перыёдыкі. Першай жа, як зараз прынята гаварыць, манаграфічнай працай В. Ластоўскага ў гэтым накірунку стаў артыкул “У 400-летнюю гадаўшчыну”, змешчаны ў канцы 1917 г. у “Гомане”, а таксама ў “Беларускім календары” за 1918 г. У 1924 г. у 2-м нумары часопіса “Крывіч” убачыла свет праца В. Ластоўскага “Доктар Францішак Скарына: (1525–1925)”. І, урэшце, у “Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі” (1926) больш дзясятка старонак прысвечана славутаму палачаніну і яго дзейнасці. Як бачна, навуковыя скарыназнаўчыя здабыткі В. Ластоўскага не надта аб’ёмныя. Але, нагадаем, яны былі аднымі з першых ва ўласнабеларускім скарыназнаўстве. І ў гэтым іх несумненная каштоўнасць.

“Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі” – апошняя і самая буйная з прац, у якіх В. Ластоўскі піша пра Ф. Скарыну. Прычым яна нядаўна перавыдадзена. Таму менавіта на звесткі з “Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі” мы будзем далей абапірацца пры разглядзе навуковай скарыніяны В. Ластоўскага.

На што звяртаў увагу В. Ластоўскі, пішучы пра Ф. Скарыну, якія моманты ў дзейнасці першага ўсходнеславянскага кнігадрукара лічыў найважнейшымі?

Першы момант – гэта месца Ф. Скарыны ў айчыннай гісторыі: “Безумоўна, найвялікшай постацьцю гісторыі нашай пісьменнасьці зьяўляецца Доктар Францішак (Франціск) Скарына, першы чалавек з вучоным тытулам доктара на ўсходзе” [1, с. 298] (Цытаты намі падаюцца ў арыгінале, з захаваннем асаблівасцей напісання; пунктуацыя і сінтаксіс прыводзяцца ў адпаведнасць з сучаснымі нормамі – В.Я.).

Пытанне нацыянальнай прыналежнасці і ідэнтыфікацыі Ф. Скарыны вырашаецца В. Ластоўскім наступным чынам: “Скарына называе сябе ў сваіх кнігах “русіном”, “рускім”, “нароженый въ руском языку” <…>, сваю дзейнасьць пасьвячае “своей братии Руси”, сваю Біблію называе “Бивлія руска выложена доктромъ Франциском Скориною… богу ко чти и людем посполитым к доброму научению”. Гэта ўсё паказуе, што Скарына абычаем таго часу не аддзяляў народнасьці ад веравызнання. Для ўсіх яго сучасьнікаў “руская вера” была адначасна “руским языком” і процістаўлялася шыранай у тыя часы Ягельлёнамі “нямецкай”, або “ляцкай” веры і штораз больш наплываўшаму ў край “ляцкому языку”” [1, с. 298].

Біяграфічныя звесткі пра Ф. Скарыну падаюцца В. Ластоўскім з улікам здабыткаў тагачаснага скарыназнаўства. Зразумела, што найперш указваецца на месца, дзе нарадзіўся, рос, мужнеў і першапачаткова атрымліваў адукацыю будучы двойчы доктар і ўсходнеславянскі першадрукар: “Родам ён быў “з слаўнага места Полацка”, са старой калыбкі крыўскай культуры, дзе яшчэ ў XII стагодзьдзі пісаліся і перапісываліся

кнігі, а пазьней існавалі “лаціна-грэцка-рускія” школы і, урэшце, ад 1580 году, Акадэмія” [1, с. 298]. Паводле В. Ластоўскага, менавіта бацька Юрыя (Георгія) Скарыны, полацкі купец Лукаш Скарына, пасля закачэння сынам пачатковай школы (ці атрымання пачатковай адукацыі) у Полацку паслаў яго вучыцца ў Кракаў, ва ўніверсітэт, дзе была “значная крыўская калёнія” [1, с. 298] і нават “руская” царква [1, с. 299]. Там адбылося перайменаванне Юрыя ў Францыска. Распавядаючы аб кракаўскім перыядзе жыцця Ф. Скарыны, В. Ластоўскі прыводзіць цікавы факт, які сёння рэдка ўзгадваецца скарыназнаўцамі: “Сярод тагочасных кракаўскіх прафэсараў быў выдатны вучоны Ян Глоговчык (1507), які раней (1490–1492) быў вучыцелем у князя Івана Гашталда ў Вільні. Аб гэтым Глоговчыку гісторык Сымон Старавольскі перадае, што ён перакладаў Біблію на “рускую” мову, гэта знача – на мову, якой гаварылі і пісалі ў В. Кн. Літоўскім. Мабыць, гэты Глоговчык выклікаў у Скарыны любоў да кнігі і нахіліў яго да працы над перакладам Бібліі на агульназразумелю мову [1, с. 299]. Прычыну з’яўлення Ф. Скарыны ў Падуі В. Ластоўскі тлумачыць імкненнем будучага першадрукара да ведаў, адукацыі, пашырэння, як зараз кажуць, агульнага кругагляду, а таксама тым, што ў Кракаўскім універсітэце не было медыцынскага факультэта: “... акром філёзофіі, Скарыну цікавілі багаслоўе і мэдыцына. Мэдычнага факультэту ў Кракаве не было, і Скарына павінен быў шукаць гэтай веды ў другіх унівэрсытэтах на заходзе Эўропы. Шэсьць гадоў ён недзе вучыўся, але дзе, дагэтуль невядома. Ёсьць пашлякі, што быў на Пражскім унівэрсытэце, што бываў у нямецкіх гарадох” [1, с. 299]. В. Ластоўскі досыць падрабязна перадае аб тым, як і пры якіх умовах Скарына здаваў экзамен на ступень доктара медыцыны ў Падуанскім універсітэце. Пасля экзамену ў Падуі “Ф. Скарына вярнуўся на бацькаўшчыну; тут ён пазнаёміўся з тагочаснымі краёвымі грамадзкімі дзеячамі і братчыкамі, пабываў у Вільні, тагочаснай сталіцы В. Кн. Літоўскага, пераняўся мясцовымі злыбедамі і пастанавіў пасьвяціць сябе прасьветнай працы. У той час у нас вельмі адчуваўся недахват поўнай Бібліі, так патрэбнай для царкоўнага і дамовага чытаньня. Тое, што было перакладзена, не станавіла поўнасьці і траплялася ў злых папеpакручаных сьпісках, і то найчасьцей у чужой, малазразумелай баўгарскай, царкоўнай мове. І Скарына задумаў пераклaсьці ўсю Біблію і выдрукаваць яе. Гэта на тыя часы быў вельмі сьмелы крок, бо славянскія народы толькі што яшчэ знаёміліся з друкарскай справай” [1, с. 300]. Тое, што Скарына вырашыў здзейсніць сваю задуму менавіта ў Празе, В. Ластоўскі вытлумачвае наступным чынам: “Дзеля таго, што ў родным яго Полацку ня было спрыяйных варункаў, а ў Кракаве, дзе ён атрымаў вышэйшую асьвету, друкаваньне славянскіх кніг, распачатае Фіолям у 1491 годзе, было спынена дзякуючы цемнаце і фанатызму тамтэйшага духавенства, то Скарына, сабраўшы патрэбныя старыя рукапісы, паехаў у Прагу (“старое места Пражское”). Прага маніла да сябе Скарыну таму, што там у тыя часы была поўная рэлігійная свабода, і ён спадзяваўся, што яго ня сустрэне доля Фіоля” [1, с. 300]. Наступны перыяд у жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны звязаны з Вільняй, куды ён “між 1520 і 1525 годам <…> з нявядомых прычын пераносіць сваю друкарню <…>, а такжа свае друкі і рукапісы” [1, с. 300]. В. Ластоўскі пры гэтым, спасылаючыся на польскіх гісторыкаў, акцэнтуе ўвагу на тым, што падчас дадзенага пераезду прапала даволі шмат кніг, надрукаваных у Празе: “... кажуць, што калі вязьлі скарынаўскую Біблію с Прагі ў Вільню, то многа экзэмпляраў яе прапала па дарозе. Прапажа гэта сталася гэткім парадкам: Скарына, вяртаючыся ў 1525 годзе с Прагі, пабываў у Вітэнбэрзе, дзе тады выступаў Лютар супраць папежа. Каталікі з гэтай прычыны абвінавацілі Скарыну, што ён мае стасункі з Лютарам. Скарыну арэштавалі пад імем “Францішa с Польшчы” і засудзілі на спаленьне. Скарына здолеў апраўдацца і вярнуўся ў Вільню, але заарэштаваныя інквізыцыяй кнігі былі сканфіскаваны і праўдападобна спалены” [1, с. 303–304]. В. Ластоўскі прыводзіць таксама звесткі аб жаніцьбе ў Вільні Скарыны з Маргарытай, жонкай памёршага Юрыя Адверніка,

а таксама аб страшным пажары ў Вільні ў 1530-м годзе, у якім згарэла і друкарня. Канкрэтны год смерці Ф. Скарыны В. Ластоўскім не ўказаны, ён толькі зазначае, што ў 1535-м годзе першадрукар яшчэ быў жывым. Наогул нічога не сказана В. Ластоўскім аб другім пражскім перыядзе жыцця Ф. Скарыны.

У расповедзе аб Ф. Скарыне і яго дзейнасці, які вядзецца В. Ластоўскім на старонках "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі", закранаецца пытанне мовы выданняў беларускага і – шырэй – усходнеславянскага першадрукара. Так, даследчык зазначае, што "кнігі друкаваў Скарына некаторыя на царкоўна-славянскай мове (Псалтыр, Апостал), а іншыя на тагочаснай нашай літэратурнай мове. Псалтыр і Апостал былі вельмі пашыраны, дык Скарына агранічыўся толькі рэдакційнай папраўкай тэксту і дадаткам тлумачэньняў у крыўскай мове, а также памешчаньнем на белягох кнігі слоў, незразумелых для чытачоў. Другія кнігі Бібліі, менш пашыраныя і вядомыя толькі ў адрыўках, ён дапоўніў і прарэдагаваў, а некаторыя кнігі пераклаў нанова, карыстаючыся старымі рукапісамі, лацінскім тэкстам і тэкстам чэскай Бібліі, якая была надрукавана ў 1506 годзе" [1, с. 301]. І яшчэ: "Свь. пісанне ён друкаваў, па магчымасьці, на зразумелай для народу мове. Ён не адважаецца яшчэ перайсьці на чыста народную гутарку, у мове яго яшчэ многа баўгарызмаў у слоўніцтве і ў формах, але ўсё-ж такі ў аснову паложана народная крыўская (беларуская) мова з тымі асобнасьцямі, якія характэрызуюць старакрыўскую літэратурную мову. Часьцю гэта быў консэрватызм самога Скарыны, а часьцю прымушалі яго да гэтага аб'ектыўныя варункі: народная мова тады яшчэ ня была вывучана. Скарына і так зрабіў больш, чым можна было: ён унёс у сваю Біблію многа чыста народных слоў. Падходзячы, на сколькі пазваляў тагочасны стан моваведаньня, да народнай мовы, ён і так перарос сваё грамадзянства на цэлае стагодзьдзе" [1, с. 301].

У сваёй характарыстыцы выдавецкай прадукцыі Ф. Скарыны В. Ластоўскі не абмінуў і мастацка-эстэтычныя якасці яе. "Выданні Скарыны, – піша вучоны, – вызначаюцца яшчэ мастацкай старанай. Новыя аддзелы яго кніг і агалоўкі аздоблены рысункамі і асобнымі прыгожымі літарамі ў рамках ды застаўкамі. Кнігі маюць дрэварыты, якія, акром прыданьня аздобнасьці кнігам, кіруюцца яшчэ мэтаю, паводле слоў самога Скарыны, "абы люди посполитыя, чтути могли лепей разумети". Аб рысунках Скарыны расійскі бібліограф Стасаў кажа: "у Апостале загалоўныя літары, гэрб Скарыны і монаграма з літарай Т выкананы так дасканальна, з гэткім дзіўным смакам, што перавышаюць усё вырытае ў падобным выглядзе ў Бібліі". А гэты Апостал друкаваўся ўжо ў Вільні. Пад крыптонімам Т скрываецца адзін са спатужнікаў Скарыны, хтокольвечы з крыўскіх тагочасных мастакоў" [1, с. 304]. Ніжэй пра гэтага невядомага мастака В. Ластоўскі дадае наступнае: "Адно пэўна, што ён, як і Скарына, быў "русін", на гэта паказуе пераезд яго, разам са Скарынай, с Прагі ў Вільню і яго монаграма, зложаная са славянскіх літар" [1, с. 307]. Разам з тым, "маецца также дапушчэньне, што часць рысункаў было зроблена самім Скарынам, прынамсі тыя з іх, на якіх красуе гэрб Скарыны – сонца і месяц" [1, с. 307].

Асобна В. Ластоўскі кажа пра шрыфт, які выкарыстоўваў Ф. Скарына. Літары аздоблены "паводле рысунку тых старых рукапісаў, якія вывез з роднага краю. Скарынаўскія літары адтвараюць лепшыя пробкі старакрыўскага–Полацка–Смаленска–Тураўскага–кірылаўскага пісьма, выстылізаванага ў цэнтрах крыўскай асьветы" [1, с. 300].

У канцы расповеду пра дзейнасць Скарыны В. Ластоўкі многа месца аддае разгляду ўплываў надрукаванага выдатным палачанінам на далейшае развіццё кнігавыдавецкай і наогул кнігаасветніцкай, калі так можна сказаць, справы ва Ўсходняй Еўропе. Падагульняе сказанае В. Ластоўскі наступным абзацам: "С павыжшага агляду мы бачым, што ўплыў Ф. Скарыны абыймаў усю ўсходнюю славяншчыну. Пад уплывам Скарыны і яго друкаў засновуецца друкарня сьпярша ў Несьвіжы, згэтуль перадаецца ў Маскву, але не прынятае, дзякуючы цемнаце, друкарства з Масквы вяртаецца назад у Крыўскія землі і абасновуецца яно ў Заблудаве. З Заблудава ідзе на

Львоў і Астрог, Дэрмань, Угорцы, Страціна, Кіяў. На пару гадоў пазьней Заблудоўскай працуе друкарня Цяпінскага, а адначасна з Львоўскай працуе Віленская друкарня Мсціслаўца, пазьней Мамонічаў, урэшце Евейская, Кутэйнская, Буйневіцкая, Магілёўская і др." [1, с. 306]. Акрамя таго, "друкаваныя выданьні Скарыны перапісываліся. Захавалася некалькі рукапісаў, якія маглі быць перапісаны з друкаў Скарыны; у некатарых з іх захаваліся і кнігі Бібліі, якія былі надрукаваны Скарынам, але затраціліся. Адны з такіх рукапісаў даслоўна перадаюць скарынаўскія друкі, з утрыманьнем прадмоў і імя Скарыны, а другія сьпіскі маюць зьменены правопіс, а такжа заменена яго імя другім ..." [1, с. 306].

У канцы нашага разгляду дзейнасці В. Ластоўскага на ніве навуковага скарыназнаўства звернем увагу на момант, які можна лічыць своеасаблівым пераходным мастком да другой часткі артыкула, у якой разглядаецца мастацкая, а дакладней літаратурна-мастацкая скарыніяна славутага беларускага вучонага, пісьменніка, крытыка, мовазнаўцы, педагога, журналіста, гісторыка, палітычнага дзеяча. На 298-й старонцы "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" ёсць абзац з канстатацыяй наступнага: "Нажаль гэтага эпохіяльнага мужа не спрамагліся ацаніць яго сучасьнікі. Духавенства сьлепа трымалася "сьвятой" царкоўнай славяншчыны і з падозрывасьцю глядзела на вялікага значэння націянальную дзейнасьць Скарыны, не менш воража адносілася да скарынаўскіх пачынанняў і лацінскае духавентсва. Словам, праца Скарыны не была сустрэчана прыхільна між сваімі" [1, с. 298]. Менавіта гэта якраз і склала асноўнае праблемна-змястоўнае поле вершаванага драматычнага абразка В. Ластоўскага "Адзінокі", а таксама вызначыла яго пераважаючы мастацка-эстэтычны пафас.

Вершаваны драматычны абразок «Адзінокі» быў напісаны В. Ластоўскім у 1917 годзе. Галоўным героем абразка выступае Скарына. Прычым пісьменнік ставіў галоўнай мэтай не столькі намаляваць у абразку вобраз вялікага асветніка і гуманіста, колькі раскрыць унутраную супярэчнасць эпохі, у якую жыў і тварыў беларускі першадрукар. Такім чынам, ядром мастацкай ідэі абразка «Адзінокі» з'яўляецца востры, амаль што трагедыйнага напалу канфлікт: Ф. Скарына імкнецца даць праз выданне кніг на роднай мове асвету свайму народу і ў той жа час сустракае неразуменне, непрыняцце, а то і злоснае асуджэнне уласных памкненняў значнай часткай суайчыннікаў. Прычым не толькі звычайных, простых людзей, але і вучоных, адукаваных.

Адзначым, што крыху раней за В. Ластоўскага досыць глыбока раскрыў трагічныя супярэчнасці скарынаўскай эпохі М. Багдановіч у сваім вершы «Безнадзейнасць» (1913). «Боль безнадзейнасці» кранае душу «доктара лекарскіх навук», бо ён не толькі не знаходзіць актыўнага сустрэчнага руху сваёй падзвіжніцкай дзейнасці, але і бачыць яе непрыняцце многімі і асабліва тымі, ад каго ён чакаў як матэрыяльнай, так і маральнай дапамогі і падтрымкі. Прыкмечанае і па-мастацку асэнсаванае М. Багдановічам, а следам за ім і В. Ластоўскім атрымала працяг у беларускай драматургіі толькі ў апошняй трэці XX ст. Гэта адбілася перш за ўсё ў драмах А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца» (1979) і «Прарок для Айчыны» (1989), у аснову якіх лёг востры канфлікт ідэй, супрацьлеглых сацыяльных і маральных арыентацый, кантраснае супрацьпастаўленне змрочных сіл рэакцыі і светлага розуму, трагічны шлях да свайго народа гуманіста і асветніка Скарыны, які апярэдзіў сваю эпоху, узняўшыся над эгаістычнымі і карыслівымі інтарэсамі правячых колаў Вялікага Княства Літоўскага, яго свецкіх і рэлігійных «айцоў». Да згаданых твораў А. Петрашкевіча блізкім па змястоўнаму напаўненню і танальнасці пафасам прымыкае драматычная паэма М. Арочкі «Судны дзень Скарыны» (1988), у якой вобраз першадрукара падаецца ў трагічна-узвышаным плане.

Абразок «Адзінокі» пачынаецца словамі віленскага мгістрацкага ўрадоўцы, які прапануе публіцы, што сабралася на плошчы перад ратушай, купіць разам з іншымі рэчамі даўжбітоў і іх кнігі. Апошнімі цікавяцца многія, і кожны дае ім сваю ацэнку. Студэнты гэтыя кнігі адхіляюць па той прычыне, што, як яны мяркуюць, «навейшых

тут дарма шукаць ідэяў» [2, с. 52]. Манахі лічаць Скарыну «рушыцелем закону» Бога, які карае аўтара за тое, што «крануў яго ж святыя словы» [2, с. 52]. Паны здзіўляюцца, як можна, будучы адукаваным чалавекам, доктарам, гарнуцца да простага люду. І ўвогуле яны зыходзяць з наступнага:

Што кнігі для мяшчан тутэйшых
І цёмнага паспольства? Дзіўна!
Ня бачу мудрасці я ў ім,
Бо ж гэта прост наіўна!..
Тут, дзе шляхты род з Італьскае зямлі
Вядзе пачатак свой, — хоць, праўда, агрубеў
Між гэтага народу, — усё ж, традыцыя і кроў
Павінны падказаць, што мы, ад шляхты да паноў,
К лаціне вінны павяртаць!
А гэтых, шкодных пісьмакоў паспольных,
Да ката даць! [2, с. 51–52]

Не разумее Скарыну і тая частка суайчыннікаў, каму непасрэдна адрасаваны кнігі, – «людзі паспалітыя». Мяшчане і чэрнядзь нават больш варожа, чым панства, настроены да таго, хто «кнігі пераклаў на мову іх прыродную» [2, с. 52], хто клопат пра іх адукацыю і асвету зрабіў сэнсам усяго свайго жыцця.

Убачыўшы такія непрыязныя адносіны да плёну ўласнай тытанічнай працы, першадрукар вельмі засмучаецца. Сэрца яго напаўняецца горыччу і боллю. Аўтар уклаў у вусны Скарыны невялікі маналог, які перадае ўсю складаную гаму думак і пачуццяў чалавека, што так многа зрабіў для свайго народа і разам з тым менавіта за гэта вынес безліч пакут і прыніжэння. Да «Вечнае Праўды Духу Вячыстага» звяртаецца першадрукар, прызываючы яго быць сведкай і адначасова суддзёй найлепшых памкненняў у імя асветы і духоўнага адраджэння Радзімы:

Вечнае Праўды Духу Вячысты,
У сведкі Цябе я корна ўзываю,
Сведч, хоць патомным, порыў мой чысты,
Шчыра ахвярнасць клаў я для Краю!..
У садзе віновым нівы айчыстай
У поце і спёцы як я трудзіўся:
Кожны расточак духам жарчыстым
Грэў я, кукобіў і весяліўся
Ўродзе мабытнай…
Шмат што якое
Ускалыхаў я, шмат і зярнятак,
Кволых, быць можа, кінуты мною:
У шчырым імкненні шчыра клаў датак…
Стрэў жа ў адплату посык змяіны,
Напасць нікчэмну, зайздрасць і здраду,
Стаў прад людзьмі я вінен бязвінна… [2, с. 53–54]

Скарыне балюча і скрушна. Але на такой вось песімістычна-трагічнай ноце В. Ластоўскі не заканчвае свой твор. Як бы там ні было спачатку, а сапраўдная праца з цягам часу ўсё-такі бярэ сваё: гарадскія жанчыны, вяртаючыся з поля дамоў, пяюць складзеную першадрукаром песню. Такім чынам, хоць невялічкі, але ўсё-такі шлях да розумаў і душ суайчыннікаў пракладзены.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / Вацлаў Ластоўскі; прадм. А. Сушы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. – С. 298–307.
2. Ластоўскі, В. Адзінокі / Вацлаў Ластоўскі // Спадчына. – 1990. – № 4. – С. 52–54.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА І МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА

УДК 821.161.3-4

***І. А. Бажок***

## ТЭХНІКА СТВАРЭННЯ ЭСЭІСТЫЧНАГА ТЭКСТУ

У артыкуле раскрываюцца такія тэарэтычныя праблемы жанру эсэ, як яго віды, роля аўтарскага "я" ў тэксце, суаднесенасць эсэ з родамі літаратуры. Аспрэчваецца меркаванне наконт лёгкасці жанру. На прыкладзе эсэ А. Андрэева паказваецца тэхніка стварэння эсэістычнага тэксту ад пастаноўкі мэты, прадуманасці структуры, вобраза аўтара, падрабязна разглядаюцца стылістычныя фігуры і іх роля ва ўмоўным дыялогу паміж аўтарам і чытачом. А. Андрэеў дэманструе незвычайную пабудову сюжэту свайго эсэ. Гэта асаблівасць разглядаемага тэксту, бо ў эсэ амаль заўсёды сюжэт адсутнічае.

Гісторыя літаратуры і мастацтва слова ў цэлым даказвае, што эсэ – жанр складаны і аказваецца падуладным толькі высокаінтэлектуальным пісьменнікам. А. Маслакоў, падрабязна разгледзеўшы мастацкую эсэістыку А. Блока, В. Мандэльштама, М. Цвятаевай і І. Бродскага, прыйшоў да высновы, што "направленность эссе на воспроизведение эмоциональных и ментальных состояний в процессе их становления является отличительной чертой всех произведений этого жанра" [1, с. 70]. Спрэчным з'яўляецца меркаванне М. Эпштэйна, які лічыць, што "эссе – это как бы чистая словесность, сочинение как таковое, в самом широком и неопределённом значении этого слова, жанр для начинающих и неискушённых" [2, с. 347]. У сваю чаргу, эсэіста даследчык лічыць "мастером «сочинений на свободную тему», представителем словесности как таковой" [2, с. 348].

Большасць даследчыкаў, імкнучыся папоўніць комплекс даследаванняў па эсэістыцы, звяртаюцца да аднаго з аспектаў жанра (напрыклад, віда эсэ) і спрабуюць падрабязна яго вывучаць. Так, А. Дзмітроўскі прапануе адрозніваць пазнаваўчы лірычны і нораваапісальны віды эсэ, вылучаючы ў якасці крытэрыя тып духоўнасці. У розных англамоўных даследаваннях характарызуюцца белетрыстычна арыентаванае эсэ, эсэ без белетрыстычнай арыентацыі і эсэістычнае эсэ. Р. Шулес апісвае драматычнае, паэтычнае і апавядальнае эсэ.

Стварэнне эсэістычнага тэксту адрозніваецца ад напісання іншых жанравых адзінак. У першую чаргу гэта залежыць ад рэалізацыі аўтарскага "я" ў тэксце. Л. Сінькова ў артыкуле "«Ego-essai» Л. Дранько-Майсюка: вобраз аўтара" прапануе вызначаць жанр эсэ праз аўтарскае "я", якое з'яўляецца суб'ектам мастацкага разгляду ў тэксце. Да таго ж, развіццё твора адбываецца за кошт думаючага суб'екта. Многія даследчыкі лічаць асобу аўтара адпраўной кропкай і прынцыпам даследавання свету. М. Мантэнь прызнаваўся: "Моя книга в такой же степени создана мной, в какой я сам создан моей книгой. Это книга, неотделимая от своего автора, книга, составлявшая моё основное занятие, неотъемлемую часть моей жизни, а не занятие, имевшее какие-то особые, посторонние цели, как бывает обычно с другими книгами» [3, с. 593]. Аўтарскае "я" – неад'емны складнік эсэ, аднак яно не з'яўляецца прадметам апісання, што адрознівае гэты жанр ад дзённіка, споведзі і аўтабіяграфіі. Пацверджанне таму і даследаванне А. Саламеіна, які прапанаваў погляд на эсэ з боку французскай нацыянальнай гуманітарнай традыцыі. Аналізуючы "Вопыты" М. Мантэня, даследчык прыходзіць да высновы, што аўтарскае "я" ў эсэ "разворачивается в процессе живого

опыта, оно никогда не закончено, всегда становящееся. Поэтому личность здесь оказывается и вместилищем опыта, и, как правило, не рассматривается со стороны, она всегда за кадром, всегда подразумевается. Если же рассмотреть её не через динамику опытного становления, а через элементы, то она неизбежно будет выглядеть децентрированной" [4].

Сустракаецца сярод даследчыкаў жанру меркаванне наконт наяўнасці такога паняцця, як "эсэма": "мыслеобраз, составляющие которого находятся в подвижном равновесии, частью принадлежат друг другу, частью же открыты для новых сцеплений, входят в самостоятельные мыслительные и образные ряды" [2, с. 351]. "Эсэма" ўзнікае па аналогіі з "міфалагемай" у міфах. Аднак, на наш погляд, у адносінах да эсэ варта гаварыць пра іншую арганізацыю тэкста, якая пачынаецца з парадокса. Карыстаючыся тэрміналогіяй У. Эка, можна сказаць, што эсэ з'яўляецца адкрытым тэкстам, а міф – закрытым. Такім чынам, эсэма не з'яўляецца асновай пры стварэнні тэксту.

Філасофскае эсэ Анатолія Андрэева "Вы всё ещё хотите стать писателем?" (2016) – рэдкі ўзорны прыклад жанру ў сучаснай літаратуры. Аўтар ставіць перад сабой мэту "изложить своё видение писательства как культурного феномена, как тип жизнетворчества – изложить и оформить как «послание молодым», внятно и системно" [5, с. 167]. Увесь тэкст і ёсць адказ на пастаўленае ў назве пытанне. Аднак форма адказу – не літаратуразнаўчы артыкул, а эсэ. Дзякуючы свайму прафесіяналізму пісьменнік прадстаўляе ўзорны тэкст, які сам па сабе з'яўляецца прыкладам мастацкага твора, пра стварэнне якога піша А. Андрэеў. Няма асаблівага сэнсу аналізаваць структурныя, моўныя, сэнсавыя асаблівасці эсэ, таму што аўтарам-тэарэтыкам літаратуры ўсе нюансы названыя непасрэдна ў тэксце.

Грунтоўнае даследаванне гісторыі эсэістыкі дазваляе зрабіць выснову адносна таго, што пісьменнікі, якія пішуць моцныя, знакавыя эсэ, валодаюць у першую чаргу высокім інтэлектам, а ўжо потым – сапраўдным талентам (І. Канчэўскі, У. Самойла, У. Жылка, А. Бабарэка). А. Андрэеў таксама – чалавек інтэлектуальнай працы, доктар навук, і да таго ж – пісьменнік з вялікім літаратурным вопытам.

Тэкст складаецца з пяці частак, у кожнай з якіх ёсць свая мікратэма: тэхніка стварэння тэкста, роля асобы пісьменніка, грошы як матыў для літаратараў, мяжа паміж літаратарам і пісьменнікам, патрыятызм. Кожная з частак – гэта ступень-выпрабаванне на шляху ад чалавека, які захацеў стать пісьменнікам, да сапраўднага пісьменніка. З кожным новым пад'ёмам на прафесійную (калі можна так сказаць) лесвіцу эсэіст задае адно і тое ж пытанне, ці ёсць яшчэ жаданне стать пісьменнікам.

У эсэ як жанры не існуе скразнога апавядальнага сюжэту. Л. Адрэеў выкарыстоўвае нестандартны для эсэ прыём: яму ўдаецца весці чытача ад пачатку тэкста да канца па сваіх філасофска-літаратурных прастораў. Калі чытач згодны на выказаныя ўмовы, тады можна ісці далей. Напрыклад: "Вы всё ещё хотите стать писателем? В таком случае следует осознать масштаб вызова этого уникального призвания – быть писателем. Не страшно?" [5, с. 171] або "Вы всё ещё хотите стать писателем? Тогда добро пожаловать в мир, где пишут, как живут, и живут, как пишут. Здесь цена и мера всех вещей – личность" [5, с. 172]. Такім чынам аўтар апраўдвае словы крытыкаў і тэарэтыкаў літаратуры, якія прымяняюць у адносінах да эсэ назву "звышжанр".

Стварэнне апавядання развагаммі дае кропку судакранання эсэ з эпасам. Між іншым, нельга не заўважаць і тое, што паміж аўтарам і чытачом эсэ заўсёды адбываецца ўмоўны дыялог, што дазваляе суадносіць эсэ з драмай. Але першасна эсэ ўспрымаецца як свабоднае выражэнне думак аўтара, і гэта дае права лічыць эсэ роднасным паэзіі. Твор А. Андрэева "Вы всё ещё хотите стать писателем?" найлепшым чынам дэманструе месца эсэ ў сістэме жанраў. З'яўленне гэтага твора ў 21 стагоддзі

дазваляе паставіць кропку ў адным са складаных пытанняў тэорыі літаратуры: эсэ не адносіцца ні да эпасу, ні да лірыкі, ні да драмы або аднолькава адносіцца да кожнага з гэтых родаў.

Некаторыя даследчыкі сучаснай эсэістыкі ўвогуле лічаць, што "поэтическая форма является для эссе наиболее органичной" [6, с. 168]. Эсэ падаецца роднасным паэзіі па суаднесенасці ўнутранага і знешняга свету: "Но есть прозаический жанр, который близок к поэзии своим программным предпочтением внутреннего мира внешнему миру, нацелен на беспредметные взгляд и нечто, питается внутренними соками, плетет шелковую нить из самого себя. Это эссе" [7].

Пачатак эсэ "Вы всё ещё хотите стать писателем?" прадстаўлены парадаксальнымі развагамі аўтара на тэму вопыту: "А зачем, собственно? Поделиться опытом? Всучить нечто сакральное? Секрет мастерства, например, который тут же научит их «писать»?" [5, с. 167]. Пачатак разлічаны на прыцягненне ўвагі чытача, інтэлектуальнага абурэння, нязгоды з аўтарам. Як жа так, калі ўсе і ўсюды гавораць пра неабходнасць пераемнасці вопыту наступнымі пакаленнямі. У невялікім па аб'ёме тэксце А. Андрэеў клапоціцца пра кожнае слова, ведаючы яму кошт. Эсэ як жанр не дае права аўтару распісваць сумныя доўгія разважанні (менавіта такое прадстаўленне пра эсэ мае большасць непрафесіяналаў). Будучы тэарэтыкам літаратуры і вопытным аўтарам, А. Андрэеў адначасова прафесійна і таленавіта валодае ўнутранымі тэкставымі стратэгіямі і мастацкімі прыёмамі.

Вялікі аратар старажытнасці Цыцэрон трыумфам красамоўства лічыў ампліфікацыю. Лагічна, што менавіта гэтую стылістычную фігуру А. Андрэеў выкарыстоўвае ў доказнай сістэме свайго эсэ. Ампліфікацыя рэзка павышае ступень успрымання тэкста чытачом: "Оказывается, можно технично обозначить завязку, можно технично подвести к «ударной концовке»; можно овладеть портретной техникой персонажа; можно научиться технике диалога; можно повысить «культуру работы с деталью»; можно научиться приёмам, с помощью которых выразительно описывать тишину, ночь, одиночество, любовь, даже смерть. Почему нет? Можно научиться технике уклоняться от таких пугающих читателя категорий, как истина, личность, мышление и прочей никому не интересной зауми. Можно писать одними глаголами, можно избавиться от эпитетов…" [5, с. 168]. Эсэіст нібы праграміруе, замбіруе чытача, даказваючы сваю праўду шматлікімі паўторамі слова "можна".

Моцным доказную сістэму тэкста робіць і паслядоўнае падпарадкаванне, пры якім аўтар спачатку выказвае парадаксальную думку, а потым адразу ж яе даказвае.

Яшчэ адзін немалаважны прыём – пытальна-адказавая форма. Прачытаўшы пытанне, наўрад ці чытач стрымаецца, каб не прачытаць яшчэ і кароценькі адказ на яго, які, у сваю чаргу, нараджае другое пытанне і чарговы адказ. Гэтак працягваецца доўга, такім чынам хутка і незаўважна для чытача арганізоўваецца доказная сістэма эсэ.

Эсэ "Вы всё ещё хотите стать писателем?" – безумоўна, узорны прыклад жанру. Але ў ім адчуваецца акадэмічнасць, аўтара відавочна заманьвае спакуса завершанасці, паўнаты адказу на пастаўленае пытанне. Аўтар не пакідае за сабой права застацца крыху загадкавым, каб было цікава паразважаць: "А што адказаў бы аўтар на гэта?". Калі разглядаемы тэкст быў бы літаратуразнаўчым артыкулам, то шматаспектнасць была б неабходнай. У тым выпадку, калі гутарка ідзе пра эсэ, гэта пазбаўляе тэкст мастацкай лёгкасці і далікатнасці.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Маслаков, А. Жанрово-структурные особенности эссеистики русских поэтов XX века (на материале произведений А. А. Блока, О. Э. Мандельштама, М. И. Цветаевой, И. А. Бродского) / А. А. Маслаков. – Диссертация на соискание учёной степени кандидата филологических наук : 10.01.01. – Ростов-на-Дону, 2016. – 239 с.

2. Эпштейн, М. На перекрёстке образа и понятий (эссеизм в культуре Нового времени) / М. Эпштейн // Парадоксы новизны. – М., 1987. – С. 374.
3. Монтень, М. Опыты. В 2 т. Т. 1. Кн. 1, 2 / М. Монтень. – М. : ТЕРРА, 1996. – 720 с.
4. Соломеин, А. Французская национальная гуманитарная традиция: специфика и генезис / А. Ю. Соломеин // Credo new. Теоретический журнал. – 2003. – № 3. – Режим доступа : /culture/credo/03_2003/14.html. – Дата доступа : 21.04.2017.
5. Андреев, А. Вы всё ещё хотите стать писателем? Эссе / Анатолий Андреев // Нёман. – № 4. – 2016. – С. 167–173.
6. Северская, О. Эссеистическая поэтика (На материале русской литературы рубежа XX–XXI веков) / О. И. Северская // Общественные науки и современность. – Москва : РАН, 2006. – № 3. – С. 162–168.
7. Жолковский, А. Эссе / А. Жолковский // Иностранная литература. – 2008. – № 12. – [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://magazines.russ.ru/inostran/2008/12/ zhzт10.html#_ftn7.

УДК [821.161.3+821.512.16]-32.09 (045)

***М. М. Воінава-Страха***

# НАВЕЛА Ў СУЧАСНАЙ ТУРКМЕНСКАЙ, ТАДЖЫКСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРАХ

Артыкул прысвечаны аналізу развіцця жанру навелы ў туркменскай, таджыкскай і беларускай літаратурах на сучаным этапе. Навела вылучаецца яскравым дынамізмам, рухомасцю формы і варыятыўнасцю тэматычнага дыяпазону дзякуючы надзвычайнай мабільнасці і здольнасці імгненна адгукацца на любыя запыты рэчаіснасці. Гэты жанр у туркменскай і таджыкскай літаратурах адрозніваецца пэўным кансерватызмам у выбары мастацкіх сродкаў выражэння, схільнасцю да класічнага стварэння сваёй формы. Спецыфічнай жа прыкметай з'яўляецца не дынамізм у адлюстраванні дзеяння, а скіраванасць да філасафізму, унутранага сузірання, аналізу кірункаў рэалізацыі маральна-этычнага кодэксу. Айчыннае ж прыгожае пісьменства, захоўваючы класічную навелістычную форму ў якасці асновы, схільна да эксперыментаў, што выражаецца ў разнастайнасці мадыфікаваных форм.

Згодна з класічным правілам, сярод асноўных прынцыпаў арганізацыі навелістычнага тэксту вылучаюцца лаканізм, дынамізм, кантраснасць, парадаксальнасць, "пуэнтычнасць" (востры, рэзкі, нечаканы паварот), прасторава-часавая лакалізацыя, сфакусаванасць на адзінай незвычайнай падзеі. Прааснова навелы мае сінкрэтычны характар, што і абумовіла спецыфіку дадзенага жанру. Прайшоўшы доўгі шлях развіцця, навелістычныя традыцыі ўкараніліся ў многіх нацыянальных літаратурах, у тым ліку туркменскай, таджыкскай і беларускай.

Сярод навукоўцаў назіраюцца пэўныя разыходжанні ў меркаваннях адносна аб'екта скіраванасці навелы. В. Рагойша [1] адзначае такую вызначальную рысу навелы, як сканцэнтраванасць на перажываннях і настроях персанажаў. У даследчыка паэтыкі класічнай навелы М. Эпштэйна чытаем: "Яна [навела] звернута, перш за ўсё, да дзейнага, а не сузіральнага боку чалавечага быцця..." [2, с. 248].

Мы прытрымліваемся пункту погляду аб тым, што схільнасць да сузіральнасці з'яўляецца ўсё ж адзнакай навелістычнай мадыфікаванасці, бо такая жанрававызначальная якасць, як дынамізм дзеяння, выступае ў якасці супрацьлеглай прыкметы да ўнутранага аналізу і сузіральнасці. Менавіта гэту адметнасць можна вызначыць як адну з цэнтральных у навелістычнай палітры туркменскай і таджыкскай літаратурах.

Пісьменнікі абодвух краін праз малую форму імкнуцца прааналізаваць няпростыя маральна-этычныя пытанні, разнастайныя выклікі паўсядзённага жыцця,

з якімі сутыкаецца іх сучаснік. У якасці асновы ідэйна-тэматычнага дыяпазону мастакі слова выбіраюць такія анталагічныя паняцці, як сям'я, род, справядлівасць, каханне, вернасць, дабрыня, здрада, хцівасць, падман і інш.

Так, менавіта сям'я становіцца адным з пунктаў адліку ў анталагічнай сістэме У. Сцяпана. Напрыклад, у навеле "Ключ" [3] у якасці цэнтру выступае дом, бацькоўская хата як сакральны пачатак і адначасова сімвал прадаўжэння, трываласці роду. Сямейная трывалая аснова, памяць продкаў, сканцэнтраваная ў родным доме, надзяляе сілай яе стваральніка. Парадаксальным і адначасова заканамерным выступае ўспрыняцце героем навелы "Ключ" бацькоўскай хаты не толькі як пачатку, але і фінальнага пункту адліку жыцця. Аналагічны матыў прасочваецца і ў навеле "На вуліцы школьнай": галоўны герой Віцька Кныш напярэдадні ўласнага скону вяртаецца менавіта на малую радзіму, дзе хутка, пасля другога інсульту, і знаходзіць свой апошні прытулак.

Сям'я як аснова жыццесцвярджэння чалавека, становіцца галоўным аб'ектам для аналізу ў мастацкай сістэме таджыкскага пісьменніка Ато Хамдама. Напрыклад, для героя навелы "Чужы чалавек" [4] сэнс уласнага існавання неаддзялімы ад ідэі яднання сям'і і цесна суадноснай з ёй думкай аб важнасці прадаўжэння роду. Памяць аб продках сінанімічная, у нейкай ступені, бяссмерцю. Прычым, бяссмерце ў дадзеным выпадку ўспрымаецца як станоўчае прызнанне нашчадкамі здзейсненага ў жыцці, што для самога героя аналагічна ўсведамленню напоўненасці сэнсам уласнага існавання. Менавіта па гэтай прычыне безапеляцыйнае далучэнне Маўлона-амака да катэгорыі "чужых" з боку маці нявесткі падчас няўдалага наведвання ўнука нечакана пахіснула аснову, якая, фарміруючыся дзесяцігоддзямі, напаўняла сэнсам жыццё і здавалася цалкам непарушнай.

Моцная далучанасць да сямейнага кола занатавана ў навелах туркменскага пісьменніка Агагельды Аланазарава "Брат", "Маці" [5]. Заслугоўвае ўвагі адлюстраванае ў гэтых творах імкненне прадстаўніка туркменскага народа да захавання звыклага сямейнага, суседскага, чалавечага адзінства ў надзвычайна цяжкіх умовах. Асаблівасцю аналізу сямейнай тэматыкі ў туркменскага мастака слова з'яўляецца ўвасабленне сям'і адначасова на мікра- і макра-ўзроўнях: сям'я як кола блізкіх па крыві людзей і як нацыя ў цэлым.

Ідэя сям'і, як моцнай асновы ўласнага светаўспрымання, тым не менш, падвяргаецца выпрабаванню ў тэкстах аўтараў. Так, герой твора "Кандуіт" У. Сцяпана ўсё ж заканчвае жыццё самагубствам. Стары Маўлон-амак з навелістычнага апавядання А. Хамдама "Чужы чалавек" застаецца пазбаўленым магчымасці наведваць і браць актыўны ўдзел у выхаванні ўнука Бацька Мехры, гераіні навелы "Прадавец шчасця", нягледзячы на намаганні ўбачыцца з дачкой, перавагу аддае матэрыяльным, а не сямейным каштоўнасцям.

Думка аб прадаўжэнні роду таксама з'яўляецца важным аспектам творчага аналізу ў навелістынай сістэме акрэсленых літаратур. Для У. Сцяпана і А. Хамдама гэта трывалы фундамент светабачання.

Так, ідэя родавага гнязда як аб'екта навелістычнага сузірання, відавочна пераважае ў рэчышчы нават самых моцных людскіх заганаў. Пра гэта сведчыць і матыў даравання з боку Мехры ("Прадавец шчасця" А. Хамдама), і Сяргея Валянцінавіча ("Штурман" У. Сцяпана) у адносінах да сваіх бацькоў. Менавіта па дадзенай прычыне герою твора "Ключ" У. Сцяпана невыносная сама думка аб магчымым разбурэнні бацькоўскай хаты: "Калі ён уяўляў сабе дом разрабаваным, з выбітымі вокнамі, з разламанай падлогай, загаджаны, закіданы смеццем – яму рабілася млосна" [3, с. 27]. Родны дом надзяляе героя пачуццём абароненасці, упэўненасці, спакою, адчувальна ўраўнаважвае яго душэўны стан.

У туркменскага мастака слова Касыма Нурбадава [6] знакавай прыкметай родавага гнязда выступае не сама хата, як цэнтр роду, але і неад'емныя яе атрыбуты,

у дадзеным выпадку хатняя жывёла – конь Мелякуш. Спецыфічнай прыкметай гэтага аднайменнага твора з'яўляецца тое, што ў цэнтры ўвагі чытача аказваецца не столькі сам аб'ект – Мелякуш, а яго значэнне і роля ў фармаванні і станаўленні апавядальніка як асобы. Гісторыя продажу і далейшая смерць Мелякуша відавочна вылучаецца над паўсядзённасцю з мінулага жыцця аднаго з галоўных персанажаў, але не столькі самім фактам страты любімай істоты, а моцнай повяззю з тым дарагім і блізкім, што напаўняла дзяцінства глыбокім сэнсам, як асновай духоўна-маральнага аблічча будучай асобы.

Пісьменнікі разглядаемых літаратур скіроўваюць увагу на аналіз маральна-этычнай праблематыкі. Аўтары робяць акцэнт на ідэі аб непазбежнай расплаце за ўчынкі, якія былі здзейснены насуперак біблейскім запаветам. За сістэматычнае парушэнне маральных норм наканаванае не абмінае герояў навелістычнага апавядання У. Сцяпана "Па той бок ночы". Жыццё Віктара скончылася заўчасна пры незразумелых абставінах, а Кастуся напаткала невылечная хвароба. Дамінуючым у дадзеным выпадку з'яўляецца матыў расплаты. Здзяйсненне "страшнага суда" за грахі падкрэслівае ідэю аб неабходнасці прытрымліваецца пастулатаў універсальнай аксіялагічнай сістэмы, як іманентнага складніка карціны свету.

Маральны аспект парушэння ўніверсальнага этычнага кодэксу і сямейных каштоўнасцей адлюстроўваецца і ў творах Ю. Станкевіча "Стрыечніца" [7], Я. Сіпакова "Вяселле" [8]. Аўтары акцэнтуюць увагу на лагічнай узаемасувязі паміж непрымальнымі паводзінамі асобы і неабходнасцю здзяйснення расплаты за ўчынкі, што супярэчаць законам чалавечнасці.

Аднак, калі ў беларускіх аўтараў пытанне захавання маральна-этычнага кодэксу акрэсліваецца ў большай ступені ў рэчышчы ўніверсальнай аксіялагічнай сістэмы, то ў прадстаўнікоў туркменскай літаратуры гэта праблема набывае нацыянальнае адценне.

Так, туркменскі пісьменнік Агагельды Аланазараў аналізуе наступствы складанейшай сітуацыі ў навеле "Маці". Адзіная нечаканая куля афганскага салдата, пазбавіўшы жыцця юнака, не толькі спарадзіла глыбокі, несціхаючы боль у сэрцы маці, але і ўзмацніла і без таго варожыя адносіны з суседнімі афганскімі сёламі [5, с. 29]. Аўтар стварае складаную псіхалагічную карціну міжасобасных узаемадносін праз прызму захавання маральна-этычнага кодэксу, закранаючы пры гэтым пытанні нацыянальнага характару.

Тэмы і праблемы, якія разглядаюць пісьменнікі ў сваіх тэкстах, вымагаюць выкарыстання адпаведных мастацкіх сродкаў. Псіхалагізм, філасафізм, аналітычнасць складана ўкласці ў рамкі лаканізму і перадаць праз дынамізм дзеяння. Менавіта па гэтай прычыне вышэйадзначаныя тэксты вылучаюцца пэўнай мадыфікаванасцю жанравай формы.

У творах А. Хамдама адбываюцца відавочныя мадыфікацыйныя працэсы, якія праяўляюцца ў міжжанравым ўзаемадзеянні навелы і апавядання. Сфакусаванасць на выпадку, які рухае асноўную сюжэтную лінію, яскравая антынамічнасць і парадаксальнасць, прадстаўленыя на некалькіх узроўнях (назвы, характару персанажа, тэкстава і кантэкстуальна) дазваляе вылучыць навелістычную дамінанту ў творах аўтараў. Пашырэнне ж наратыўнай прасторы адбываецца дзякуючы наяўнасці адступленняў рэтраспектыўнага характару, што выконваюць прычынна-матывацыйную функцыю цэнтральнага аповеду, псіхалагічных замалёвак, філасофскіх разважанняў, аўтарскіх каментарыяў, структурны падзел тканкі твора на некалькі сэнсавых сегментаў, кожны з якіх з'яўляецца неад'емным звяном агульнай апавядальнай карціны. Дадзеныя адметнасці сведчаць аб наяўнасці элементаў жанру апавядання, што ў комплексе з вышэйакрэсленымі навелістычнымі складнікамі дазваляе вылучыць такую мадыфікаваную форму, як навелістычнае апавяданне.

Развіццё навелы ў туркменскай літаратуры таксама характарызуецца цесным узаемадзеяннем з роднасным жанрам апавядання, што праяўляецца ў адначасовым суіснаванні ў тэкстах пісьменнікаў прыкмет дадзеных жанраў: пашырэнне наратыўнай

прасторы шляхам увядзення рэтраспекцыйных блокаў, дэталізацыі, апісальнасці, разгорнутай дыялагічнасці (у залежнасці ад аўтарскага рашэння) пры захаванні асноўных навелістычных прынцыпаў (А. Аланазараў, К. Нурбадаў).

Аналагічныя працэсы адбываюцца і ў беларускіх аўтараў: на ўзроўні мастацкага выражэння навелістычнай дамінанты (ужыванне прыёму асацыятыўнасці ў працэсе дасягнення "pointe"), беглы зварот да дэталей, якія пры разгортванні кульмінацыі набываюць акцэнтную афарбоўку, кантраснасць і нечаканае сутыкненне дзвюх сюжэтна-падзейных ліній, раскрыццё поліфункцыянальнасці адзінай ключавой лексемы ці словазлучэння, заяўленага ў загалоўку і скразнога для агульнай тэкставай, стварэнне сітуацыі чакання на апераджэнне (У. Сцяпан, Ю. Станкевіч, Я. Сіпакоў).

Такім чынам, навела ў сучаснай туркменскай, таджыкскай і беларускай літаратурах вылучаецца шэрагам агульных прыкмет. У творах аўтараў відавочнай з'яўляецца тэндэнцыя да змяшчэння сваёй дынамікі са знешняга ва ўнутраны падзейны план. Антытэтычнасць і парадаксальнасць, уласцівыя жанру, набываюць выразнасць дзякуючы праяўленню духоўна-маральнай супярэчнасці героя, яго рознабаковай рэфлексійнай рэакцыі на акаляючы свет, аўтарскай скіраванасці да філасафізму, адлюстравання ўнутранага сузірання, аналізу кірункаў рэалізацыі маральна-этычнага кодэксу. Спалучэнне гэтых прыкмет з класічным навелістычным ядром прыводзіць да ўтварэння мадыфікаванай формы – навелістычнага апавядання. Пэўны кансерватызм у выбары мастацкіх сродкаў пры стварэнні навелістычнага тэксту ў таджыкскіх і туркменскіх аўтараў, арыгінальныя эксперыменты ў айчынных пісьменнікаў, актыўныя мадыфікацыйныя працэсы сведчаць пра жывое дынамічнае развіццё навелы ў прасторы сучаснага мастацтва слова і заканамерна сведчыць пра яскравы патэнцыял гэтага жанру ў розных нацыянальных літаратурах.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**


1. Рагойша, В. П. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах: дапаможнік / В. П. Рагойша. – Мінск : Бел. энцыклапедыя, 2001. – 384 с.
2. Эпштейн, М. Н. Новелла // Литературный энциклопедический словарь / Под общ. ред. В. М. Кожевникова, П. А. Николаева.; редкол. Л. Г. Андреев, Н. И. Балашов, А. Г. Бочаров [и др.]. – М. : Сов. энциклопедия, 1987. – С. 248.
3. Сцяпан, У. А. Адна капейка : кніга прозы / Уладзімір Сцяпан. – Мінск : Літаратура і мастацтва, 2012. – 224 с.
4. Хамдам, А. Жыццё не спыняецца : апавяданні / Ато Хамдам. – Мінск : Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2013. – 176 с.
5. Алланазаров, А. Мать / А. Алланазаров // Святая любовь : сб. произв-й писателей Беларуси и Туркменистана / сост. Алесь Бадак. – Минск : Изд. Дом «Звязда», 2013. – С. 131–134.
6. Нурбадов, К. Мелекуш / К. Нурбадов // Святая любовь : сб. произв-й писателей Беларуси и Туркменистана / сост. Алесь Бадак. – Минск : Изд. Дом «Звязда», 2013. – С. 27–31.
7. Станкевіч, Ю. Стрыечніца / Ю. Станкевіч // Полымя. – 2007. – № 12. – С. 32–41.
8. Сіпакоў, Я. Вяселле / Я. Сіпакоў // Полымя. – 2003. – № 6. – С. 78–97.


УДК 821.161.1-32*Д.Гранин:821.161.1.091-311.6

***В. В. Гончаров***

# РАССКАЗ Д. ГРАНИНА "ВОЗВРАЩЕНИЕ" В КОНТЕКСТЕ ЭВОЛЮЦИИ ВОЕННОЙ ПРОЗЫ

В статье на примере рассказа Д. Гранина «Возвращение» выявляются характерные черты нового, но закономерного в творчестве писателей-фронтовиков эволюционного этапа, который является

Варта адзначыць, што дзіцячая літаратура пачала развівацца ў час прыняцця хрысціянства. Пісьменнасць на нашых землях з’явілася ў першай палове X ст. Першымі творамі, з якімі знаёміліся дзеці, былі перакладныя – Евангелле, Псалтыр і Апостал.

У выхаваўчых мэтах для дзіцячага чытання выкарыстоўваліся творы арыгінальнага зместу: жыціі Феадосія Пячэрскага, Барыса і Глеба, Еўфрасінні Полацкай, Аўрамія Смаленскага. Выхаваўчае значэнне для дзіцячага ўспрымання мела “Хаджэнне ў Царград і Іерусалім” Ігната Смаляніна. У творы пададзены звесткі пра жыццё і быт іншых народаў.

Сімяон Полацкі – той, хто адкрыў першыя старонкі дзіцячай паэзіі. І гэтаму паспрыяла яго актыўная педагагічная дзейнасць.

Як адзначае Т. Пятроўская, “дзіцячая літаратура сілкуе розум і ўяўленне дзіцяці, адчыняючы яму новыя сусветы, выявы і мадэлі паводзін, з’яўляючыся магутным сродкам духоўнага развіцця асобы” [9, с. 96].

У беларускай літаратуры XIX ст. наступае новы этап яе развіцця, які вылучае сабой два перыяды: дарэформенны (да рэформ 1861 г.) і паслярэформенны.

З’яўленне кожнага твора беларускай літаратуры ў пачатку XIX ст. – сапраўдная з’ява. Каб пазбегнуць праследаванняў, беларускія паэты пісалі па-польску. Адным з такіх актыўных дзеячаў быў Уладзіслаў Сыракомля, які змагаўся супраць прыгонніцтва, абараняў мову беларускага народа, пісаў творы ў тым ліку для дзяцей. Таксама для дзяцей пісалі Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч, Ядвігін Ш, Карусь Каганец. Яны закладалі асновы беларускай дзіцячай літаратуры – гуманістычнай, дэмакратычнай, цесна паяднанай з традыцыямі фальклору.

У жанры “фэнтэзі” напісаны “Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях” Яна Баршчэўскага, што прываблівае беларускамоўных юнакоў і дзяўчат не менш, чым замежныя аўтары.

На пачатку XX ст. беларуская дзіцячая літаратура развіваецца ў рэчышчы адраджэнскага руху: была знята забарона з друкаванага беларускамоўнага слова, у літаратуру прыйшла плеяда новых пісьменнікаў са сваімі поглядамі і ідэямі. У гэты час узнікаюць розныя таварыствы, гурткі, калектывы і школы.

Важную ролю ў развіцці беларускай дзіцячай літаратуры адыграў перыядычны друк, з’яўленне беларускамоўных перыядычных выданняў (газеты “Наша доля”, “Наша ніва”, месячнік “Саха”). Нягледзячы на гэта, усё роўна на пачатку XX стагоддзя адчуваўся недахоп літаратуры на роднай мове. Па гэтай прычыне з цягам часу было дазволена выданне беларускамоўнага месячніка для дзяцей “Лучынка”, актыўным удзельнікам якога была Цётка. Сваімі творамі Цётка заклікала моладзь любіць і шанаваць мову, сваю Радзіму, адносіцца з павагай да ўсяго жывога. Але, на жаль, “Лучынка” праіснавала нядоўга: выйшла толькі шэсць нумароў.

У 1906 годзе суполка “Загляне сонца  і ў наша аконца” выпусціла ў свет “Беларускі лемантар, або Першую навуку чытання”, у якім даюцца парады, як трэба вучыць дзяцей, звяртаючы ўвагу на правілы арфаграфіі, фанетыкі і сінтаксісу. У зборніку змешчаны таксама народныя апавяданні, казкі, прымаўкі, песні, якія былі апрацаваны Цёткай для больш паўнавартаснага ўспрымання дзецьмі.

У 1921–1922 выходзіў беларускамоўны часопіс “Зоркі”. У гэтым выданні перавага аддавалася фальклорным жанрам: казкам, дзіцячым песням, загадкам, замалёўкам.

Свой унёсак у развіццё літаратуры для дзяцей зрабілі такія аўтары, як Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, В. Ластоўскі і інш. У спадчыне пісьменнікаў сустракаюцца творы, якія на пачатку ўзніклі як творы для дарослых, а цяпер могуць выкарыстоўвацца ў працы з малодшымі школьнікамі. Да ліку такіх пісьменнікаў можна, несумненна, аднесці М. Багдановіча. Выключнае месца ў творчасці М. Багдановіча адыгрывае пейзажная лірыка, якая, у сваю чаргу, эфектыўна

фарміруе эстэтычна-мастацкі густ дзяцей. Развіццю дакладнага мыслення садзейнічаюць белетрызаваныя задачкі Я. Купалы.

Адметнае месца ў беларускай дзіцячай літаратуры адыграла творчасць Я. Коласа, які свой настаўніцкі шлях пачаў выданнем кнігі “Другое чытанне для дзяцей беларусаў”. Гэты твор з’яўляецца вельмі каштоўным укладам у беларускую дзіцячую літаратуру, значным этапам у яе развіцці. Кніга адпавядае патрабаванням дзіцячага ўзросту, вылучаецца багаццем мовы, паслядоўнасцю і лагічнасцю пабудовы. Асноўная педагагічная задача пісьменніка – пашырыць кругагляд дзяцей, выхаваць эстэтычны ідэал, навучыць любіць родную мову.

У другой палове XX ст. у беларускую літаратуру прыйшла цэлая плеяда таленавітых пісьменнікаў. Шмат твораў для дзяцей было надрукавана пра герoіку вайны. Значнае месца ў дзіцячай літаратуры было адведзена асэнсаванню праблемы ўзаемаадносін “чалавек і прырода” (творы Ул. Ляўданскага). Сваімі творамі аўтар вучыць дзяцей бачыць прыгажосць прыроды, клапаціцца пра яе. Ул. Ляўданскі падкрэслівае, што ўрокі засвойваюцца лепей тады, калі яны прапануюцца ненавязліва.

Літаратура ў другой палове XX ст. характарызуецца паглыбленнем у псіхалогію чалавека, увагай да праблем сучаснага соцыуму. Нацыянальная літаратура авалодала новымі жанрамі, тэматычна ўзбагацілася, узнялася на новую мастацкую ступень.

Канец XX – пачатак XXI ст. – час карэнных зрухаў у Беларусі, што адбівалася не толькі на сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці грамадства, але і літаратурным працэсе. Беларуская дзіцячая літаратура яскрава адлюстравала жыццё падлеткаў, іх праблемы ў паўсядзённым жыцці.

Ужо з канца 1980-х гг. у друк стала больш трапляць твораў на адраджэнскую тэматыку, пра даўнюю гісторыю, пра знакамітыя постаці мінулага часу. Адбываюцца змены і ў жанравым аспекце: з’яўляюцца творы з выкарыстаннем элементаў містыкі, фантастыкі і міфалагічна-вобразнай сістэмы.

Жанравую і тэматычную разнастайнасць дзіцячая літаратура набыла на пачатку 1990-х гг. У перыядычным друку з’яўляюцца навуковыя нарысы пра гісторыю С. Тарасава, В. Чаропкі, Ул. Арлова. Пісьменнікі шмат увагі надаюць выхаванню павагі да роднага краю, радзімы. Маральна-этычная тэматыка застаецца вядучай у творах канца XX – пачатку XXI ст.

Дзіцячая літаратура пазбавілася ідэалагічнай зададзенасці, пэўнага схематызму, пашырыліся яе жанрава-тэматычныя межы, памножыліся выяўленчыя сродкі.

Аднымі з самых знакамітых пісьменнікаў дзіцячага свету з’яўляюцца Ніл Гілевіч і Васіль Вітка.

Дзіцячая паэзія В. Віткі заснавана на гульні. Уменне захапіць дзяцей гульнёй, выразным словам В. Вітка засведчыў ужо ў сваіх першых творах для дзяцей. Пісьменнік прадоўжыў, значна ўзбагаціў традыцыі антрапамарфізму, якімі багатая вусная народная творчасць. Вельмі натуральна паэт пераносіць казачнае дзеянне ў наш час і, актывізуючы фантазію дзяцей, дае ім магчымасць стаць нібы ўдзельнікамі ці сведкамі падзей, пра якія распавядаюцца ў творы. Адна з самых галоўных рыс у творчасці В. Віткі – дыдактызм, якім прасякнуты ўсе яго творы. В. Вітка “ўвогуле ніколі не забываецца, што звяртаецца да дзяцей, а з імі гаварыць належыць без трыбуны і шпаргалкі” [10, с. 68]. Пісьменнік застаецца пісьменнікам-педагогам, выхавацелем, які сур’ёзна задумваецца над складанымі педагагічнымі праблемамі, што ставіць само жыццё.

Паэзія Ніла Гілевіча для дзяцей адпавядае тым патрабаванням, якія ён прад’яўляе да дзіцячай літаратуры: шырокатэматычнасць, мнагастайнасць у жанрава-стылёвых адносінах, у ёй адлюстроўваюцца інтарэсы малодшага, сярэдняга і старэйшага дзіцячых узростаў, галоўнае ж – яна высокамастацкая, сапраўды паэтычная.

Сучасная беларуская літаратура для дзяцей далучае малодшае пакаленне да агульначалавечых каштоўнасцей, да духоўных скарбаў, абуджае патрыятычныя

пачуцці, заклікае любіць свой край, сваю Бацькаўшчыну, берагчы непаўторную прыроду – выхоўвае ў дзіцяці лепшыя маральна-этычныя якасці.

Сучасная беларуская дзіцячая літаратура адкрыла шырокія тэматычныя прасторы, узбагацілася яе жанравая сістэма: вершы, вершаваныя казкі, калыханкі, паэмы, жарты, лічылкі.

Такім чынам, эвалюцыя сучаснай дзіцячай літаратуры мае наступныя адметнасці: пазбаўленне ад схематызму, тэматычнае абнаўленне, выкарыстанне фальклорных набыткаў, скіраванасць на навучальна-выхаваўчы працэс.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**


1. Макарэвіч, А. М. Беларуская дзіцячая літаратура: вучэб. дапам. / А. М. Макарэвіч, М. Б. Яфімава. – Мінск: Вышэйшая школа, 2008. – 688 с.
2. Алейнік, Л. Сучасная беларуская літаратура для маленькіх чытачоў / Л. Алейнік // Полымя. – 2002. – № 3. – С. 128–139.
3. Трафімчык, А. Патрабаванні да дзіцячай літаратуры / А. Трафімчык // Літаратура і мастацтва. – 2009. – № 23. – С. 6.
4. Сетин, Ф. И. История русской детской литературы, конец X – первая половина XIX в. / Ф. И. Сетин. – М.: Прогресс, 1990. – 303 с.
5. Яфімава, М. Б. Беларуская дзіцячая літаратура / М. Б. Яфімава, М. М. Барсток, Э. С. Гурэвіч. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Вышэйшая школа, 1979. – 352 с.
6. Мухина, В. С. Возрастная психология: феноменология развития, детство, отрочество / В. С. Мухина. – Москва: Прогресс, 1998. – 318 с.
7. Васілевіч, А. Інтэрв'ю / А. Васілевіч // Літаратура і мастацтва. – 1973. – 23 мая. – С. 5–10.
8. Васілевіч, А. Люблю і хвалююся – жыву: нататкі, эсэ, роздум / А. Васілевіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1986. – 225 с.
9. Пятроўская, Т. М. Гуманістычная накіраванасць сучаснай беларускай дзіцячай паэзіі / Т. Пятроўская // Спадчына І. Я. Навуменкі і актуальныя праблемы літаратуразнаўства: зборнік навуковых артыкулаў / М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны ўн-т імя Ф. Скарыны; рэдкал.: І. Ф. Штэйнер (гал. рэд.), А. М. Мельнікава, Н. В. Пазняк. – Гомель: ГДУ ім. Ф. Скарыны, 2012. – С. 95–100.
10. Вітка, В. Дзеці і мы / В. Вітка. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1977. – 272 с.


УДК 821.161.2

***А. В. Землянська, А. А. Мамєдова***

# “ТИХІША ЗА ТИХУ ТРАВУ ЛЮБОВ, КОТРІЙ ТІСНО У ЛІЖКУ…”: МОТИВ ТИШІ В ІНТИМНІЙ ЛІРИЦІ Б. ТОМЕНЧУКА

Артыкул прысвечаны раскрыццю асаблівасцяў функцыянавання матыву цішыні ў інтымнай лірыцы Багдана Тамянчука на прыкладзе зборніка «Сезон ненапісаных вершаў». Адзначаецца, што гэты матыў набывае ў паэтычных тэкстах мастака некалькіх значэнняў: адзіноты, уцёкаў са штодзённасці, імгненняў яднання двух закаханых, гармоніі з Сусветам і таму падобнае. Адзначаецца, што матыў цішыні аўтар выкарыстоўвае для выражэння ўласнага разумення катэгорыі Любові.

Богдан Томенчук – сучасний український поет і громадський діяч. І хоча за фахом він математик, одна з провідних сфер його зацікавлень – література. Поет став відомий загалові своєю збіркою «Сезон ненаписаних віршів» (2015), що є четвертою у його творчому доробку. І хоча книги митця отримували схвальні рецензії читачів і літературних критиків (Є. Барана, С. Пушика, Н. Стефурак, Д. Чередниченка), однак це

були лише поодинокі відгуки на поезію майстра слова. Уперше в науковий обіг як об'єкт дослідження вірші Б. Томенчука ввела літературознавиця О. Деркачова [1; 2]. І досі залишаються багато аспектів лірики митця, що вимагають ретельного студіювання: часопросторові особливості, проблематика, інтертекстуальний характер, мотиви гріха, творення, самотності та ін.

Зокрема, у книзі «Сезон ненаписаних віршів» Б. Томенчук намагається розкрити різні грані Любові – романтичної та пристрасної, одухотвореної і гріховної, любові до рідної країни, яка вбиває, і такої, що надихає. Інтимну лірику збірки доповнює влучна громадянська поезія про сьогодення, війну, смерть та життя.

Лейтмотивом звучить у збірці думка, що в найінтимніші миті, у справжніх почуттях панує тиша – про них не говорять вголос, не повідомляють відверто. Любов у поезіях Б. Томенчука виражається в поглядах, музиці тіла, чутній лише двом закоханим, барвах, у яких сприймається навколишній світ, молитві до Бога тощо. Відтак, мотив тиші розкривається шляхом утворення досить розлогої семантичної парадигми.

По-перше, в ліриці митця тиша супроводжує інтимні стосунки двох закоханих, коли вони у пристрасті переступають межі правил і норм, людських забобонів і пересудів, вибиваються з повсякдення, закриваючись від усіх. Відтак, навколишній світ здається їм галасливим маревом, тоді як мить тут-і-тепер – справжнім життям. При цьому будь-які слова, окрім трьох (найімовірніше, мається на увазі заповітне «Я тебе кохаю»), втрачають сенс:

Світ мільйонами слів
Нас усіх переповнює.
Вони сірі й ніякі
Якісь, як мишва… [3, с. 50],

або:

А навколо людей, наче літер, –
Банкет на сто сот персон.
Я нас із реальності витер…
<…>
Хоч теж там була повсюдність,
Словес нечіткий кортеж… [3, с. 61].

У витвореному автором світі високої духовності й еросу всі слова стають безсилими, коли двоє закоханих поринають у вічність, долаючи часові й просторові обмеження. Тоді їх «спілкування» стає «тихим», «незримим», що передається в текстах новими акустичними образами: слів, що «тануть на вустах», опадають, «сягаючи стель», ковтань їх «поцілунками неголосними», шурхоту одягу, шелесту сіна, скрипу «стодоли небес», «трикрапок мовчань», «подихів жадань», шепоту «солодкого / В прамузиці нот» й т. п.

Таким чином, аналізований мотив розширює своє семантичне наповнення до розуміння тиші як стану, викликаного усамітненням ліричних героїв:

Побудьмо серед слів невідано простих
Самісінько одні в чужих покоях казки [3, с. 21].

Вихід за межі повсякдення є для закоханих чарівною миттю, що переходить у вічність, моментом, коли вони поринають у вимір сакрального, торкаються небес, спілкуються з Богом, творячи молитву Любові. Тоді кохана уявляється Мадонною, якій Майстер присвячує свої кращі шедеври, зібрані з розкиданих літер, нот, фарб, а сама тиша є мовчанням янголів, які «склали крила» і спостерігають за двома людьми, плотський, «грішний» зв'язок яких видається священним дійством народження нового світу («Нам здається – будуєм ковчег, / А насправді виходить «Титанік» [3, с.15]).

Не випадково О. Деркачова зауважує, що в поезії Б. Томенчука замість «грішити» використовується лексема «любити» або тотожні їй [2, с. 290]. При цьому те,

що в стосунках закоханих вважається, за Біблією, гріховним, насправді постає таким, у розумінні автора, лише в людському вимірі. «Ліричний герой, – підтверджує цю думку О. Деркачова, – називає свої почуття і стосунки «гріхом» не з позиції власних маркерів, а з точки зору суспільних стереотипів. Саме тому поряд із тим, що назване гріхом, завжди у творах виступають чистота, музика небес, хорали, що протиставлені світу» [2, с. 292].

Причому йдеться, радше, не стільки про власне християнську, скільки про первісну сакральність, закладену в ідеї поєднання чоловічого й жіночого начал, у тому числі й тілесного, як основи світотворення:

Десь на околицях невіросповідань
Лиш ти і я у нашім Храмі Тиші… [3, с. 71].

Таким чином, ліричні герої збірки «Сезон ненаписаних віршів» з галасу повсякдення поринають у «німу гармонію» Всесвіту, дослухаючись до симфонії сфер і створюючи власну:

На руках тебе винесу з буднів,
Як скрипкові ключі від небес,
Під високу прозорість ноктюрнів,
У твій шепіт, немов полонез… [3, с. 53].

Отже, Б. Томенчук досить оригінально підійшов до розкриття категорії Любові у своїй поезії. Значною мірою сутність кохання, духовного й тілесного, що зливаються воєдино, виражена автором через співвіднесення з мотивом тиші, семантична парадигма якого варіюється від топосу самотності (усамітнення), що рятує від галасу навколишнього світу, де будь-які слова втрачають сенс, до мотиву єднання із Всесвітом, коли стають чутними звуки іншого порядку, сповнені сакрального змісту. При цьому на окрему увагу заслуговує інтертекстуальний характер лірики митця, що залишає перспективу для подальших літературознавчих досліджень.

**Список використаних джерел**


1. Деркачова, О. Топос міста в поезії Богдана Томенчука (на матеріалі збірки «Сезон ненаписаних віршів») / О. Деркачова // Художні модуси хронотопу в культурно-мистецькому дискурсі. – Мелітополь : Вид-во МДПУ ім. Богдана Хмельницького, 2016. – С. 57–59.
2. Деркачова, О. Художній концепт «гріх» в поезії Богдана Томенчука (на матеріалі збірки «Сезон ненаписаних віршів») / О. Деркачова // Прикарпатський вісник НТШ. Слово. – 2015. – № 2(30). – С. 287–295.
3. Томенчук, Б. Сезон ненаписаних віршів / Б. Томенчук. – Брустури : Дискурсус, 2015. – 142 с.


УДК 821.161.2

***В. Г. Зотова***

# МЕЖІ ЗЛА І ДОБРА
# (МІФОЛОГІЗМ РОМАНУ В. ДРОЗДА “ЗЛИЙ ДУХ. ІЗ ЖИТІЄМ”)

У артыкуле гаворыцца пра міфалагізм вобразаў рамана В. Дразда «Злы Дух. З жыццём ». Аўтар раскрывае антанімічны характар пабудовы вобразнай сістэмы твора, аналізуе спосабы мастацкага ўвасаблення феноменаў дабра і зла, іх хранатапічную пераемнасць, даказвае, што міфалагізм вобразаў і наратыву даў пісьменніку магчымасць аб'ектыўна ўзнавіць яго эпоху.

В. Дрозд – один із найталановитіших українських письменників ІІ половини ХХ-й помежів'я ХХ–ХХІ ст. Різнобічному аналізу його творчості присвятили свої розвідки С. Андрусів, В. Дончик, М. Жулинський, О. Логвиненко, Л. Яшина та інші літературознавці. Метою даної статті є подальше дослідження міфологізму автора, оскільки у значній кількості творів він спирався на міфологічні джерела, через міфологічні образи акцентував проблеми своєї сучасності. Предмет нашого дослідження – роман В. Дрозда «Злий Дух. Із житієм», у якому міфологізм письменника виявився з особливою силою.

Відповідно до назви – «Злий дух…», – головним персонажем твору, антигероєм, що уособлює зло, − є Роман Гаркуша. Він – утілення Злого Духа, образ «людини-демона, сатани, який вибудовується письменником у процесі розвитку теми викриття криміналізації» [1, с. 115 ]. Його архітектоніка спирається на архетипи, закорінені у біблійні й праслов'янські міфи.

Важливим засобом характеристики «нового українця» Романа Гаркуші є його портрет, психологізований, з акцентуацією так само психологічних деталей. Художник прагне досягти в собі той ідеал, який зображує на власних полотнах. Молодий Гаркуша «малював янголів із вогняними, протестуючими очима, янголів-бунтівників супроти Бога. Малював із самого себе» [2, с. 3], хотів бути схожим на їх портрети, особливо, як він вважав, на вершину свого малярства − картину «Сатана в хмарах». Упродовж дії в романі зовнішність антигероя змінюється. Письменник показує, як його духовно-моральні втрати, незважаючи на здобуті матеріальні багатства і владу, позначаються на обличчі. (Цей мотив одразу ж нагадує роман Оноре де Бальзака «Шагренева шкіра» і разом із тим увиразнює проблематику твору українського автора). Напередодні п'ятдесятиріччя чоло Гаркуші зливається з «лисиною, утворюючи розковзану, спадисту гірку, без жодної зморшки, і тільки над скронями черепна коробка шишикувато» випинається, «ніби в молодого теляти, що ось-ось має обзавестися ріжками» [2, с. 13]. Навіть професійному художникові Данилейку не вдалось повністю приховати демонізм Гаркуші. На «парадному» портреті, написаному до ювілею, «у глибині владних, суворих очей», – як не намагався майстер їх сховати, – все одно «проступали хижість і жадання крові» [2, с. 69].

Ще одна посутня деталь, що увиразнює зле начало, – хода Романа, «хода звіра, що виходить на полювання» [2, с. 14]. Тваринність його натури виявляється й у вчинках, діях, причинно-наслідкових реакціях – у сценах жорстоких розправ з конкурентами, у ставленні до жінки тощо.

Міфологізм характеру Романа Гаркуші полягає в тому, що в цьому образі автор окреслив кривавий двобій між Людиною (Любов'ю) і Сатаною (Ненавистю). Сатанинський дух зазнає смертельного удару [3]. Для В. Дрозда важливий не так фізичний, як моральний крах антигероя, котрий все життя тішив свої амбіції, уявляючи себе надлюдиною, заперечував Бога і визнавав зверхність нечистого, усвідомлено вважав себе Злим духом, Сатаною, Змієм-спокусником. Але Сатана спопелив сам себе. Він люто ненавидів усіх і все в людському «мурашнику». Так, штрих до штриха, за О. Логвиненко, вимальовується «кентавроподібний» портрет персонажа, утверджуючи читачів у думці, що людина гірша за звіра, коли вона звір. Бо у звіра голодним є тільки шлунок, а в людини-звіра голодною, грішною є ще й душа, яка їй непідвладна [3].

Гаркуша є цілісним літературним характером. Письменник використовує прийом ретроспекції, щоб акцентувати висхідні точки його самовираження. Роман Гаркуша міг стати талановитим дипломатом і, за протекцією батька, вступити на факультет міжнародних відносин, але відмовився йти на уклін до всесильної покровительки. Вже тоді яскраво проступили бунтівний дух героя, його непокора і владолюбство. Роман намагався стати одним з «володарів» світу і джерелом своєї сили обрав зле начало людської істоти. Письменник передав маніакальну «зосередженість

молодого Гаркуші на життєписах Злого духа», внутрішню «замилуваність багатобарвними відтінками зла» [2, с. 95]. Подальшими вчинками він неодноразово доведе свої демонічні прагнення.

Найважливіший етап життя головного персонажа припадає на час карколомних змін у суспільно-політичній сфері життя українців. У період перебудови державного ладу Роман Гаркуша незаконним шляхом здобуває початковий капітал і на його основі створює власну фірму, під прикриттям якої збирає людей, що здатні на все заради грошей. Багатозначним символом самовираження натури Гаркуші виступає назва його підприємства – «САТ». У тексті знаходимо «офіційний варіант розшифрування: перші літери слова «Сатурн» [2, с. 19]. Роман пояснив, що це планета, під якою він народився, де суцільна, вічна крига. Головні ознаки цього небесного тіла суголосні холодній розсудливості, впертості і жорстокості персонажа. Як відомо, одним із змістових сенсів Сатурна в міфології є насилля, в асоціативному ряду цього слова – такі лексеми, як чорний колір, земля, гниття, згасання. Тож можна зрозуміти «закодованість нутра» Гаркуші [2, с. 89], передбачити трагічний фінал його життя. Промовистою є фраза антигероя: «Я звідти родом... Ніхто із землян, окрім мене, на Сатурні не бував» [2, с. 13].

У назві «підприємницького обличчя» персонажа прочитуємо й «неофіційне» тлумачення назви «САТ» як початкових літер слова Сатана, що однозначно вказує на сутність господаря фірми. В українських міфологічних джерелах існують різні тлумачення образу Сатани. За одним із них, він є рівним Богові, але володіє тільки матеріальним світом, а Бог – духовним [4, с. 455–457]. Схоже, Гаркуша відповідає саме такому: досягнувши необмеженої влади в бізнесі, він не може підкорити собі душу людини, що потверджується його стосунками з Євою. Ця демонічна особистість безрезультатно намагається спокусити сучасну дівчину, яка стала втіленням надії на краще майбутнє. Оптимістичний прогноз В. Дрозда стосується саме молодого покоління. У ньому письменник вбачає перемогу добра, справедливості.

Але в часи В. Дрозда (й дотепер) теж правували (правують) гаркуші. Прикладом цієї думки в романі слугує сцена спалення, за вказівкою «шефа», шести кіосків конкуруючої фірми «Легінь» – упродовж однієї ночі; вбивство кримінального авторитета Креза, інші сцени.

У боротьбі за владу й багатство Роман втрачає останні краплі духовності. У ньому народжується духовний Антихрист. Зовнішньо це проявляється у втраті цілісності, роздвоєнні, шизофренічному уявленні себе «Ликом». Якщо молодий Гаркуша лише прагне диявольської влади, то зрілий – переходить межі богоугодного, людського й назавжди опиняється на боці зла. Хронотопічно образ антигероя вийшов у В. Дрозда багатогранним. Внутрішній (психологічний) і зовнішній хронотопи взаємопов'язані, утворюють єдину буттєву тяглість людини-перевертня.

Філософські засади світогляду Гаркуші значно відмінні від традиційного уявлення про вічні категорії. Його споглядання світу «тверезими, холодними очима» провокує химерне розуміння того, що «зло − це є добро, а добро − це є зло. Лише те, що християни і комуністи називають злом, допомогло людству вижити за первісного ладу, бо зло і є первісна основа реального, а не вигаданого життя. Зло, і тільки зло сформувало людські індивідууми, здатні до виживання у жорстокому земному світі» [2, с. 21].

В. Дрозд посилює загрозу гаркуш за допомогою постійного біблійного контексту, в руслі якого виписано головного персонажа. З цього приводу звернемо увагу на один епізод другої частини твору, коли «шеф» зібрав на «тайну вечерю» своїх «найголовніших довірників» [2, с. 17]. З урочистої промови, що була мало усвідомлена присутніми, читачеві стає зрозумілим: Гаркуша вважає себе новим Месією. На відміну від Ісуса Христа, який «був великим романтиком, дитиною серед жорстокого люду» [2, с. 17], Гаркуша, як він сам себе характеризує, – «великий реаліст», «ворог міфу, що зветься Бог», Предтеча, Син Божий [2, с. 17]. Сцена зібрання, що нагадує біблійну

таємну вечерю, безсумнівно, посідає у творі одну з центральних позицій. Вона не лише увиразнює сутність антигероя, а й пророкує його майбутнє. Роман говорить про свою «паству»: «...Гниди вони усі, юди продажні! Ще півень не запіє, а вже відречуться од мене і першими вигукуватимуть, аби вчув новий господар: «На хрест його!» І ти серед них не кращий» [2, с. 22]. Звертаючись до свого найближчого охоронця Платаша, він відводить йому ту роль, яка випала на долю Юди Іскаріота.

Письменник доводить, що у світі завжди існують моральні цінності, які не замінити матеріальними. Через це не тільки студентка Єва («Євонька», як називає її Гаркуша) не приносить себе в жертву Змієві. Не пробачає свого приниження і ґвалтування дружини міліціонер Васько. Навіть звироднілий син Платаша Данило, який уже звик убивати і вважає свої злочини «добрим заробком», не може винести того, що він став убивцею власної сестри. Однак автор вважає: якими б тяжкими гріхами не обросла душа людини, все ж вона має шанс на порятунок, тому й спроваджує до пекла душу Сатани, сповнену запізнілого каяття.

Особливості характеру Романа Гаркуші розкриваються й у його стосунках з тими, хто не належить до його «пастви», такими, наприклад, як Василь Васько, Галина Платаш, Марійка Березова, Єва, Тамарка, Дозорець, Даниленко та ін. Ці образи розширюють і посилюють міфологізм твору, уособлюють ті окрайчики добра, які не може знищити антигерой, створюють альтернативу кримінальному світу, бездуховності. Відмінною є художня структура образу Платаша. У ньому найвиразніше виявляється концепція каяття. Осібне місце у романі займає образ підприємця Павла Івановича Сирітки, який не увійшов до пізніших видань твору. Але в контексті міфологізму роману «Злий Дух. Із житієм» і сторони добра в ньому цей персонаж має важливе значення, виконує важливе завдання. Він є тим мірилом, що провело остаточну межу між моральним «внутрішнім суховієм» Гаркуші і душею охоронця Платаша в момент «реквієму» по Тамарці [3], з'являється у другій частині твору як «груз», що було привезено в багажнику «Тойоти» молодого Платаша. Павло Іванович викликає повагу тим, що не піддається гнилій системі Гаркуші, не кориться бандитам перед обличчям смерті. «Гроші для мене були завжди інструментом. Аби з їхньою допомогою щось добре на цій землі робити... За мною люди, які мені повірили. Їх я ніколи не продам. Навіть якщо доведеться заплатити власним життям», – говорить герой [2 с. 89].

Коли Платаш уперше побачив Сирітку, то його здивували «живі, добрі, людяні очі» [2, с. 89]. Ця людина допомогла колись панові Спортсмену після багаторічного мешкання у маленькій готельній кімнаті вибороти в лабіринтах бюрократичного світу власне житло, за що молодого чиновника зняли з посади. Рятуючи Павла Сирітку, Платаш теж подає надію на краще, тому що, на його думку, «є межа падіння людини... Є рівень, нижче якого душа не може опуститися. Якщо вона ще жива. Якщо хоч на денці її життя тліє» [2, с. 96]. Цей спалах людяності змушує Платаша оплакати сестру, що загинула від руки єдиного улюбленого брата.

Хоч письменник неодноразово наголошував на тому, що його мало цікавить форма, вона виявилась оригінальною і в романі «Злий Дух. Із житієм», який побудовано на паралелі-протиставленні: добро – зло. Картини життя Гаркуші, Злого Духа сучасності, сповнені зловісного змісту (сам Гаркуша – втілення кримінального світу, звироднілої душі, чорний палац над озером, круті хлопці-вбивці і т. ін.), дисонують із житійними оповідями, у яких ідеться про «живих», тих, що потерпають від суспільної несправедливості, економічних негараздів, страждають і не завжди чинять правильно, але не втратили у собі людського. Такою є Марійка, бита чоловіком, бідна (ні з чого навіть вареники зварити – позичає все по сусідах, крім шовковиці, яку їй подарувала сама природа), та, що бажає любові і не має її; Васько, з яким вона живе без шлюбу, людина чесна, принципова, але безпорадна й змучена непосильною боротьбою зі злочинцями; дочка Марійки, для якої дармове морозиво, що Гаркуша

наказав роздавати на свій день народження, є манною небесною; дружина Платаша Галина, яка, він знав це напевне, не переживе смерті своїх дітей. Контрастують не лише образи-персонажі, а й образи-світи: Гаркушин світ зла (із сучасними офісами, чорним палацом над озером, несправедливістю, нелюбов'ю, насиллям) і світ природи, який Гаркуша теж хоче собі підпорядкувати. Пейзажі й окремі образи природи, олюднені, метафоризовані, подекуди просто дочасно-біблійні, вражають своєю свіжістю і підкреслюють справжні цінності життя.

Міфологізм образів поєднується з міфологізмом авторського наративу. В. Дрозд, характеризуючи своїх персонажів, і сам як оповідач вдається до міфологізму, біблійної лексики, що потверджують наведені у цій статті цитати з твору, рішуче виступає проти зла, боронить добро. Він – на боці тих, кого упосліджено і хто здатний на духовне відродження.

Отже, образність роману В. Дрозда «Злий Дух. Із житієм» витримано в міфологічній манері, що не применшує, а, навпаки, посилює історичну, соціальну, політичну достовірність зображених подій. Використавши біблійну основу, автор створив цілісну, об'єктивну картину буття людини, з її проблемами, втратами і здобутками.

**Список використаних джерел**

1. Яшина, Л. Демонічний герой в романі В. Дрозда «Злий Дух. Із житієм» / Л. Яшина // Література. Фольклор. Проблеми поетики: Зб. наук. Праць. − Вип. 8.: Матеріали Всеукраїнської наук.-теорет. конференції «Українська література в контексті світової літератури». – Одеса : Твім інтер, 2001. − С. 114−123.
2. Дрозд, В. Злий Дух. Із житієм / В. Дрозд // Вітчизна. − 1995. − № 11−12. − С. 12−113.
3. Логвиненко, О. Настала черга сатани, якого спровадив до пекла Володимир Дрозд / О. Логвиненко // Літературна Україна. – 2000. – 10 лютого.
4. Войтович, В. Українська міфологія / В. Войтович. – К. : Либідь, 2002. – 664 с.

УДК 821.161.3-31*Л.Дайнека

***А. В. Канаваленка***

## АСАБЛІВАСЦІ ПРАСТОРАВА-ЧАСАВАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РАМАНА Л. ДАЙНЕКІ "ФУТБОЛ НА ЗАМІНІРАВАНЫМ ПОЛІ"

Артыкул прысвечаны аналізу прасторава-часавай арганізацыі рамана Л. Дайнекі "Футбол на замініраванным полі", у якім сувязь сучаснага з падзеямі мінулага ажыццяўляецца найперш праз зварот да феноменаў памяці і сумлення. Локусы ў творы пераважаюць над топасамі, увага засяроджана на прасторы канцлагера, пакоя, вагона, горада. Асаблівая роля належыць у тэксце перцэптуальнаму хранатопу, які дазваляе паказаць эвалюцыю характару герояў.

У цэнтры рамана "Футбол на замініраваным полі" (1983) Л. Дайнекі знаходзіцца пасляваеннае жыццё, асэнсаванне якога немагчымае без звароту да падзей ваеннага ліхалецця і перадваеннага мірнага быту. Асноўны локус твора – горад, месца. Сярэднестатыстычны гараджанін у рамане ахоплены імклівым рытмам сучаснасці. Новыя выгоды і дасягненні НТП дазваляюць менш рухацца, менш запамінаць, менш думаць і зусім па-іншаму кантактаваць з астатнімі, і ў выніку чалавек дэградуе ўнутрана. Ён слабее не толькі фізічна, але і маральна; упускае ў сваю свядомасць ідэю спажывальніцтва, адчувае сябе "галоўнай" істотай у прыродзе.

Адмоўныя наступствы ўрбанізацыі выяўляюцца пісьменнікам паслядоўна, з першых і да апошніх старонак рамана "Футбол на замініраваным полі". Л. Дайнека

адзначае, што “Мінск усёй сваёй жалезабетоннай армадаю ўрэзваўся ў пакуль яшчэ ціхія лугі і лясы” [1, с. 3]. На беласценныя шаснаццаціпавярховыя дамы людзі глядзелі з захапленнем, нібы на цуд, а са старых елак, “як слёзы, ссыпалася, сцякала жоўтая ігліца” [1, с. 4], і “лесу не хапала дыхання, бо з усіх бакоў наступаў горад” [1, с. 3]. Гэтым эгаізм сучаснага чалавека і яго прага да атрымання звання “цара прыроды” не абмяжоўваюцца. Паўсядзённае жыццё гараджан, а ў прыватнасці сям’і Памалейкіных, таксама не пазбаўлена аўтаматызму. Абавязковым штовячэрнім рытуалам лічылася ўладкаванне ў крэсле і прагляд тэлепраграмы “Час”. Недапушчальным для рэжыму ў сям’і Памалейкіных, “ад якога не адступаліся ўжо другі дзясятак гадоў” [1, с. 12], было і парушэнне часу адыходу да сну: “а палове дзясятай вечара дзеці павінны ляжаць у сваіх ложках” [1, с. 12].

Акрамя таго, з надыходам імклівага ХХ стагоддзя ў грамадстве “традыцыйную сваццю замяніла ЭВМ, сватамі сталі часопісы і тэлевізары” [1, с. 137], а “людзі ўмудраюцца эканоміць словы” [1, с. 59]. Павялічваецца колькасць злачынстваў: забойстваў, рабаванняў, махінацый. Людзі навучыліся “браць чужое і не чырванець” [1, с. 240], хаваць прадукты ад пакупнікоў, вырашаць канфлікты з дапамогай нажа. Пісьменнік даводзіць даволі банальную думку, што дасягненні навукі і тэхнікі, з аднаго боку, значна паляпшаюць сацыяльнае жыццё, а з другога – прыпыняюць духоўнае развіццё самога чалавека і нішчаць акаляючую рэчаіснасць.

На фоне ідэй тэхнічнага прагрэсу і ўрбанізацыі асаблівае гучанне набывае хранатоп могілак. На думку П. Фёдарава, “гэта анамальны хранатоп, паколькі ў яго сэнсавых межах «фізічны» час набывае новае значэнне: ён запавольвае ход і прыпыняецца, ператвараючыся ў вечнасць” [2, с. 17]. Фармальна могілкі можна лічыць адкрытай прасторай, аднак матэрыяльна яны аддзелены агароджай па контуры, счэпленымі верхавінамі дрэў зверху і каранямі – знізу. Як асобны хранатоп, клады надзяляюцца сваёй сакральнай атрыбутыкай: “Яго сустрэлі маўклівыя крыжы, бетонныя пліты, бляшаныя паржавелыя зоркі” [1, с. 278]. На могілках свой адбітак пакідаюць розныя часы і эпохі, пакаленні і сацыяльныя пласты грамадства. Праз параўнанне “старых” і “новых” кладоў у рамане выразна прасочваецца эвалюцыя пахавальных традыцый: “Самыя старыя магілы былі ў цэнтры <…>. На гэтых помніках звычайна не пісалі ніякіх эпітафій. Прозвішча чалавека, даты яго жыцця – вось і ўсё, што павінен быў несці да нашчадкаў маўклівы камень” [1, с. 279].

У рамане “Футбол на замініраваным полі” могілкі не толькі набываюць сакральнае значэнне, але і становяцца сродкам захавання памяці, ажыццяўлення сувязі з продкамі, месцам яднання пакаленняў. Асаблівасць хранатопу могілак у Л. Дайнекі – у яго спалучэнні з фантастычнымі элементамі. Так, падчас буры са старых недагледжаных магіл усталі дзяды, занепакоеныя лёсам краіны. Аднак прызнацца ў тым, што “рэчачка Банёха, як праехалі па ёй калісьці вялікім меліяратарскім плугам, зрабілася канаўкай” [1, с. 283], у нашчадкаў не хапае духу: “Не сказаў пра гэта Моніч, ведаў: не такіх слоў чакаюць ад яго патрыярхі” [1, с. 283]. Пісьменнік чарговы раз уводзіць у канву мастацкага твора матыў адданасці і вернасці роднаму краю; заклікае будучыя пакаленні да роздуму над сваім жыццём, але, як бачым, робіць гэта даволі незвычайным чынам.

У сваю чаргу, ваенны хранатоп рамана не грунтуецца выключна на сцэнах бітваў ці наступаў войскаў, а засяроджвае ўвагу чытача на жыцці ў нямецкім канцлагеры. Для зняволеных час здаецца бясконцым, вымяраецца інтуітыўна: “Усё-ткі да канца гульні павінна застацца мінут дзесяць, не болей” [1, с. 90]. Людзі розных нацыянальнасцей тут пазбаўлены імёнаў. Усё, што ў іх засталося, – нумар як адметная асаблівасць кожнага са зняволеных і бруднае адзенне. Жыццё ў канцлагеры разлічана па гадзінах. Складаецца яно з гульні ў футбол, працы ў кар’еры, маршаў, невялікага пе ракусу і нядоўгага адпачынку. Для выканання асобных загадаў зняволеныя вымушаны

пакідаць межы канцлагера. У гэтым выпадку дарога ад аднаго локусу да другога робіцца яшчэ больш небяспечнай, чым жыццё па графіку: яна "ў любое імгненне магла перарвацца, магла зрабіцца апошняй" [1, с. 211].

Важным элементам у рамане "Футбол на замініраваным полі" становяцца ўспаміны як форма перцэптуальнага хранатопу. На думку Р. Зобава, перцэптуальная прастора і час з'яўляюцца важнай умовай "ажыццяўлення і змены чалавечых пачуццяў і іншых псіхалагічных актаў суб'екта" [3, с. 11]. Дзякуючы тактыльным, гукавым і візуальным адчуванням, героі трапляюць у шчаслівае дзяцінства і маладосць, перамяшчаюцца ў далёкае і адносна блізкае мінулае: "Тук-тук-тук… Дзе я ўжо чуў такое? А, гэта было ў дзяцінстве… Мы гулялі ў хованкі… Я ляжаў, схаваўшыся ў густой траве" [1, с. 96]. У перцэптуальным хранатопе прастора расцягваецца, а рэальны час для героя спыняецца. У падсвядомасці дзеючай асобы аднаўляюцца рухі і гутаркі мінулых дзён, а ўнутраны псіхалагічны стан героя пры гэтым нярэдка характарызуецца супярэчлівасцю. Да прыкладу, будучы зняволеным, чалавек разважае так: "<…> я, вольны, лёгкі, бягу па лугах і лясах, праз балоты і рэкі" [1, с. 99].

Часам перцэптуальны хранатоп набывае ўскладненую форму. Умоўна яе можна пазначыць як успаміны ва ўспамінах. У такім выпадку час расцягваецца і падзяляецца на тры кампаненты: рэальнасць – недалёкае мінулае – далёкае мінулае. У творы адзначаныя часы суадносяцца як сучаснаць – вайна – даваеннае жыццё. Увядзенне ў твор перцэптуальнага хранатопу дазваляе Л. Дайнеку не толькі дакладна перадаць падзеі мінулага, але і прасачыць за псіхалагічным станам герояў, за эвалюцыяй у іх характарах. Аналізуючы ў думках свае паводзіны, дзеючая асоба нярэдка адчувае сорам за свае ўчынкі, імкнецца да пераацэнкі ранейшых дзеянняў, як, да прыкладу, Іван Пама лейкін: "Яны загінулі. Калі б ішоў першы я, міна ўзарвалася пад маёй нагою. Але я ішоў ззаду. Што гэта – выпадковасць або заканамернасць, што я ішоў ззаду?" [1, с. 124].

Адметная і назва рамана "Футбол на замініраваным полі". Гэта найперш метафара сучаснага жыцця, што таксама нагадвае хаджэнне па мінах. На пярэдні план твора выводзіцца вобраз чалавека "з эластычным сумленнем" [1, с. 302] – Івана Іванавіча Памалейкіна. Мужчына меў у душы "падвойнае дно" [1, с. 234] і "большы ахоўны рэфлекс" [1, с. 108]. Неадчэпнае жаданне выратавацца штурхае Івана Памалейкіна да здрады. Мужчына не раз пагарджае жыццём сваіх таварышаў, хаця і робіць гэта на інстынктыўным узроўні. Падслухаўшы, што футбольнае поле ў канцлагеры будзе замініравана, Іван Памалейкін апынаецца перад выбарам: альбо памерці, альбо выратавацца. Калі прыходзіць час гульні ў футбол, герой прыкідваецца хворым на сэрца, тым самым хлусіць не толькі фашыстам, але і сваім сябрам. Мужчына застаецца на ўзбочыне поля ў якасці суддзі, бачыць смерць таварышаў.

Каб супакоіць сваё сумленне, Памалейкін пазней, у пасляваенным жыцці, пераязджае з месца на месца, шукае новыя віды працы, двойчы бярэ шлюб. Спробы знайсці бяспечны прытулак для сваёй душы прыводзяць персанажа да непрыемнага адкрыцця. Выратаваўшыся, мужчына назаўсёды страчвае сябе, "бо нельга <…> жыць без сяброў, без кахання <…>, без любові сына <…>" [1, с. 301]. Назіраючы за абыякавасцю блізкіх, Іван Памалейкін заўважае, што "міны, ад якіх ён калісьці сумеў вывернуцца, пачалі рвацца сёння, і асколкі ў іх <…> вастрэйшыя і больш балючыя" [1, с. 301]. Фінал рамана ў пэўным сэнсе адкрыты. Л. Дайнека выкарыстоўвае прагнастычны час, каб адлюстраваць бліжэйшую будучыню кожнага з герояў. А пра тое, што будзе з імі далей, чытач мае магчымасць дадумаць самастойна: "Лёнік! Лёнік!" – ціха пакліча яго Сцяпан. Хлопчык выпусціць з рук цацку і азірнецца" [1, с. 303]. Прысутнасць прагнастычнага часу заўважаецца і ў іншых частках твора. Да прыкладу, сучасны паэт Павел Моніч пасля ўдзелу ў паэтычным вечары разважае аб сваім прыездзе дадому і не ведае, што "жыць яму засталося нейкія дваццаць мінут" [1, с. 297]. Праз адзначаны час мужчына памірае ў бойцы.

Прастора твора звычайна закрытая (горад, канцлагер, вагон, пакоі кватэры). Выкарыстанне дзеясловаў са значэннем руху альбо стану дазваляе лепш адчуць атмасферу, у якой жывуць і дзейнічаюць персанажы, а таксама перадаць іх маральныя і фізічныя пакуты: “Я нагружаў ваганетку <…>. Мы ледзьве стаялі на нагах, хісталіся <…>. Потым ваганеткі паднімаліся ўгору, і там іх трэба было разгрузіць. Там ужо іншыя зняволеныя ўзвальвалі мокры цяжкі шчэбень на платформы” [1, с. 94]. Акрамя таго, у рамане выразна вылучаецца ідылічны хранатоп з уласцівай яму ідэяй любові да роднай зямлі.

Такім чынам, у рамане “Футбол на замініраваным полі” з дапамогай прыёму рэтраспекцыі Л. Дайнека адлюстроўвае тры часавыя пласты: сучаснасць, Вялікую Айчынную вайну і даваеннае жыццё, сувязь паміж якімі ажыццяўляецца праз феномены памяці і сумлення. Локусы ў творы пераважаюць над топасамі, і галоўныя з іх – локус горада як увасабленне бездухоўнасці сучаснага соцыуму; сімвалічна-сакральны локус могілак, што дазваляе пісьменніку данесці ідэю сувязі з продкамі, захавання гістарычнай памяці; локус канцлагера з яго дакладна размераным, расцягну тым часам. У рамане выкарыстаны і скразныя для творчасці пісьменніка прыёмы: павышэнне дынамікі сюжэта за кошт увядзення ў тэкст вялікай колькасці дзеясловаў, прагнастычнага часу, ідылічнага хранатопу з уласцівай яму ідэяй адданасці роднай зямлі. Асаблівая роля ў творы належыць перцэптуальнаму хранатопу, які дазваляе глыбока раскрыць псіхалогію герояў і эвалюцыю іх характараў.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Дайнека, Л. Футбол на замініраваным полі / Л. Дайнека. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1983. – 303 с.

2. Федоров, П. В. Кладбище как многозначный социокультурный феномен: общие подходы (на примере Кольского Севера) / П. В. Федоров // Некрополи Кольского Севера: изучение, сохранение, коммуникация / Министерство образования и науки РФ, МГГУ [и др.]. – Мурманск: МГГУ, 2013. – С. 17–26.

3. Зобов, Р. А. О типологии пространственно-временных отношений в сфере искусства / Р. А. Зобов, А. М. Мостспаненко // Ритм, пространство и время в литературе и исскустве. – Ленинград: Наука, 1974. – С. 11–25.

УДК 398.3(476.2-37Жыткавічы)

***А. А. Кастрыца, В. С. Новак***

# МІФАЛАГІЧНЫЯ ЎЯЎЛЕННІ ЖЫХАРОЎ ЖЫТКАВІЦКАГА РАЁНА

У артыкуле на багатым фактычным матэрыяле асэнсоўваюцца шматлікія павер’і, звязаныя з біблейскай міфалогіяй, раслінным, жывёльным і рэчыўным светам, ілюструецца паэтычнасць светапогляду жыхароў Жыткавіцкага Палесся. Праведзеныя аўтарамі сістэматызацыя і класіфікацыя аўтэнтычных матэрыялаў дазволілі выявіць багацце варыянтаў міфалагічных апавяданняў, запісаных у палявых экспедыцыях, устойлівы характар іх захавання ў народнай памяці.

У палявых экспедыцыях, праведзеных на тэрыторыі Жыткавіцкага раёна, запісаны ўнікальныя фальклорныя матэрыялы, звязаныя з народным асэнсаваннем веры ў Бога, разуменнем такіх паняццяў, як “рай” і “пекла”, спасціжэннем сутнасці міфалагічных уяўленняў пра прыродныя стыхіі, жывёльны, рэчыўны і раслінны свет. Засяродзім спачатку ўвагу на экспедыцыйных запісах звестак пра асэнсаванне

біблейскіх падзей. Заслугоўвае ўвагі народная інтэрпрэтацыя праблемы паходжання свету. Калі, напрыклад, паводле сведчанняў жыхароў в. Бялёў, *"свет стварыў Бог"* (запісана ад Жогаль А.М., 1910 г.н.), то, зыходзячы з разважанняў жыхароў в. Рычоў, *"свет узнік ад Евы і Адама"* (запісана ад Андрэйкавец Марыі Іванаўны, 1935 г.н.). Паводле сведчанняў інфармантаў, Бог мае воблік чалавека: *"У Бога я веру. Ета такі ж чалавек, як му"* (запісана ў в. Боркі ад Юнчыц Ганны Кандрацьеўны, 1935 г.н.). У міфапаэтычным асэнсаванні жыхароў Бог выступае ў ролі найвышэйшай сілы, ад якой многае залежыць у жыцці чалавека: *"Еты ж чалавек усё можа: можа і палячыць, і хваробу паслаць, мы ж усе пад Богам ходзім* (запісана ў в. Боркі ад Юнчыц Ганны Кандрацьеўны, 1935 г.н.)".

Заўважым, што народныя ўяўленні пра рай і пекла маюць традыцыйны характар і звязаны непасрэдна з тым, наколькі годным было жыццё чалавека: *"Калі ж чалавек быў добры, дык ён, канешне ж, у рай пападзе. Рай знаходзіцца на небе, там, дзе Божанька жыве. ...а калі плахі быў чалавек, Божанька яго не прымае і душа ягоная лятае між людзьмі, пакуль не выправіцца"* (запісана ў в. Лагвошчы ад Сінілы Ганны Яўгеньеўны, 1927 г.н.). У асобных тэкстах міфалагічных апавяданняў адлюстраваны матыў "Божага суда" над душамі памерлых: *"Пасля смерці душы памершых прылятаюць на суд Божы, дзе рашаецца, падуць яны ўніз ці ўзнімуцца ў вырай"* (запісана ў в. Малешаў ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.). Невыпадкова мясцовыя жыхары прытрымліваліся ў жыцці і побыце высокіх маральна-этычных прынцыпаў, асабліва імкнуліся не шкодзіць іншым людзям, каб не трапіць пасля смерці ў пекла: *"Баяліся зрабіць якую злоснасць, каб не пасці ўніз"* (запісана ў в. Малешаў ад Давыдавай Вольгі Аляксандраўны, 1957 г.н.). Іншы раз лёс дзіцяці маглі прагназаваць ў залежнасці ад таго, як паводзілі сябе яго бацькі. Лічылася, што за іх грахі ў будучым будуць пакутаваць дзеці: *"Канешне, лёс вызначаны ў кожнага. Хтосьці будзе гараваць усё жыццё, як дурны. А хтосьці – радавацца жыццю. Калі бацькі нарабілі шмат гора, і пражыўшы жыццё, не паквіціліся за гэта, дык бедным зробіцца дзіця, будзе пакутаваць усё жыццё: такі, мо, лёс"* (запісана ў в. Любавічы ад Бялко Наталлі Савічны, 1943 г.н.).

Этыялагічныя легенды, як сцвярджаюць сучасныя даследчыкі традыцый народнай спадчыны, у прыватнасці А. М. Боганева, "самая значная частка любой рэгіянальнай або нацыянальнай "народнай Біблії" [1, с. 12]. У гэтых адносінах цікавасць уяўляюць міфалагічныя апавяданні, у якіх гаворыцца аб стварэнні першых людзей. Аснову найбольш распаўсюджаных ўсходнеславянскіх вераванняў аб паходжанні чалавека складае біблейскі матыў яго "ўзнікнення" з зямлі: *"Бог хадзіў па зямлі, яму аднаму было вельмі сумна. Ён вырашыў стварыць чалавека: узяў горсць зямлі і сыпнуў з усёй моцы"* (запісана ў в. Любавічы ад Бялко Наталлі Савічны, 1943 г.н.).; *"Бог саздал зямлю, всё растушчэе на земле, а на шэстой дзень саздал з гліны і пяску первого чэлавека – Адама"* (запісана ў г. Жыткавічы ад Халязнікавай Матроны Мартынаўны, 1923 г.н.).

Сярод этыялагічных матываў міфалагічнай прозы Жыткаўшчыны вылучаюцца наступныя: чаму жанчына вымушана ўвесь час працаваць, ці ведалі людзі час сваёй смерці. Што да першага матыву, то ўзнікненне яго абумоўлена неэтычнымі адносінамі жанчыны да чалавека, які аказаўся Богам, што знайшло адлюстраванне ў адным з варыянтаў, запісаным у в. Рычоў: *"Бог падышоў да жанчыны, яна жыто жала, і ёй не было калі паказаць Хрыстосу дарогу. Яна паказала дарогу нагою, тады ён сказаў: "Ты будзеш век працаваць, не будзеш ніколі аддыхаць"* (запісана ад Андрэйкавец Марыі Іванаўны, 1935 г.н.). Другі матыў, узнікненне якога звязана з прадчуваннем чалавекам уласнай смерці, з'яўляецца вызначальным у тэксце міфалагічнага апавядання, запісанага ў в. Дуброва: *"А етаму чалавеку трэ було ўжэ паміраць, а ў гэты час плот у яго паваліўся ды суседскія куры ў гарод лезуць. Ён і вырашыў плот саломай загарадзіць.*

На пытанне “На якой мове Вы чытаеце мастацкую літаратуру?” (была магчымасць выбару некалькіх варыянтаў) 99,4 % рэспандэнтаў назвала рускую, і 27,7 % – рускую і беларускую мовы.

На пытанне “Літаратуры на якой мове Вы аддаяце перавагу?” 93,7 % адказалі “На рускай” і толькі 5 % – “На беларускай мове”. У параўнанні з даследаваннем 2011 года на беларускай мове сталі чытаць меней.

Што да лакальных рызык, то для беларускай літаратуры як феномена айчыннай сацыякультурнай прасторы найбольш істотнымі рызыкамі, на наш погляд, сёння становяцца пагрозы “*негатыўнай элітарнасці”* і “*этнаграфічнасці”.*

Першая мае на ўвазе павелічэнне камунікатыўнага разрыву паміж творамі найноўшай нацыянальнай літаратуры і так званай шырокай чытацкай аўдыторыяй. Цікава, што ўспрыманне публікай сучаснай беларускай літаратуры як “мінус-элітарнай” грунтуецца, як правіла, на незнаёмстве з творамі, на іх, так бы мовіць, прынцыповым не-чытанні (класічным творам альбо творам так званага “школьнага канону” пашанцавала больш).

Так, у межах згаданага даследавання задавалася пытанне “Якіх сучасных беларускіх пісьменнікаў вы ведаеце?”. Большасць апытаных не змаглі назваць якія-небудзь вядомыя ім імёны. Але незадаволенасць беларускай літаратурай пасля знаёмства з яе творамі выказвалі толькі 7,2 % рэспандэнтаў.

Адметна, што пры набыцці кнігі беларусы ў першую чаргу звяртаюць увагу на імя аўтара, і вядомасць пісьменніка мае большае значэнне, чым кошт кнігі. Інакш кажучы, чытачы гатовыя плаціць за брэнд.

Парадаксальным чынам феномен адсутнасці масавай беларускай літаратуры – гэта феномен чытацкай *“зручнасці”, “утульнасці”*. Ці *“няўтульнасці”, “нязручнасці”* (можна паставіць знак роўнасці).

Сярэднестатыстычнаму чытачу на Беларусі зручна, утульна чытаць масліт па-руску, а беларуская літаратура  ўжо з аднае тае прычыны, што яна камунікуе з чытачом на беларускай мове, як бы аўтаматычна выцясняецца з зоны камфорту, перастае быць зручнай, лёгкаўжывальнай і выштурхоўваецца ў прастору элітарнага. Але гэта дзіўнае “элітарнае”, мінус-элітарнае.

Інакш кажучы, у беларускай літаратурнай сітуацыі “масавасць” наўпрост залежыць ад узроўню “ўтульнасці”. Кантэкст такі, што меладраматычны рускамоўны твор будзе залічаны ў масавую літаратуру, а меладраматычны беларускамоўны твор аўтаматычна ўключаецца чытацкай свядомасцю ў “канон” і манціруецца з высокай літаратурнай традыцыяй – сентыменталізму, рамантызму.

Заўважым яшчэ, што пад уплывам негатыўнай элітарнасці дэфармуецца ўспрыманне не толькі твораў, але і вобразаў пісьменнікаў. Першае тычыцца тыражуемага меркавання пра беларускую літаратуру як пра “творы пра вайну і вёску”. Другое  выдатна ілюструецца паданнем пра тое, як пісьменнікі Людміла Рублеўская і Віктар Шніп ездзілі некалькі год таму ў далёкую ад сталічнага Мінска школу і выклікалі шчырае здзіўленне ў аднаго са школьнікаў, што ў Беларусі, аказваецца, ёсць яшчэ “жывыя пісьменнікі”…

Яшчэ адна пагроза – акрэслім яе як пагрозу “этнаграфічнасці” – вынікае з пагрозы негатыўнай элітарнасці, паколькі актыўнае нежаданне грамадскасці быць абазначанай у сучаснай літаратуры вынікам мае стэрэатыпізацыю ўспрымання найноўшага мастацтва слова ў духу “музейнасці”, “этнаграфічнасці”.

Гістарычная неабходнасць сцвярджаць штораз нанова ўласную ідэнтычнасць прыводзіць да фарміравання *ідэнтычнасці абарончага кшталту* (прадметам асобнай увагі, выключна цікавым і неадназначным, у гэтым сэнсе бачыцца феномен *тутэйшасці*, што мае літаратурныя карані). Новай інфармацыйнай рэальнасцю ідэнтыфікацыйныя працэсы такога кшталту ацэньваюцца як неэфектыўныя. Абарона тут роўная паражэнню, сама спецыфіка новага інфармацыйнага асяроддзя вымагае наступлення, экспансіі, актыўнасці. Для беларускай літаратуры эвалюцыйныя

перспектывы звязаны, на наш погляд, *з трансфармацыяй ідэнтычнасці абараняльнай у ідэнтычнасць праектнага кшталту*.

На наш погляд, змена вектару ідэнтыфікацыйных працэсаў з абараняльных на праектныя звязана з канструяваннем найноўшай *мастацкай міфалогіі беларушчыны* як агульнанацыянальнага праекту і адначасова (сама)ідэнтыфікацыйнага праекту найноўшай літаратуры. Прычым у беларускай літаратурнай прасторы пачатку XXI ст. можна заўважыць пэўныя сведчанні на карысць таго, што пераход да *ідэнтычнасці праекта* не ёсць чыстай футуралогіяй.

Вось гэтая найноўшая мастацкая міфалогія, *беларушчынацэнтраваная*, можа стаць “пунктам адліку” гісторыі масавай літаратуры, праўда, спецыфічна беларускай. Цудоўным чынам згаданая міфалогія з’яўляецца ў правільным месцы ў правільны для сябе час. Маем на ўвазе тое, што сама сеціўная прырода / логіка развіцця сучаснага грамадства для найноўшай беларускай літаратуры ўтрымлівае пагрозы, якія пры правільнай факусіроўцы трансфармуюцца ў шыкоўныя магчымасці.

Варта звярнуць увагу на пункт, які тычыцца скіраванага выкарыстання патэнцыялу інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій і медыя для актуалізацыі нацыянальнай літаратуры як брэндавага феномена сучаснай медыяпрасторы.

Два вельмі канкрэтныя прыклады.

У 2007 годзе ўпершыню з’явіўся твор Людмілы Рублеўскай “Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію” [4]. Гэты твор у змястоўна-сэнсавым плане ёсць *мастацкім даследаваннем* гісторыі выжывання беларушчыны як нацыянальнай ідэі падчас рэпрэсій 1920-х – 1930-х гг. Традыцыйная аксіялагічная важкасць згаданай праблематыкі ўвасабляецца аўтарам у жанры «рамана-інструкцыі». Кампазіцыйна ён выбудаваны як своеасаблівы квест, што складаецца з набораў нумараваных элементаў: “Удзельнік...” (іх 5), “Абсталяванне для гульні”, “Гульня” (6 “версій”), “Па-за гульнёй” (8 “фрагментаў”), “Фінальная гульня” (2 “варыянты”), “Эпілог” (5 “камбінацый”). Героі-гульні “фізічна” перамяшчаюцца з Мінска 2000-х у Менск 1933 г. праз своеасаблівы прагал у часепрасторы. Размешчаны ў інтэрнэце, твор набывае ўласцівасці сапраўднага гіпертэксту, у межах якога карыстальнік можа абіраць сваю таекторыю “Гульні ў Альбарутэнію”, канструяваць сюжэт з розных камбінацый фрагментаў, вызначаць фінал і г. д. Аўтар звяртаецца да гульнёвага арсеналу постмадэрнісцкай літаратуры, актуалізуе асобныя жанрава-стылявыя кампаненты гатычнага рамана, скарыстоўвае прыёмы з рэ-пертуару фэнтэзі, дэтэктыва, меладрамы. У выніку маем узор удалай трансфармацыі жанравай формы рамана ў адказ на выклікі новай інфармацыйнай рэальнасці. Пры гэтым аўтару ўдалося напоўніцу скарыстаць змястоўны патэнцыял рамана як формы вялікага эпасу і закадзіраваць анталагічна важныя для нацыянальнай традыцыі каштоўнасці, ідэі, канцэпты ў асобаснай мастацкай версіі агульнабеларускай гісторыі.

Яшчэ адзін прыклад таго, як літаратурная актыўнасць у інтэрнэце становіцца важнай часткай праектаў, арыентаваных на пашырэнне чытацкай аўдыторыі сучаснай беларускай літаратуры. Так, напрыканцы кастрычніка 2016 года аператар мабільнай сувязі Velcom запусціў новы культурна-адукацыйны праект у падтрымку беларускай літаратуры пад назвай Movabox Арганізатары праекта прадставілі асобны сайт (http://movabox.by), на якім на працягу паловы года будуць прадстаўлены чатыры творы беларускіх пісьменнікаў.

Стартам праекта стаў раман Людмілы Рублеўскай “Авантуры студыёзуса Вырвіча”. Гэта другая частка серыі гісторыка-прыгодніцкіх кніг вядомай пісьменніцы пра шляхціца Пранціша Вырвіча, яго жыццё і прыгоды ў XVIII стагоддзі.

Любы, хто пажадаў, мог прайсці невялікі тэст (якім з герояў кнігі ён з’яўляецца), зарэгістравацца – і прыняць удзел у розыгрышы аднаго з дваццаці тэматычных камплектаў. Кожны камплект утрымліваў рэчы, непасрэдным чынам звязаныя з падзеямі рамана: саму кнігу, набор для вырошчвання магічнага крышталя, мяшэчак з манеткай, карту падарожжа; галоўных герояў рамана, натанік з чорнымі старонкамі, ручку з белым

чарніламі, магніцік з выявай прыдуманага горада, які згадваецца ў кнізе, і таксама рэцэпт традыцыйнай беларускай стравы – верашчакі. Можна сказаць, што ў інтэрнэт-прасторы кніга Л. Рублеўскай набыла новае жыццё: "MOVABOX не проста выдатна: кніга... гэта сапраўдны рытуал чытання, які адкрывае новыя грані ўспрымання папяровых старонак. Гэта ўнікальны набор для літаратурнай прыгоды, заклікaны даказаць, што сучасныя беларускія кнігі здольныя заваяваць месца ў вашым сэрцы" [5]. Такім чынам, адносна масавую аўдыторыю беларуская літаратура можа разлічваць сустрэць менавіта ў інтэрнэце, дзе рэалізуецца не толькі як уласна мастацка-эстэтычны феномен, але як праект сучаснай медыякультуры, інтэрактыўны інтэрнэт-праект.

Сеціва задае прынцыпова новую якасць хранатопа (часапрасторы) існавання беларускай літаратуры. Высокатэхналагічныя інструменты камунікацыі здольныя ў літаральным – геаграфічным – сэнсе ніверліраваць паняцце "межаў" у дачыненні да прысутнасці беларускай літаратуры ў свеце. Адзін (хоць і не адзінкавы) прыклад – "паэтычна-геаграфічны" інтэрнэт-праект "Вершы без межаў", запушчаны маладым паэтам, музыкантам Мікітам Найдзёнавым. Творы з яго дэбютнага зборніка "Развітанцы" (2015) чыталі беларусы ў розных кутках свету (у ЗША і на Гоа, у Чэхіі і В'етнаме, у Даніі і Славакіі); відэаролікі спачатку выкладваліся ў адну з сацыяльных сетак, пасля разышліся па іншых рэсурсах інтэрнэта. Гэты праект падаецца выдатнай ілюстрацыяй да размовы пра якасныя змены нацыянальнай прасторы чытання, якая становіцца ў гэтым выпадку лакалізаванай (беларускацэнтраванай) і глабальнай (без межаў) адначасова.

Падсумоўваючы, паспрабуем формульна выразіць спецыфіку існавання беларускай масавай літаратуры як мастацкай з'явы і культурнага феномену.

Тэорыя ведае, якой павінна быць масавая беларуская літаратура, але разумее, чаму гэта немагчыма на практыцы. Літаратурная практыка здагадваецца, што гэта немагчыма "як ва ўсіх", таму разгортваецца як сукупнасць індывідуалізаваных (персонацэнтраваных) праектаў, што "адбываюцца" як сінтэз уласна літаратуры і найноўшых медыя- ды інфармацыйных тэхналогій.

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Шаўлякова-Барзенка, І. Л. "Утылітарная аксіялогія": беларуская літаратура канца XX – пачатку XXI стагоддзяў у *рэтраперспектыве* тыпаў літаратурнай творчасці / І. Л. Шаўлякова-Барзенка // Науковий вісник Волинського національного університету імені Лесі Українки. Філологічні науки. Літературознавство. – Луцьк, 2010. – № 11. – С. 280–284.

2. Шаўлякова-Барзенка, І. Беларуская літаратура ў інфармацыйным грамадстве: пагрозы як гарантыя перспектыў / І. Шаўлякова-Барзенка // Полымя. – 2017. – № 1. – С. 103–114.

3. Культуру чытання беларусаў абмеркавалі ў Мінску [Электронны рэсурс]: Будзьма беларусамі, 2008–2015. – Рэжым доступу: http://budzma.by/news/kulturu-chytannya-byelarusaw-abmyerkavali-w-minsku.html. – Дата доступу: 11.03.2017.

4. Рублеўская, Л. Сутарэнні Ромула: раманы / Л. Рублеўская. – Мінск : Кнігазбор, 2012. – 520 с.

5. MOVABOX. Чытаем па-беларуску [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: http://movabox.by/. – Дата доступу: 01.03.2017.

УДК 821.161.3-1*П. Шруб

***В. К. Шынкарэнка***

## САМАБЫТНАСЦЬ ЧОРНА-БЕЛАГА СВЕТУ ПАЎЛА ШРУБА

У артыкуле даследуецца вернасць паэта-фізіка родным вытокам, непаўторным Жыткаўшчыне, Палессю, усёй Беларусі. Пры гэтым многія рэаліі з біяграфіі аўтара ілюструюцца яго ўласнымі

паэтычнымі высновамі. Ідэйна-мастацкі аналіз асобных вершаў П. Шруба дазваляе пераканацца ў самабытнасці яго творчай індывідуальнасці, непаўторным гучанні голасу, багатым спектры фарбаў пры перадачы размаітага хараства акаляючага свету, які пасля Чарнобыльскай трагедыі часта абмяжоўваецца адценнямі чорнага і белага колераў.

Паэзія Паўла Міхайлавіча Шруба, сябра СП СССР, аўтара зборнікаў вершаў «Лабараторыя» (1987; прэмія Ленінскага камсамола Беларусі ў 1988 г.), "Позні світанак" (1992), "Чорна-белы свет" (1995) і іншых, здольная выклікаць да сябе асаблівы інтарэс ужо тым, што створана фізікам. Але дзеля аб'ектыўнасці неабходна ўдакладніць, што прыведзены факт шчаслівага прафесійнага і творчага разыходжанняў асобы далёка не адзінкавы ў айчыннай літаратуры. У якасці прыкладаў таленавітага спраўджвання ў мастацтве слова тут можна ўзгадаць медыкаў Алеся Наўроцкага і Юрку Геніюша, інжынераў розных кірункаў Анатоля Грачанікава, Алега Мінкіна, Алеся Чобата, электрыка Леаніда Галубовіча, хіміка Галіну Булыка, будаўніка Віктара Шніпа, архітэктара Людмілу Рублеўскую і іншых аўтараў. П. Шруба з пералічанымі і многімі неназванымі пісьменнікамі найперш збліжае шчырае перакананне ў сапраўдным прызначэнні мастацкіх твораў – гэтых своеасаблівых "сачыненняў на вольную тэму":

*Як заўсёды, не важна колькі:*
*бярэмак тамоў*
*ці танюткая кніжка –*
*душа б у радках гучала…* [1, с. 19]

Менавіта душэўнасць, заўсёдная патрэба верша ў эстэтычных адкрыццях, "каб крок (і апошні) / быў першым, / быў першым…" [1, с. 141], аднолькава як і глыбінная сіла выгадаваных роднай глебай каранёў, нястомнае вяртанне да вытокаў, імкненне пранікнуць у сутнасць рэчаў, загадкі свету, веданне жыцця, кажучы словамі Р. Барадуліна, "і на смак, і на колер, і на радасць, і на бяду" "думкай відушчай, сэрцам узрушаным, потам салёным…" [2, с. 7] з'яўляюцца ўстойлівымі складнікамі сапраўднага інтарэсу да творчасці паэта.

Думаецца, з гэткаю ж мэтай не будзе лішнім узнавіць асобныя моманты з біяграфіі пісьменніка, які дагэтуль не асабліва часта трапляе ў поле зроку даследчыкаў. А нарадзіўся Павел Шруб 20 лютага 1955 г. у вёсцы Хільчыцы Жыткавіцкага раёна ў шматдзетнай і дружнай сялянскай сям'і. Пазней у вершы "***Мы пройдзем…" пра сваё дзяцінства паэт будзе згадваць як пра час ціхі і вельмі прыгожы, з безліччу неспазнаных таямніц і неабсяжнасцю межаў. І праз гады яго будзе здзіўляць: " – *Як гэта / у каляровым караблiку / маленства / змяшчаўся ўвесь сусвет?*" [1, с. 74]. У 1962–1970 гг. Павел вучыўся ў Хільчыцкай васьмігодцы. Рай Валянціна Міхайлаўна, першая настаўніца не па гадах сур'ёзнага і кемлівага хлопчыка, адзначала яго заўсёдную ўдумлівасць, сціпласць, выключную любоў да кніг. Менавіта яны на ўсё жыццё стануць лепшымі сябрамі Паўла, паспрыяюць замацаванню за ім мянушкі вучонага, рана падштурхнуць да ўласнай паэтычнай творчасці. Першае месца ў раёне за творчую працу, занятае па выніках рэспубліканскага конкурсу, што праходзіў пад дэвізам "Мой родны кут", дазволіла здольнаму школьніку атрымаць пуцёўку ва ўсесаюзны піянерскі лагер "Артэк". Пасля вяртання сваімі ўражаннямі ад наведвання знакамітага месца адпачынку савецкіх дзяцей хлопчык яшчэ доўга дзяліўся з сябрамі.

Павел заўжды з інтарэсам займаўся ўрокамі, дапамагаў сябрам у вучобе, а родным па гаспадарцы. Добры і спагадлівы бацька словам і справай быў гатовы ва ўсім падтрымаць свайго старэйшага сына, аднолькава як і меншых Івана, Аркадзя, Петруся (адзіная дзяўчынка ў сям'і рана памерла). Разам з дбайнай і ўважлівай жонкай ён клапаціўся пра выхаванне дзяцей, жадаў бачыць іх працавітымі і чулымі. Інакш і быць

не магло ў сям'і, дзе самі родныя працавалі з рання да ночы і, як і іх продкі, жылі з працы рук сваіх. Ды пры гэтым яшчэ любілі спяваць. Асабліва маці – прыгожая і ласкавая Марыя Пятроўна, першая спявачка на вёсцы, без якой ні адно вяселле не абыходзілася і якую вельмі любілі ў вёсцы за прыветлівы нораў. Адметна, што якраз праз веданне матуліных песень сын і дарослым будзе звяраць памяць уласнага сэрца, суадносіць яе з непарушнай адданасцю бацькоўскім вытокам, усяму роднаму краю. Такім своечасовым напамінам пра неабходнасць вяртання да сябе ранейшага для лірычнага суб'екта П. Шруба ў вершы "***Што ні лета – над палямі…" становіцца той горкі момант, калі ён раптам адчуў:

*Песню матчыну спяваюць,*
*а я столькі слоў не помню…* [1, с. 9]

У дзявятым класе юнак вучыўся ў Рычоўскай сярэдняй школе. Часта вясною туды даводзілася дабірацца нават на лодцы, што было досыць небяспечна. І тады бацькі вырашылі адправіць сына давучвацца ў Тураўскую СШ №1. У канцы таго ж навучальнага года Павел, каб атрымаць атэстат за 10 клас, самастойна рыхтуе ўсе неабходныя прадметы і экстэрнам здае іх на "выдатна". Так, у пятнаццацігадовым узросце юнак (не без прыгод, бо выклік прыйшоў са спазненнем, а таму давялося дабівацца асобнага дазволу на здачу ўступных экзаменаў) бліскуча здасць усе іспыты і, прыемна ўразіўшы членаў прыёмнай камісіі змястоўнасцю сваіх адказаў, будзе залічаны на фізічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта. Пазней пра гэты вызначальны паварот у сваім лёсе ў вершы "***Зачарпнуў…" П. Шруб напіша так:

*Фанерны чамадан у руцэ*
*і свет шырокі-шырокі… –*
*Сняцца нават рацэ*
*яе вытокі…* [3, с. 6]

У далейшым дзякуючы вялікай самастойнай працы, адказнаму стаўленню да засваення зместу асноўных спецыяльных і дадатковых дысцыплін беларускі студэнт, выхадзец з палескай глыбінкі, зможа годна справіцца з усімі цяжкасцямі навучання ў вядомай і прэстыжнай установе. Не менш клапоціцца Павел і пра агульнае развіццё. Ён адразу ж актыўна далучаецца да культурнага жыцця паўночнай сталіцы, па-ранейшаму шмат чытае, імкнецца пазнаёміцца з творамі забароненых у СССР аўтараў.

І ўсё ж насычаны падзеямі час вучобы, як і наступныя перыяды сталага жыцця (маюцца на ўвазе вучоба ў Наваполацкім політэхнічным інстытуце, праца на кафедры фізікі ў гэтай жа ўстанове, пазней у Мінскім інстытуце ядзернай энергетыкі, служба ў войску, пасада выкладчыка-метадыста Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі, завочная вучоба ў Мінскай вышэйшай школе Міністэрства ўнутраных спраў СССР), не вызваляюць вяскоўца П. Шруба, гатовага плакаць з вербамі ніцымі, ад ментальных пакут. Яго душа жадае адзінства, а між тым вымушана выбіраць, падобна казачнаму герою, з двух шляхоў адзін або застываць, як у аднайменным вершы, на паўдарозе:

*Паміж вёскай і горадам стану,*
*паміж вёскай і горадам –*
*направа асфальт беззаганны,*
*налева сцяжына чорная* [1, с. 22].

Увогуле, пачуццё пэўнай разарванасці ("*Рукі мае ў гарадах, / сэрца маё на вёсцы…"*, [1, с. 79]) – часты госць лірычнага героя паэта, які жыве ў свеце, дзе ўсе

побач і адначасова кожны сам па сабе: са сваімі радасцю, болем, самотай, танюткай надзеяй вяртання да сябе ранейшага і горыччу разумення зробленых непапраўных памылак (“Паляванне на апошняга жураўля”, “Неперспектыўная вёска”, “Блудны сын”, “Пахаванне песні” і інш.).

Якраз сялянская цягавітасць, заўсёдная прага вучыцца, спасціжэнне засвоенага папярэднікамі і ўменне выводзіць з усяго перажытага ўласныя ўрокі мудрасці, калі “мазолісты вопыт былога / крыламі за плячыма” [1, с. 49], дазволілі паэту адкрыць найасноўны закон светабудовы, асабліва дакладна сфармуляваны ў вершах “***Дарогі роднай Беларусі…” і “***Па шашы ад Жыткавіч на Тураў…”

*Я раздарожжаў не баюся, –*
*спазнаў даўно я: адусюль*
*дарогі роднай Беларусі*
*вядуць да любых і матуль* [1, с. 154].

Сёння паэт і палкоўнік у адстаўцы П. Шруб жыве з сям’ёй у Мінску. Але ў час прыездаў у родную вёску ён заўжды імкнецца наведаць школу, адкуль пачаўся яго шлях у дарослае жыццё, пахадзіць па знаёмых мясцінах, дзе “…у наваколлі жыве рэха прамоў Кірылы Тураўскага” [2, с. 5], сустрэцца з незабыўнымі землякамі, лесам і ракой, такімі шчодрымі ў яго дзяцінстве на свае дары. Відаць, для таго, каб яшчэ раз пераканацца, што “*Радзімы жывая вада / нікому не шкодзіць*” [1, с. 21]; што

*няма анічога лепей*
*калючых калоссяў жыта*
*і ціхенькай вузкай сцежкі*
*пад жаўруковым крылом* [1, с. 114].

Нельга не пагадзіцца з высноваў паэта пра наяўнасць у лёсе кожнага з нас сваёй лабараторыі, “*дзе мы ўрачы і ў той жа момант / хворыя…*” [1, с. 54]. Справа ў тым, што па шляху да пакарэння новых вяршынь, чарговых адкрыццяў, а яшчэ часцей – непатрэбнага штурмавання лесвіц, часцей з падпіленымі драбінамі (“Аксіёмы лесвіц”), ці неабдуманай пабудовы міражоў (“Паветраныя замкі”), падаць адкуль, як і з сапраўдных, аднолькава балюча, мы не столькі набываем, колькі страчваем. Магчыма, па гэтай прычыне лірычнаму суб’екту паэта ніяк не пазбавіцца ад адчування таго, што “…*ў нечым было мудрэй / дурное маё юнацтва*” [1, с. 79], што з гадамі і набытым жыццёвым вопытам “*нешта святое / на вечныя векі*” [1, с. 57] кожным з нас беззваротна губляецца.

Тым больш балюча паэту-навукоўцу ўсведамляць жахлівыя памеры тых незваротных разбуральных страт, якія могуць смяротна пагражаць акаляючаму свету і людзям праз неасцярожнае выкарыстанне лабараторных і наогул усіх навукова-тэхнічных адкрыццяў. У “Песні пра паравоз” безагляднае памкненне грамадства да прагрэсу любымі сродкамі П. Шруб з адкрытай з’едлівасцю атаясамлівае з вобразам цягніка з вядомай савецкай песні, які ляціць наперад без усякіх прыпынкаў “па бясконцаму кругу” і звыкла малоціць усіх “квадратнымі коламі” [3, с. 129], заадно пераўтвараючы Палессе ў пустыню, спальваючы ў сваёй топцы перадапошнія хаты і робячы чорным некалі сіні небасхіл. Выключна стрыманай інтанацыяй, якая не толькі не змяншае, а яшчэ больш падкрэслівае пранізлівы трагізм зместу твораў, адрозніваюцца вершы паэта чарнобыльскай тэматыкі “Чорныя кветкі” і “Палескі рэквіем”. Нават белыя кветкі Палесся, “бяды ўранавай сведкі”, бачацца лірычнаму суб’екту паэта чорнымі. Ён нават заклікае: “вы ў белы іх колер не верце…” [3, с. 88].

На разгорнутым супрацьпастаўленні белай і чорнай фарбаў, ужыванні вялікай колькасці паўтораў каларатываў і вобразаў-архетыпаў пабудаваны “Палескі рэквіем”

П. Шруба. Абгарэлыя стол, абрус, хлеб, соль, крыжы разам з пачарнелымі тварамі людзей і іх бязмерным болем праецыруюцца аўтарам на ўсю Белую Русь. У рэшце рэшт чорны колер запаланяе не толькі ўсё наваколле, але і людскія душы, што і дазваляе "Я"-герою твора з горыччу, якую асабліва падкрэслівае вынесенае ў асобны радок слова "*ацалелыя*", канстатаваць:

*Я не здзіўлюся нічуць,*
*калі цябе ўсе*
*ацалелыя*
*Чорнаю назавуць* [3, с. 141].

Як бачым, з гадамі паэтычны свет П. Шруба стаў больш кантрасным, пераважна чорна-белым. Заўважаецца таксама схільнасць аўтара да выбару больш лаканічных вершаваных форм. І ўсё ж паэт застаецца верным сабе, сваім непрычасаным думкам, таму ж старому гляку, зялёным воблакам і ўсмешкам дзяцінства, усяму адвечнаму. Найперш – полю, якое пахне рукамі маці і "*дзе родзіць жыта*" [3, с. 77].

**Спіс выкарыстанай літаратуры і крыніц**

1. Барадулін, Рыгор. Пад жаўруковым крылом / Р. Барадулін / Шруб, Павел. Лабараторыя: Вершы / П. Шруб. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 166 с. – С. 5–8
2. Шруб, Павел. Лабараторыя: Вершы / П. Шруб. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 166 с.
3. Шруб, Павел. Чорна-белы свет. Вершы / П. Шруб. – Мінск: Маст. літ., 1995. – 159 с.

*Навуковае выданне*

# Спадчына Скарыны: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

Зборнік навуковых артыкулаў

У дзвюх частках

Частка 1

Адказны за выпуск *М. В. Тарасенка*



Падпісана да друку 05.10.2017. Фармат 60x84 1/8
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. др. арк. 19,99.
Ул.-выд. арк. 17,41. Тыраж 40 экз. Заказ 743.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі
"Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны"
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вырабніка,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 3/1452 ад 17.04.2017.
Спецыяльны дазвол (ліцэнзія) № 02330 / 450 ад 18.12.2013.
Вул. Савецкая, 104, 246019, Гомель